ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

# ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

13 лютага 1998 г. № 7/3935 Кошт 4 000 руб.







*Фота А. Мацюша*

# ...Унесці розум у шаленства

***Небяспечнае мастацтва крытыкі — усяму шукаць повязі з усім. Налаўчонасць пераконваць. "Вялікае ўменне прыняць невялікі адступ ад ісціны за самую ісціну", — паводле аналогій, асацыяцый, паралеляў і чаго б там ні было...***

На сцэне. Па-за сцэнай — іншая рэч. Па-за сцэнай — тэатральная адміністрацыя. Яна ні філасофнічаць, ні дасціпнічаць не схіляе, асабліва ў такім фундаментальным утварэнні, як Нацыянальны тэатр імя Янкі Купалы. Увагу да яе могуць прыцягнуць толькі змены ў ёй. Асабліва ў такім фундаментальным утварэнні...

*(Працяг на стар. 11)*

# ЛіМ КОЛА ДЗЁН

***Некалькі тыдняў запар у “ЛіМе” не было “Кола дзён”. Была думка, што, магчыма, для першага развароту больш пасуюць аператыўныя матэрыялы, а не пералік падзей, што мелі месца на працягу тыдня. Аднак паразважаўшы, прыйшлі да высновы, што і такі падрахунак тыдня — рэч патрэбная. Таму “Кола дзён” аднаўляецца. З улікам спецыфікі нашай газеты акцэнт будзе рабіцца на падзеі культурніцкія.***

## УШАНАВАННЕ ТЫДНЯ

Сёння, 13 лютага, у Нацыянальным мастацкім музеі адкрылася выстава, прымеркаваная да юбілею Віталя Канстанцінавіча Цвіркі. Класік нашага мастацтва нарадзіўся 14 лютага 1913 года, гэтымі днямі яму было б 85 гадоў, але, на жаль, майстра ўжо няма з намі... Віталь Канстанцінавіч памёр у 1993 годзе. Гэтая выстава, мабыць, першая спроба прадставіць гледачу творчасць В. Цвіркі па магчымасці поўна і цэльна, акрэсліць ягонае значэнне для нацыянальнай і еўрапейскай культуры. Усе папярэднія персанальныя выставы Віталя Канстанцінавіча былі ад большага фрагментарнымі, асвятлялі толькі той ці іншы перыяд ягонага жыцця і творчасці. Віталь Цвірка быў геніем беларускага краявіду. Ягонае імя годна стаіць у адным шэрагу з Фердынандам Рушчыцам і Вітольдам Бялыніцкім-Бірулем.

## ВЕЧАРЫНА ТЫДНЯ

10 лютага ў Акадэмічным Рускім драматычным тэатры імя Горкага адбыўся юбілейны вечар заслужанага артыста Беларусі Уладзіміра Шэлестава (6 лютага яму споўнілася 50 год). Агульны стаж сцэнічнай працы — 31 год, з іх 21 год — у Акадэмічным Рускім імя Горкага. Ягонай першай роляй на гэтай сцэне была роля бандыта ў “Трохграшовай оперы” Брэхта. Зараз рыхтуе монаспектакль. Дарэчы, У. Шэлестаў мае тарыфікацыю рэжысёра.

## ГОСЦЬ ТЫДНЯ

З 13 па 24 лютага ў памяшканні тэатра “Дзе-Я?” адбудуцца гастролі лонданскага тэатра “ART-VIC”. Ангельскія артысты пазнаёмяць мінчукоў з п’есай С. Бекета “Выгнаннік” і казкай “Ангельскі дурань” (“Прынцэса-шакаладка”). На заканчэнні гастроляў, 24 лютага, ангельскія і беларускія акцёры разам выйдуць на сцэну ў спектаклі Ф. Аляхновіча “Чорт і баба”.

## ПАДАРУНАК ТЫДНЯ

“Майстры мастацтва — працаўнікам вёскі”. У праграме гэтай культурніцкай акцыі выступленні Дзяржаўнага ансамбля танца Беларусі і Акадэмічнага народнага хору Беларусі імя Цітовіча ў чарнобыльскай зоне.

## ЮБІЛЕЙ ТЫДНЯ



Генрыху Вагнеру, народнаму артысту Рэспублікі Беларусь, кампазітару, прафесару — 75 год. Напрыканцы мінулага тыдня ў філармоніі адбыўся ягоны аўтарскі вечар, прысвечаны юбілею. Зала філармоніі была запоўнена — што, дарэчы, бывае рэдка. Ушанаваць маэстра прыйшлі сябры, калегі, вучні, прыхільнікі ягонай творчасці. Генрыха Вагнера вітала эліта беларускага музычнага мастацтва. На здымку, зробленым у той дзень, — маэстра сярод вучняў.

*Фота К. ДРОБАВА*

## ПАМЯЦЬ ТЫДНЯ



10 лютага на доме па праспекце Ф. Скарыны ў Мінску, дзе з 1953 па 1993 год жыла народная артыстка Беларусі Галіна Кліменцьеўна Макарава, адкрыта мемарыяльная шыльда.

*Фота А. ПРУПАСА*

ПРЭМ'ЕРЫ

# “Зусім іншы тэатр...”

Папыталі пасля спектакля пра ўражанні — вось я і адказала: “Гэта зусім іншы тэатр”. І са мною пагадзіліся: “Маеш рацыю. Іншы”. Новы спектакль Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі Беларусі атрымаўся не па-аперэтачнаму камерны. Не святочны. Нават сумотны. І... менш музычны. Хібы музычнай драматургіі (наяўнасць якой даводзіцца проста прымаць на веру, бо пазначана: “мюзікл”) кампенсуе годная рэдакцыя ды аранжыроўка Уладзіміра Ткачэнкі й дырыжорскае кіраўніцтва Аляксандра Сасноўскага... Рэжысура (Барыс Утораў) імкнецца праз акцёраў рэалізаваць амаль псіхалагічную, амаль побытавую, амаль тутэйшую меладраму з жыцця амерыканскага...

Назва новага спектакля — “Дарагая Памела” — звыклая для рэпертуару драматычных тэатраў на прасторы колішняга СССР гадоў эдак... зрабілася жыццёва актуальнай у Мінску канца 90-х: яе рыхтуюць і купалаўцы. Вядома, сцэна музычная мае свае адметнасці: кампазітар М. Самойлаў; створанае паводле першаасновы, п’есы Дж. Патрыка, лібрэта В. Валавога ды Ю. Дынава; літаратурна-сцэнічная рэдакцыя Б. Уторава...



У ролях — адзіная, сапраўды непаўторная Н. Гайда, ейныя партнёры А. Ранцанц, В. Пятліцкая, В. Шабуня, А. Касцецкі, В. Сердзюкоў. Танцы ў спектаклі ставіў Уладзімір Іваноў. Сцэнаграфія — Барыса Герлавана.

Першы публічны паказ “Дарагой Памелы” адбыўся тыдзень таму. З аншлагам. З авацыямі публікі.

**С.Б.**

*На здымку: народная артыстка Беларусі Наталля ГАЙДА ў ролі Памелы Кронкі.*

*Фота Віт. АМІНАВА*

НАДЗЁННАЕ

# І будні, і паэзія

## ЧАРГОВЫ З'ЕЗД САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ АДБУДЗЕЦЦА 23 КРАСАВІКА

А паядналіся яны ў час чарговага пасяджэння рады Саюза беларускіх пісьменнікаў. Справы будзённыя — гэта вызначэнне даты чарговага з’езда пісьменніцкай арганізацыі. Паведамленне па гэтым пытанні зрабіў старшыня СП В. Зуёнак. Паводле статута арганізацыі, пытанне аб скліканні з’езда прымае прэзідыум рады, што ён і зрабіў на сваім нядаўнім пасяджэнні. А рада ўжо і прызначае дату гэтага мерапрыемства. Папярэдні з’езд праходзіў чатыры гады назад — 28—29 красавіка. Цяпер жа, у выніку абмеркавання, было вырашана сабрацца разам 23 красавіка. У адрозненне ад папярэдніх з’ездаў, гэты будзе праходзіць толькі адзін дзень. Прычына празаічная — не хапае фінансаў. Аднак, як і раней, на з’езд будуць запрошаны ўсе члены пісьменніцкай арганізацыі, якія і стануць яго дэлегатамі. Будзе заслухана справаздача аб рабоце за чатыры гады і выбраны новыя кіруючыя органы.

Ад спраў будзённых удзельнікі пасяджэння перайшлі да спраў паэтычных, абмеркаваўшы вынікі паэтычнага года. Па гэтым пытанні выступіла малады крытык, супрацоўнік часопіса “Нёман” І. Шауляхова. Яна адмовілася ад звычайнага ў такіх выпадках даклада, а павяла раскаваную гаворку, звяртаючы ўвагу на тое, чым жыла беларуская паэзія ў мінулым творчым годзе. І хоць развагі І. Шауляховай часам, магчыма, насілі завельмі тэарэтычны характар, тым не менш ёй удалося падаць пэўную карціну становішча ў гэтым літаратурным жанры.

У абмеркаванні ўзнятых пытанняў прынялі ўдзел В. Блакіт, К. Камейша, Д. Бічэль, В. Коўтун, С. Законнікаў, У. Някляеў і іншыя. Увага звярталася не так на асобныя публікацыі ці кнігі, колькі на тыя асноўныя працэсы, што адбываюцца ў паэзіі сёння. Яна ж, як вядома, перажывае далёка не лепшыя часы. Увогуле, гэта тычыцца ўсёй літаратуры. А таксама, як творчасці тых, хто прытрымліваецца традыцыйнай манеры пісьма, так і тых, хто шмат эксперыментуе. Хоць, як зазначалася ў час выступленняў, ёсць і тэмы, якія аднолькава хвалююць, бадай, усіх, найперш — усведамленне Беларусі свайго роду зонай, у якой яна апынулася ў выніку чарнобыльскай катастрофы. Аднак паняцце зоны куды шырэйшае, чым можа падацца на першы погляд. Сюды ўваходзяць і маральныя аспекты, і палітычныя. Урэшце, і прыхільнасць да традыцый, і смелы пошук былі ва ўсе часы. Наша сучаснасць — не выключэнне. Галоўнае, каб талент мог належным чынам сцвердзіць сябе, развіцца. А гэта залежыць ужо і ад кожнага творцы паасобку, і ад той атмасферы, што пануе ў грамадстве.

**Н. К.**

УГОДКІ

# “Паўлінка” выходзіць у людзі

На люты прыпадаюць дзве юбілейныя даты, што тычацца пачатку сцэнічнага лёсу “Паўлінкі” Янкі Купалы: 9 лютага 1913 года першы спектакль быў наладжаны ў Вільні, а 22 лютага 1917-га ўпершыню з героямі гэтага твора, увасобленымі на сцэне, пазнаёміліся беларускія адраджэнцы расійскай сталіцы. З тых памятных дзён прайшло адпаведна 85 і 80 гадоў. На шчасце, захаваліся сведчанні відавочцаў аб гэтых спектаклях, таму няцяжка ўявіць сабе тую ўзрушаную, святочную атмасферу, што панавала падчас прэм’ер.

Аб тым, як праходзіў спектакль у Вільні, можна даведацца з допісу “Беларуская вечарынка 27 студзеня”, апублікаванага ў газеце “Наша Ніва” ў нумары за 1 лютага 1913 года (даты даюцца па старым стылі). У паведамленні чытаем: “На вечарынку гэту сумысна прыехаў і аўтар яе (п’есы — **А. Ан-евіч**) Янка Купала. Аўтара публіка выклікала на сцэну і, абдзяляючы густымі воплескамі, падалі яму памятку — падарунак ад віленскіх беларусаў — залаты гадзіннік з надпісам: “Аўтару “Паўлінкі”, віленскія беларусы, 27 студзеня 1913 г. “Артыстцы, каторая іграла ролю Паўлінкі, П. Маркевічанцы аўтар падаў на сцэну букет жывых кветак”.

Панаваў да таго святочны настрой, быццам “гэта адна згодная сямейка сабралася на нейкае мілае свята”, а таму “гэтак усім было весела і міла”.

Згадкі ж аб першым спектаклі ў Пецярбурзе можна знайсці ў кнізе ўспамінаў П. Мядзёлкі “Сцежкамі жыцця”. Лёс таксама падараваў ёй магчымасць стаць адной з першых выканаўцаў ролі галоўнай гераіні гэтага твора Я. Купалы. П. Мядзёлка расказвае, што пасля таго, як Я. Купала прачытаў “Паўлінку” студэнтам-беларусам, усе “загарэліся жаданнем яе паставіць. За арганізацыю спектакля ўзяўся брат прафесара (Браніслава Эпімах-Шыпілы. — **А. Ан-евіч**) Уладзіслаў Эпімах-Шыпіла, вялікі энтузіяст тэатральнага мастацтва”. Адразу ж размеркавалі і ролі. Студэнт Душэўскі “стаў” Сцяпанам Крыніцкім, Вікторыя Кліковіч — Альжбетай, Леанід Адамовіч — Адольфам Быкоўскім, Лявон Заяц — Якімам Сарокам, сам У. Эпімах-Шыпіла — Пранцісем Пустарэвічам, ну і, канечне, Мядзёлка мусіла пераўвасабляцца ў Паўлінку. “У якасці рэжысёра, — працягвае П. Мядзёлка, — быў запрошаны акцёр Александрынскага тэатра Бэкін-Драздоў. Пачаліся рэпетыцыі, на якіх заўсёды прысутнічаў аўтар...”

Рыхтуючы пастаноўку, паклапаціліся, каб усё было як мага больш набліжана да вясковага жыцця. Праўда, зрабіць гэта аказалася не так і проста: “Цяжка было дастаць андаракі і гарсэцікі для дзяўчат, нагавіцы і верхнюю вопратку для хлопцаў”, а таму “сабралі сёе-тое сярод рабочых-беларусаў, частку прыслалі з вёсак”, а “жанчыны дашывалі кашулі і фартушкі”. Заспрачаліся, як абуць Пранціся Пустарэвіча. Урэшце пагадзіліся, што, паколькі ён п’яніца, і без ботаў абыдзецца, хопіць лапцяў.

Спектакль ладзіўся ў рабочым раёне, у тагачасным клубе “Пальма”. Цікавасць да яго была вялікая і яшчэ за некалькі дзён білеты былі прададзены. У дзень жа прэм’еры зала стала паўнюткай: прыйшлі студэнты, служачыя, рабочыя. Сярод іх прысутнічалі і прадстаўнікі іншых нацыянальнасцяў, якія “жадалі паглядзець беларусаў”. На жаль, не ўсе змаглі трапіць у залу і мусілі вярнуцца дахаты.

Аб тым, што спектакль гледачам падабаецца, адчувалася па дружных воплесках, якія раз-пораз успыхвалі па ходу дзеяння. І так да самага канца. А тады... “На сцэну ўбягае Купала, абдымае мяне і горача цалуе”, — сведчыць П. Мядзёлка. А ў гэты момант воплескі з залы грымяць і грымяць. Калі заслона апусцілася, усе запатрабавалі на сцэну аўтара. Іван Дамінікавіч выйшаў не адзін, а з Мядзёлкай. Яны разам кланяюцца публіцы. Купалу быў паднесены гадзіннік з надпісам: “Бацьку “Паўлінкі” ад беларускіх студэнтаў”. Купала ж, у сваю чаргу, падарыў Мядзёлцы “два яшчэ зусім новенькія, толькі што з-пад машыны экземпляры “Паўлінкі”, на адным з іх быў напісаны верш-прысвячэнне”. А ўслед за спектаклем пачалося выступленне хору. Гучала Купалава “А хто там ідзе?”, гучалі народныя песні, дэкламаваліся вершы Івана Дамінікавіча.

Так “Паўлінка” выходзіла ў людзі, несучы з сабой жывое народнае слова, дух беларускі і ўпэўненасць, што народ, які ўмее жартаваць, застаецца аптымістам, годна сустрэне сваю будучыню.

**А. АН-ЕВІЧ**

ІМПРЭЗЫ

# Праз сто і два гады

Фільмы "Таварыства Гамон", яшчэ ў 1995 годзе аб'яднаныя ў адметную рэтраспектыўную праграму (для амерыканскіх і канадскіх універсітэтаў), дайшлі да нашых гледачоў сёлета, у годзе 1998. З 2 па 12 лютага праграма "Сто гадоў кінакампаніі "Гамон" збірала іх у тэатральнай зале Палаца культуры прафсаюзаў. Зацікаўленымі пасрэднікамі зрабіліся Францыса Ларан (Пасольства Францыі ў Беларусі), Святлана Саўчык, Максім Жбанкоў, Іосіф Глік ("Кінаклуб").

Перадусім стваральнікам і распаўсюднікам праграмы рупіў жывы вобраз французскага кіно. "Таварыства Гамон" прадстаўляла яго бездакорна. Зрэшты, менавіта Ляон Гамон, захоплены вынаходніцтвам братоў Люм'ераў, пакінуў па сабе не толькі наладжаную кінавытворчасць, але і аб'яднанне прафесійных творчых людзей; да сёння іх наступнікі даводзяць, што — звесткі пра смерць кіно аказаліся моцна перабольшанымі. Адметнасць французскага кіно — разнастайнасць, разнаітасць. Непадобнасць — хоць на самае вядомае, самае папулярнае, самае касавае...

...Паважаны ўзрост фільмаў "Мяціска Дайна" (рэжысёр Жан Грэміён) і "Ноль па паводзінах" (рэжысёр Жан Віго) адлічваецца з 1931 і, адпаведна, з 1933 года; "Асуджаны на смерць уцёк" (Альберта Брэсона) створаны ўжо ў 1956 годзе; адны з лепшых камедый — "Манія велічы" з Луі дэ Фюнэсам (1971, рэжысёр Жэрар Уры) і "Высокі бландзін у чорным чаравіку" з П'ерам Рышарам (1972, рэжысёр Ір Рабэр)... Фільмы васьмідзесятых — "За наша каханне", "Поўня ў сцёкавай канаве", "Падземка" — даюць добрае ўяўленне пра адметнасці рэжысуры Марыса Піяля, Жан-Жака Бенекса і Люка Бессона, самага маладога з творчай каманды "Гамон". Прадстаўлена нават опера — "Кармэн" у рэжысуры Франчэска Разі.

Не будзем рабіць выгляд, што адкрываем гэтыя фільмы для сябе: некаторыя з іх ішлі ў пракаце, пераважную бальшыню ўжо прапаноўваў расійскі канал "НТБ". Але каштоўнасць праграмы "Сто гадоў кінакампаніі "Гамон" — у паслядоўнасці, густоўным падборы і вартых кіназнаўчых каментарыях, пра якія паклапаціўся "Кінаклуб" (што, зрэшты, ён робіць заўжды).

**Ж. ЛАШКЕВІЧ.**

АНОНС

## Зноў "Пеўчая акадэмія"

19 лютага ў Гомельскім каледжы мастацтваў імя Н. Сакалоўскага адкрыецца традыцыйная, ужо чацвёртая "Пеўчая акадэмія". У яе праграме — вечаровыя канцэрты і справаздачныя выступленні музычных калектываў Беларусі, тэарэтычная канферэнцыя, майстаркласы, адкрытыя ўрокі...

Тры дні абяцаюць сустрэчы з Акадэмічным народным хорам імя Г. Цітовіча, харавымі калектывамі ды вакальнымі ансамблямі выкладчыкаў Маладзечанскага музычнага вучылішча імя М. К. Агінскага ды музычнага вучылішча з Наваполацка, з фальклорным вакальна-харэаграфічным ансамблем "Валачобнікі" Беларускага універсітэта культуры, з хорам Акадэміі музыкі. Маюць адбыцца заняткі ды кансультацыі для спецыялістаў пад кіраўніцтвам прафесара Віктара Роўды, дацэнтаў БАМ Любові Каспорскай, Валерыя Аўраменкі.

"Сучасны стан пеўчых традыцый на Беларусі" — такі тэматычны кірунак гомельскай "Акадэміі", адпаведна якому рыхтуюцца даклады пра пеўчыя традыцыі ўсходняга Палесся (З. Мажэйка), рэгіянальныя адметнасці беларускага вяселля (В. Новак), асаблівасці пеўчых традыцый заходняй царквы (М. Шыманскі), жанры царкоўнай музыкі ў творчасці сучасных беларускіх кампазітараў (В. Савіцкая) ды інш.

**С. Б.**

ВЫСТАВЫ

## Першая ластаўка

У Доме дружбы да 13 лютага працавала выстава графікі з прыватнай калекцыі Мікалая Благадатава. У асяроддзі ленінградскага "андэграўнду" ён асоба легендарная. Больш як дваццаць гадоў ён збірае творы мастакоў, якім не даводзілася разлічваць на афіцыйнае прызнанне, чыё мастацтва было альтэрнатывай камуністычнаму афіцыёзу. Часы змяніліся, "андэграўнд" выйшаў на паверхню. Многія з учарашніх апазіцыянераў някепска ўладкаваліся ў жыцці, ладзяць выставы на Захадзе, там жа выдаюць альбомы — інакш кажучы, сталі моднымі мастакамі, захапілі свой сегмент мастацкага рынку.

А ў жыцці іншых нічога прынцыпова не змянілася. Прынамсі, Мікалай Благадатаў, па сведчанні людзей, якія яго ведаюць, застаўся такім, як і быў дваццаць гадоў таму.

На выставе экспанаваліся творы не толькі пецярбургскіх (ленінградскіх) мастакоў, але таксама з Хабараўска, Кіева, Горкага, Душанбе, Мінска. Бо Ленінград—Пецярбург заўжды быў цэнтрам прыцягнення для творцаў самых розных напрамкаў.

Хацелася б спадзявацца, што гэта выстава з Пецярбурга — першая ластаўка, і з часам мінчукі змогуць больш грунтоўна пазнаёміцца з мастацтвам і ўвогуле культурніцкім жыццём горада на Няве. Тым болей, што ў Піцеры жыве шмат беларусаў, якія хацелі б умацаваць свае сувязі з радзімай.

**П. ВАСІЛЕЎСКІ**

## За імі будучыня

У гімназіі N 1 г. Мінска з вялікай пашанай і ўвагай ставяцца да роднай мовы, да творчасці беларускіх пісьменнікаў. Тут часта наладжваюцца літаратурныя чытанні, сустрэчы, вечары, святы.

11 лютага да вучняў і выкладчыкаў гімназіі завіталі адразу тры галоўныя рэдактары папулярных літаратурных выданняў рэспублікі: Сяргей Законнікаў — "Полымя", Уладзімір Някляеў — "Літаратура і мастацтва", "Крыніца" і Аляксандр Шабалін — "Беларусь". Згадзіцеся, што такое бывае не часта.

Госці расказалі пра тое, як сёння працуюць рэдакцыйныя калектывы, якія навінкі ва ўсіх жанрах літаратуры прыйдуць неўзабаве да чытачоў, азнаёмілі прысутных са сваімі новымі творамі.

Пытанні, якія задаваліся (па розных праблемах духоўнага і сацыяльнага жыцця Беларусі і, нават, самой псіхалогіі літаратурнай творчасці), паказалі, што наша вучнёўская моладзь дапытлівая, разумная, мае добры густ, свой погляд на рэчаіснасць.

Словам, гэтай сустрэчай засталіся задаволенымі ўсе: і гаспадары, і госці.



*Фота К. ДРОБАВА*

## Люстэрка для панарамы

27 лютага надзённыя праблемы кінематаграфіі і кінавытворчасці мусяць быць абмеркаваныя шырокім колам спецыялістаў. Іх сустрэча мае назоў "Панарама беларускага кіно апошніх гадоў у люстэрку Першага нацыянальнага фестывалю беларускіх фільмаў". Ініцыятар — Беларускі саюз літаратурна-мастацкіх крытыкаў. Месца сустрэчы — Мінскі тэатр-студыя кінаакцёра. Запрошаныя прадстаўнікі Міністэрства культуры Беларусі і Саюза кінематографістаў Беларусі, а таксама крытыкі з Масквы Леанід Паўлючык ды Ірына Шылава.

Спрэчкі, абмеркаванні і прамовы Саюз літаратурна-мастацкіх крытыкаў мяркуе выдаць у чарговым зборніку, які выйдзе неўзабаве.

**Н. К.**

## "Аляксандэрпляц" у Мінску

З 16 па 24 лютага "Кінаклуб", падтрыманы Інстытутам Гётэ, прадстаўляе фільм Райнера Вернера Фасбіндэра "Берлін, Аляксандэрпляц", — праграма пройдзе ў тэатральнай зале Палаца культуры прафсаюзаў. Уваход свабодны.

**Ж. Л.**

СУСТРЭЧЫ

# Сэрцы на Слова адгукаюцца

Шмат часу прайшло з той пары, калі пісьменнікі рэгулярна ездзілі да чытачоў за межы Мінска. І хоць у візітах падчас "дэкад", "дзён" літаратуры было многа параднасці, савецкага ідэалагічнага афіцыёзу, спатканні тых, хто піша, з тымі, хто чытае, а то нават і не чытае, але для каго беларускае слова заставалася неад'емнаю часцінаю жыцця, былі ўзаемна карыснымі, патрэбнымі. Зараз Саюз пісьменнікаў не мае на гэта сродкаў. Не зацікаўленая ў такіх выездах і дзяржава. Усё ж, нягледзячы на незапатрабаванасць у нашым грамадстве нашай жа культуры, з'яўляюцца сяды-тады пісьменнікі на людзях. Гэтым разам пабывалі ў Гродне Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Уладзімір Арлоў, Лявон Баршчэўскі, Вячаслаў Ракіцкі, Міхась Скобла. Да іх далучалася Данута Бічэль у вольны ад службовых клопатаў час. Прыезд мінскіх гасцей адбыўся, дзякуючы матэрыяльнай падтрымцы розных грамадскіх і, у прыватнасці, дабрачынных арганізацый і фондаў.

Чатыры дні, з 21 па 24 студзеня, доўжыліся тут літаратурныя сустрэчы. Было зроблена 35 выступленняў, пераважна ў школах, сярэдніх спецыяльных навучальных установах, таксама ў абласной бібліятэцы, акадэмічным Інстытуце біяхіміі, у абласным вытворчым аб'яднанні Гроднаэнерга. Асобна ў вячэрні час былі праведзены тры вялікія вечарыны ў буйных залах горада. У іх прыняў удзел і гродзенскі бард Віктар Шалкевіч. Пісьменнікі, вядома, стамляліся: за дзень даводзілася 4—5 разоў "мяняць" слухачоў. Да таго ж у кожнай аўдыторыі, асабліва ў школах, узнікала зацікаўленая размова пра жыццё, і старшакласнікі ніяк не маглі развітацца з літаратарамі, задавалі ўсё новыя пытанні. Яны былі часцей за ўсё небанальнымі і тычыліся шырокага кола праблем — ад беларускай рок-музыкі і нацыянальнай гісторыі да сучасных палітычных падзей у краіне.

Расце самастойная, дэмакратычна зарыентаваная моладзь, не зацыкленая на грамадскіх схемах — такое было агульнае ўражанне. І яшчэ. Пісьменнікі прыйшлі да высновы, што ў горадзе над Нёманам жыве пакуль дух беларушчыны. У гэтым пераканалі і лакальныя сустрэчы і асабліва гарадскія вечарыны, на якіх рэакцыя залы была адназначна прыхільнаю. Ды і ў школах, хоць беларускія класы рэзка скарачаюцца (сёлета 1-х класаў у 35-ці школах засталося толькі 4, а шэсць гадоў таму назад было 62), вучні амаль усюды карысталіся беларускай мовай і праяўлялі шчырую цікавасць да пытанняў нацыянальнага жыцця. А каб колькасць беларускамоўных класаў падвоілася сёння, як таго вымагае логіка быцця незалежнай Беларускай дзяржавы?..

Што да пісьменнікаў, то яны былі на вышыні і годна прэзентавалі сучасныя нацыянальна-культурныя каштоўнасці. Рыгор Барадулін, які ўспрымаўся як жывы класік, кранаў дзівоснай метафорыкай і драматычнай сілай сваіх вершаў, нечаканымі досціпамі і літаратурнымі каламбурамі. Падабаліся яго сатырычныя мініяцюры, творы для маленькіх. Шмат цікавіліся яго біяграфіяй. Стрымана-спакойны і суровы з выгляду Уладзімір Арлоў, які чытаў эсэ, вершы, згадваў лёс некаторых сваіх кніг, здолеў захапіць слуханнем роднай гісторыі і нацыянальнай ідэі. Хораша слухалі патрыятычныя вершы, далікатна-інтымную лірыку Генадзя Бураўкіна, распытвалі пра яго дзяржаўную і грамадскую дзейнасць. Пакарыў публіку філалагічнай культурай і інтэлігентнасцю адказаў на няпростыя пытанні Лявон Баршчэўскі. А ягоныя пераклады — прыгожыя, паэтычна вытанчаныя, з розных еўрапейскіх літаратур, выклікалі нязменнае захапленне. Вельмі цёпла прымалі земляка — з Зэльвеншчыны — Міхася Скоблу, асабліва да душы прыйшліся яго пароды. Літаратурныя выступленні засталіся б у чымсьці няпоўнымі, як зараз бачыцца, без інтэлектуальна-дыдактычных маналогаў-экспромтаў неўтаймаванага Вячаслава Ракіцкага, які гаварыў пра сучасны стан нашай культуры, пра кірункі працы часопіса "Спадчына", які ён узначальвае. Пэўна ж, гродзенцы былі рады і сваёй Дануце Бічэль, чые тужліва-светлыя, па-жаночаму мудрыя радкі будзілі пачуццё роднага, варушылі думку пра чалавечую дарогу на зямлі.

Заўсёды ў залах, дзе адбываліся сустрэчы (у школах, як правіла — у актавых залах), нябачна прысутнічала постаць Васіля Быкава: яго тут успаміналі, спасылаліся на яго, пра яго пыталіся. І неадназросава праісілі перадаць: мы яго помнім і любім.

Часта пісьменнікі засяджваліся, даючы аўтографы. І адкуль толькі бралі кнігі. А ў 25-ай школе, дзе асабліва сардэчна віталі Рыгора Барадуліна — паднеслі каравай, спявалі яму песні, — вучні вялікай грамадою акружылі паэта (старэйшы малодшаму шаптаў: "Во глядзі і запамінай — Барадулін") і падстаўлялі, хто блакноцік, хто паштоўку, а хто звычайны аркушык са школьнага сшытка, каб распісаўся.

Уражанні, уражанні... Яны былі, праўда, розныя. У Гродзенскім гарвыканкаме да прыезду пісьменнікаў аднесліся з разуменнем і падтрымкаю. Але... дырэктар вытворчага аб'яднання "Хімвалакно" адмяніў сустрэчу, загадзя замоўленую прафкамам. Не атрымаліся выезды за горад. Прасілі пісьменнікаў прыехаць настаўнікі са Скідзеля (25 км ад Гродні) і з вёскі Капцёўка (7 км ад Гродне). Аднак Скідзель нечакана адмовіўся прымаць гасцей з Мінска. У Капцёўцы, ужо прыехаўшы, даведаліся, што візіт у школу не адбудзецца. Зайшлі тады ў мясцовую бібліятэку і тут пагутарылі з людзьмі. Толькі вестка пра пісьменнікаў у школу прасачылася, вучні прыбеглі ў бібліятэку, і тут, у цесным пакойчыку, вымушаныя рассесціся на падлозе, слухалі пісьменнікаў. Такіх здарэнняў у мінулым я нешта не прыпомню, хаця маю немалы стаж сумесных з калегамі літаратурных выступленняў. Відаць, мы сутыкнуліся з рэаліямі сённяшняга дня, і яны наводзяць на горкія развагі. Калі ўжо беларуская літаратура і яе творцы камусьці не падабаюцца, і гэта адкрыта дэманструецца адміністрацыяй — "вертыкаллю", то куды мы пойдзем далей? Зрэшты, хтосьці можа запярэчыць: "А што тут дзіўнага? Вось выключылі нядаўна са школьнай праграмы творы Л. Геніюш, Н. Арсенневай, М. Сяднёва. Тое ж адміністраванне. Толькі рукамі Міністэрства адукацыі"...

Усё ж, не хацелася б завяршаць гэтыя нататкі на сумнай ноце. Тым больш, што сустрэчы беларускіх пісьменнікаў у Гродне былі цікавымі, вельмі насычанымі думкамі, пачуццямі. Яны напэўна пакінулі глыбокі след, асабліва ў юных душах. А гэта галоўнае.

**Аляксей ПЯТКЕВІЧ**

## "...Я бацькоўскаму краю аддany!"

*Што мне пекны Парыж,*
*Рым прыгожы і слынны,*
*Што швейцарскія горы, старыя Афіны.*
*Што мне Вена, Мадрыд,*
*што мне Лондан туманны,*
*Больш за ўсё я бацькоўскаму краю*
*аддany! —*

**так пісаў Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч пра сваю любоў да Беларусі і ў прыватнасці да Малой Люцынкі, што на Валожыншчыне, дзе прайшлі самыя плённыя гады творчага жыцця пісьменніка.**

**4 лютага споўнілася 190 гадоў з дня нараджэння Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча. З гэтай нагоды ў Доме літаратара адбылася святочная вечарына, на якую прыехалі землякі пісьменніка — валожынцы.**

**Вечарына пачалася з прэзентацыі альбома "Вінцэнт Якуб Дунін-Марцінкевіч", які выйшаў у выдавецтве "Народная асвета". Яго склаў Уладзімір Содаль, які ў сваім выступленні паведаміў, што зусім нядаўна стала вядома — на месцы мінскай сялібы В. Дуніна-Марцінкевіча стаіць наш Дом літаратара.**

**Аб жыцці і творчасці В. Дуніна-Марцінкевіча гаварылі народны пісьменнік Беларусі Іван Навуменка, навукоўцы Генадзь Кісялёў, Уладзімір Мархель, Язэп Янушкевіч, Леанід Акаловіч.**

**Драматург Аляксей Дудараў расказаў пра актуальнасць драматургіі В. Дуніна-Марцінкевіча ў нашым жыцці. Ён, як старшыня Саюза тэатральных дзеячаў, паведаміў, што ў гэтым годзе ў Бабруйску пройдзе фестываль беларускай драматургіі, прысвечаны В. Дуніну-Марцінкевічу, які павінен стаць традыцыйным.**

**Кампазітар Ігар Лучанок прапанаваў прысутным песню на словы В. Дуніна-Марцінкевіча, якая прагучала ў выкананні артыста тэатра оперы і балета Міхаіла Жука.**

**Выступілі і землякі В. Дуніна-Марцінкевіча паэты Віктар Шніп, Валянціна Гіруць-Русакевіч і Ядвіга Кужоўнік. Артысты Пяршайскага народнага тэатра (рэжысёр Мікола Ганчарык) паказалі ўрыўкі са спектакляў, якія пастаўлены па п'есах В. Дуніна-Марцінкевіча.**

**На вечарыне прагучала прапанова, каб наступныя 10 гадоў наша краіна пражыла пад сцягам падрыхтоўкі да святкавання 200-годдзя В. Дуніна-Марцінкевіча. Прадстаўнікі ўлады Валожыншчыны падтрымалі гэтую прапанову і абяцалі да 200-годдзя свайго слаўнага земляка аднавіць яго сялібу ў Малой Люцынцы.**

**Вёў вечарыну пісьменнік Вячаслаў Рагойша.**

**Н. К.**

## Разгарнуўшы "Нёман"...

**На вокладку першага нумара "Нёмана" вынесены анонс апавяданняў А. Ждана і матэрыялаў "круглага стала" "Праблемы дзяцей — клопаты бацькоў". Яны, безумоўна, вартыя ўвагі, але твар нумара робяць усё ж "Запісныя кніжкі розных гадоў" А. Адамовіча і ўспаміны Р. Барадуліна пра У. Караткевіча "І коскі з месца не скрану!.." І ў першым, і ў другім выпадку прываблiваюць постаці. Вядома ж, найперш саміх апавядальнікаў. Аднак не ў меншай ступені і тых, пра каго расказваюць. У Р. Барадуліна адрасат дакладна вызначаны, а А. Адамовіч, піша пра многіх і многае. І, зразумела, не толькі станоўчае. Правільней, не столькі станоўчае. Але зноў жа гэта падаецца праз уласнае светаўспрыманне і светаразуменне, а таму і цікава.**

**А яшчэ ў "Нёмане" — вершы К. Камейшы, Н. Арсенневай і А. Пісьмянкова ў перакладах А. Дракахруста, С. Яўсеевай і Ф. Яфімава, апавяданні Л. Вашко — іх пераўвасобіў па-руску У. Жыжэнка. "Публіцыстыка" прадстаўлена артыкулам Я. Рубіна "Мужчыны, ці нельга жыць больш?", "Літаратурная крытыка" — артыкуламі І. Багдановіч "Аб хрысціянскіх матывах у беларускай літаратуры" і Л. Рублеўскай "Самае галоўнае і ўсё астатняе". Я. Шунейка прамаўляе слова пра мастака М. Кірэева, змешчаны рэпрадукцыі яго твораў "Спакушэнне" і "Зімовая фантазія".**

**Н. К.**

ГАСЦЁЎНЯ

## Ганад ЧАРКАЗЯН:
# "Каб людзі жылі па-людску..."

***Ганад Чарказян, які ўжо даўно жыве ў Беларусі, друкуецца ў перакладах па-беларуску і па-руску. Здавалася б, усё добра. Але ж дзе добра, калі на роднай мове, курдскай, не друкуецца... У гэтай бядзе сярод курдскіх літаратараў ён не адзінокі. Маючы багатую гісторыю і лік немалы ў свеце (энцыклапедыі сведчаць: да 40 мільёнаў), курды ўсяго толькі аўтахтоннае насельніцтва гістарычнай вобласці Курдыстан. Жывуць і ў Іране, і ў Турцыі, і ў Іраку, і ў Сірыі, і на прасторах колішняга СССР... А вось Айчыны сучаснай у іх, курдаў, няма. Тым не менш і ў разрозненым існаванні ўдаецца ім захоўваць нацыянальную адметнасць...***

***Курдскі паэт Ганад Чарказян — наш сённяшні субяседнік.***



**— Перш-наперш хацелася б у іншага, адрознага ад беларусаў па свайму менталітэту, паэта пацікавіцца, што ж, які ён змест укладвае ў нацыянальнасць паэзіі? Ці лічыце вы правамерным гэты тэрмін, гэткае вымярэнне?**

— У сапраўднай паэзіі, а я думаю, што мы якраз яе маем на ўвазе, відаць, няма нацыянальнасці. Нацыянальнасць гэта ж, пагадзіцеся, не толькі і зусім не мова. Нацыянальнасць мне падаецца катэгорыяй шматмернай. У дачыненні да мастацтва, у дачыненні да паэзіі з нацыянальнай пазнакай трэба быць асцярожным. Звернемся да класікі... няўжо, чытаючы Пушкіна, Купалу, Багдановіча, Лорку, Шэкспіра, думаем пра нацыянальнасць?..

**— А хіба не нацыянальнымі з'яўляюцца купалаўскія радкі: "А хто там ідзе, а хто там ідзе у агромністай такой грамадзе? — Беларусы". Альбо не нацыянальнае, выразна нацыянальнае: "Усё пятуць і лятуць тыя коні, Срэбнай збруяй далёка грымяць... Старадаўняй Літоўскай Пагоні Не разбіць, не спыніць, не стрымаць"?**

— Чаму ж не нацыянальнае?.. Так, нацыянальнае, але мне здаецца, што Багдановіч, задаўшыся пытаннем — "Мо яны, Беларусь, панясліся За тваімі дзяцьмі ўздагон, Што забылі цябе, адракліся, Прадалі і аддалі ў палон?", — думаў і пра волю, свабоду, нацыянальную самасвядомасць іншых народаў.

Падспудна і ў вершах пра горы прысутнічае душа народа, прысутнічаюць яго святыя памкненні. А гэта ўжо тычыцца заўсёды многіх катэгорый, некалькіх адначасова — і грамадскай, і сацыяльнай, і нацыянальнай, канечне ж, таксама.

**— А вы адчуваеце сябе ў цэласным, непадзельным адзінстве з курдскім народам?**

— Няпростае пытанне вы мне задалі, цяжкае яно для ўсіх курдаў. Уявіце сабе падзелены на кавалкі каравай... Курды жывуць у свеце без Айчыны — і, канечне ж, мары ў іх пра адно — пра сваю ўласную дзяржаўнасць. З малых гадоў да старасці кожны, паверце, кожны курд пра гэта думае.

Прыклад з нашай нацыяй пераконвае мяне, што пры сусветным падзеле на прыгнятальнікаў і прыгнечаных, людзей першага, другога і дзесятага сорту, неймаверна цяжка будуць складвацца міжнацыянальныя адносіны, згода. А мне важна бачыць сябе, сваю сям'ю, сваіх сяброў сярод цішыні, спакою. Я хачу хадзіць па грыбы, шукаць у лесе вершы.

**— А курды тым часам ваююць, змагаюцца...**

— Пакуль у свеце правіць баль зброя, пакуль апошняе слова застаецца за мільярдамі долараў, курдскае пытанне не будзе вырашана.

**— Да чаго ўсё ж больш у курдскага паэта, што не мае Айчыны, які захоплены беларускім лесам і грыбамі, хінецца муза — да лірыкі альбо да паэзіі грамадзянскай?**

— Калі вы маеце на ўвазе адсутнасць Айчыны ўва мне, то дарэмна... Я працытую свой верш "Праклён", перакладзены вялікім маім сябрам Рыгорам Барадуліным.

*Хто мову продкаў сваіх*
*Не кахае.*
*Не даражыць адзінай Айчынай,*
*няхай прыстання нідзе не мае,*
*Сляды шукае*
*Гайні ваўчынай.*
*Як пакацень той,*
*Палямі чужымі*
*Ён будзе каціцца*
*І ўдзень і ўночы.*
*Ён вецер прывеціць,*
*Што злосцю ўздыме*
*Пясок з падмурку,*
*Дзе дом сірочы,*
*Аддзячаны, як жабрак,*
*Чужакамі,*
*Ён будзе костку*
*Даглыдваць са смакам.*
*Забыты людзьмі,*
*Не прызнаны ваўкамі,*
*Згубіўшы імя,*
*Дагніе ваўкалакам!*

**— Прабачце, не хацеў вас пакрыўдзіць...**

— Нічога... Калі я ўпершыню патрапіў у Беларусь, то прырода мяне астудзіла. Лес, раўніны. Ніякіх табе гор. А пасля сапраўдным адкрыццём сталі маленькія ўзвышшы, узгоркі. Падалося, што перад вачыма — маленькая копія Курдыстана. Тады падумалася, што зямля адна на ўсіх. Мы ўсе пад адным сонцам. Пад адным месяцам. Адзін Бог нас стварыў...

**— Ганад, і першая ваша кніга, і апошняя па часе — усё выдадзена ў Мінску. Фактычна вы жывяце ў прасторы беларускай літаратуры. І тым не менш у свой час вы выступілі ў "Советской Белоруссии" з даволі рэзкай крытыкай беларускай кнігавыдавецкай палітыкі, да і сучаснай беларускай літаратуры таксама...**

— Прабачце, магчыма, некаму я ў веданні гэтых спраў тады падаўся старонні́м чалавекам. Многага, мажліва, і сапраўды не ведаў. Але ж жыццё мяняецца, ды і погляд у мяне свежы. І ў артыкуле ў "Советской Белоруссии" я выказаў усё тое, аб чым многія думалі, ды не рашаліся сказаць. Наспеў час працаваць па-новаму. І не беларускую ж літаратуру я граміў, а самі падыходы да справы. Мае апаненты ўхапіліся, што, маўляў, Віцьбіча зачапіў. Ды справа не ў Віцьбічу. Тым болей, што па змесце калі меркаваць — нармальная ўжо, цікавая краязнаўча-публіцыстычная кніжка. Але ж выдадзена вельмі прымітыўна. Таму і ляжала доўгі час на выдавецкім складзе. Праўда, і мая тагачасная трывога наконт выдавецтва "Мастацкая літаратура" была таксама запозненая.

Магчыма, я тактычна няправільна паступіў, завастрыўшы ў артыкуле ўвагу на некалькіх кнігах. Справа ж зусім не ў іх. Спадзяюся, што выдавецтва ўсё ж выжыве. Што з беларусамі не здарыцца таго, што з курдамі. Згубім беларускае кнігавыданне, згубім беларускую літаратуру, згубім беларускую мову. Што ж застанецца?..

**— У часопісах беларускіх пачала друкавацца і ваша проза. Што падштурхнула да такога пераходу?**

— З'явілася жаданне глыбей пазнаёміць чытача з курдскім народам. Вырашыў, што побытавы, этнаграфічны матэрыял лепей укладваецца ў прозу. Мару напісаць маленькую энцыклапедыю жыцця" курдаў. Звычаі, абрады, гістарычныя падзеі, лёс майго роду — вось што ў маёй прозе.

Дарэчы, праз прозу жадаючы адкрыць для беларусаў курдаў і Курдыстан, я хацеў бы падкрэсліць, які мой народ жорсткі, калі гэта тычыцца маны, хлусні, подласці, прадажнасці, і вельмі добры, чэсны, сумленны ў звычайным жыцці.

**— Вы далі лаканічную і разам з тым выразную характарыстыку свайму народу. А вы самі можаце вызначыць галоўнае ў сабе як у чалавеку?**

— Магчыма, тут я не вельмі арыгінальным вам падамся. Для мяне галоўнае — душэўная раўнавага. Каб людзі вакол жылі па-людску. Каб не грызлі адзін другога, каб сябры не прадавалі. Ну і яшчэ шчыра прызнаюся, што ў сённяшнім часе мне цяжка быць добранькім.

**Гутарыў Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

ДУША

# Прэміі выкладчыкам

Правядзенне Калядных сустрэч прадстаўнікоў Праваслаўнай Царквы і грамадскасці стала для многіх ужо добрай традыцыяй. Дзякуючы дзейнасці Беларускага хрысціянскага адукацыйнага фонду імя святых Мяфодзія і Кірылы, прэзідэнтам якога з'яўляецца Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі, ужо другі год адбываецца ўручэнне Калядных прэмій лепшым педагогам за ўклад у адраджэнне хрысціянскіх традыцый у культуры і адукацыі. Урачыстае ўручэнне прэмій адбылося ў калядны вечар 19 студзеня ў канферэнцзале факультэта тэалогіі. На вечары прысутнічалі Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, міністр адукацыі Рэспублікі Беларусь В. Стражаў, кіраўнікі ўпраўленняў Міністэрства адукацыі, прадстаўнікі педагагічнай грамадскасці г. Мінска і дзелавых колаў.

Мітрапаліт Філарэт сказаў цёплыя прывітальныя словы ўсім удзельнікам сустрэчы, адзначыў важнасць адраджэння хрысціянскіх, багаслоўскіх традыцый у сістэме свецкай адукацыі і выхавання.

Ён павіншаваў і ўручыў першую прэмію кандыдату багаслоўя протаіерэю Мінскага Кафедральнага Свята-Духава Сабора Сергію Гордуну за вялікі ўклад у справу адраджэння багаслоўскай адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь, за даследчую дзейнасць у галіне біблейскага багаслоўя. Айцец Сергій з'яўляецца дацэнтам факультэта тэалогіі Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта, выкладчыкам Мінскай духоўнай семінарыі па перакладзе Біблii на беларускую мову. Другая прэмія была прысуджана выкладчыку рускай літаратуры гімназіі N 1 г. Мінска Людміле Кушняровай за высокапрафесійны ўзровень распрацоўкі курсу "Біблія як помнік літаратуры" і за вялікі ўклад у справу выхавання маладога пакалення і самаадданае служэнне ідэі адраджэння лепшых традыцый класічнай свецкай адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь.

Гэта калядная вячэра і сам факт існавання такіх прэмій, якія вылучаюцца Хрысціянскім адукацыйным фондам імя святых Мяфодзія і Кірылы, з'яўляецца наглядным сведчаннем адраджэння пасля доўгага 70-гадовага перапынку супрацоўніцтва Праваслаўнай Царквы і дзяржавы ў галіне адукацыі і выхавання моладзі. Хрысціянскі адукацыйны фонд за апошнія гады стаў вядомы сваёй энергічнай дзейнасцю па падтрымцы адукацыйных праектаў у Рэспубліцы Беларусь. Больш за 10 тысяч тамоў багаслоўскай і філасофскай літаратуры фонд бясплатна перадаў у карыстанне для рэлігійна-вучэбных і навуковых бібліятэк г. Мінска.

Ужо пяты год ён аказвае фінансавую падтрымку факультэту тэалогіі Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта, адзінаму на Беларусі факультэту, які дае свецкую багаслоўскую адукацыю ў рамках недзяржаўнай вышэйшай навучальнай установы. У многім дзякуючы дзейнасці фонду студэнты на факультэце тэалогіі, у адрозненне ад іншых факультэтаў ЕГУ, вучацца бясплатна.

**А. ІВАНОВА,**
**рэферэнт па міжнародных кантактах факультэта тэалогіі ЕГУ**

ВАРУНКІ

# Немы крык, альбо Папярэджанне ненароджаным

ПАДСТУПАЦЦА мне да гэтага, як зараз любяць гаварыць літаратурныя моднікі, тэксту было нялёгка. Розум падказваў, што пісаць, прыцягваць увагу грамадскасці да гэтых праблем трэба, а ўсярэдзіне ўва мне штосьці як бы супраціўлялася, запыняла: устрымайся. Выхоўваліся мы доўгі час так, што ў галовах нашых аселі многія, калісьці, здавалася, неаспрэчныя і разумныя, а на самай справе недарэчныя і нават шкодныя, засцярогі і табу. Пра многае мы проста не гаварылі ўголас, робячы выгляд, што той ці іншай з'явы ў нас няма і не можа быць, а калі і гаварылі часам, дык са шматлікімі агаворкамі і эўфемістычнымі выкрутасамі. Да прыкладу, пра так званы секс, прастытуцыю. Не было ў Савецкім Саюзе ні таго, ні другога і ўсё тут!

Ад грузу мінулых гадоў вызваляцца няпроста. Кожны з нас гэта зведвае на самім сабе. Паўзуны, мяняючы вясною сваю старую апратку, робяць гэта, па сведчаннях заолагаў, досыць лёгка, гэты працэс для іх натуральны, запраграмаваны прыродай. Нам жа вылузвацца са старой скуры, якая прырасла, так бы мовіць, да самых нашых касцей, да самога нутра нашага, — вельмі і вельмі цяжка. Старыя стэрэатыпы, акамянелыя догмы і забабоны па-ранейшаму ціснуць на нас і прыгнятаюць.

Тэма ж, а хутчэй — праблема гэтага тэксту — сапраўды, нават і з усімі агаворкамі, няпростая. Праблема гэтая — штучнае перапыненне цяжарнасці (на звычайнай мове — аборт) і тое, што з гэтым звязана. Баюся, што я скажу **пра гэта** няшмат і мо скажу не так, як след, аднак жа паспрабую. Для пачатку прапаную чытачам некалькі лічбаў і фактаў, што тычацца не так праблем абортаў, як наогул самых розных аспектаў праблемы народанасельніцтва.

Шматдзетную сям'ю ў наш скрутны, нестабільны час сустрэнеш гэтак жа рэдка, як і сям'ю забяспечаную (апошнюю, бадай, часцей). Па колькі дзяцей у нашых уласных сем'ях? У каго — адно, у сяго-таго — двое і вельмі рэдка ў каго — трое. Апошняя сям'я, трохдзетная, ужо афіцыйна прызнана шматдзетнай, і што самае горшае — стаўленне да яе як з боку асобных людзей, так і з боку грамадства наогул — не самае лепшае, а то і зусім кепскае. Самая ж распаўсюджаная сёння сям'я — аднадзетная. Цяпер гэта тычыцца не толькі гарадскіх сем'яў, але і вясковых. Я была проста ўражана, калі даведалася, што каля паловы сельскіх сем'яў (43 працэнты!) — аднадзетныя. І праблема тут не толькі ў тым, што адно дзіця ў сям'і — гэта, адназначна, выраджэнне, паміранне нацыі. Не менш трывожная і іншая праблема: які чалавек вырасце з гэтага адзінага ў сям'і дзіцяці? Тое, што ён будзе эгаістам, аднаасобнікам (у сэнсе душэўнага складу), жорсткім, пазбаўленым жалю і спагадлівасці да іншых людзей — таксама, бадай, адназначна.

А між тым працэнт дэпапуляцыі — адносін колькасці памерлых да колькасці народжаных — у Беларусі складае, паводле апошніх дадзеных, усяго 1,3, у той час як у сусветнай практыцы стан грамадства прызнаецца крытычным, калі гэты паказчык апускаецца да 1 (адзінкі)! Лічба 1,3 — красамоўнае і неабвержнае сведчанне таго, што мы коцімся ўніз, што Беларусь — вымірае.

Па звестках Міністэрства статыстыкі і аналізу, на 1 студзеня 1998 года насельніцтва краіны склала 10 203 000 чалавек. Летась нарадзілася ў Беларусі 90 тысяч дзяцей, памерла — 137 тысяч чалавек. Адымем адну лічбу ад другой: памерла на 47 тысяч чалавек больш, чым нарадзілася. Праўда, за той жа год у краіну прыбыло 13 тысяч імігрантаў. Падсумуем: 47 тысяч мінус 13 тысяч — раўняецца 34 тысячы. Такое наша, так бы мовіць, адмоўнае сальда: за леташні год нас, беларусаў, стала на 34 тысячы менш.

На сумны роздум прыводзяць і такія вось лічбы: агульная смяротнасць насельніцтва Беларусі павялічылася ў 1996 годзе ў параўнанні з 1980 годам на 31,3 працэнта. А нараджальнасць год ад году катастрафічна зніжаецца. Калі, скажам, у 1995 годзе нарадзілася 100,1 тысячы немаўлят, у 1996-ым — 95,8 тысячы, дык ужо летась — усяго толькі 90 тысяч дзяцей.

У той жа час колькасць абортаў калі і змяншаецца, дык не такімі тэмпамі. Так, у 1995 годзе ў Беларусі было зроблена 188,7 тысячы абортаў, у 1996 — 170 тысяч, летась — 160 тысяч. Гэтыя паказчыкі значна большыя, чым у іншых цывілізаваных краінах. У нас на 100 нараджэнняў прыпадае недзе 160 абортаў. Штучнае перапыненне цяжарнасці ў нас па-ранейшаму застаецца (горка пра гэта гаварыць) ці не асноўным метадам рэгулявання нараджальнасці. Праблем дзетанараджэння не ўзнікае тады, калі паказчык сумарнага каэфіцыента складае 215 немаўлят на 1 тысячу жанчын фертыльнага (дзетароднага) узросту. У нас жа ён не дацягвае і да 150.

Аборт у нас легалізаваны. Гэта было зроблена ў былым Савецкім Саюзе ў 1955 годзе. У выніку нараджальнасць значна скарацілася. Паводле падлікаў некаторых вучоных, у выніку гэтага насельніцтва СССР за трыццаць гадоў (1956—1985) не далічылася 40—50 мільёнаў чалавек. Беларусь па колькасці абортаў (у разліку на 100 нараджэнняў) займае трэцяе месца ў свеце. З трох зачатых дзяцей двое не нараджаюцца.



*Фота І. Макаловіча*

У 19 краінах свету аборты забаронены афіцыйна, на дзяржаўным узроўні. У нас гаворкі аб іх забароне няма. І гэта правільна. Забаронай справе не дапаможаш. Мы гэта праходзілі ўжо. Старэйшыя людзі памятаюць час, калі забарона існавала і ў нас, і могуць прыгадаць, да якіх сумных вынікаў гэта прыводзіла, колькі надаралася трагедый, колькі маладых дзяўчат і наогул жанчын гінула, робячы аборты падпольна, у антысанітарных умовах. Не спрыяла гэта і павышэнню нараджальнасці. Тым больш не паспрыяе гэтаму забарона сёння. Ні забароны, ні ўгаворы! Бо роды сёння — гэта праблема не столькі медыцынская, колькі сацыяльная і маральна-этычная.

Сёння людзі, бы згаладалыя пасля многіх дзесяцігоддзяў адлучэння ад веры, пацягнуліся ў царкву, да Бога. Зноў набываюць пашырэнне абрады вянчання і хрышчэння, адпявання. Гэта тычыцца найперш жанчын. Маладыя і пажылыя жанчыны моляцца, заўзята хрысцяцца і... ідуць на аборт, гэтую жудасную, прыніжаючую годнасць чалавека і балючую аперацыю. У старазаветнай царкве за забойства ў лоне маці вінаватага каралі смерцю. У хрысціянскай царкве жанчына, якая наўмысна загубіла плод, падлягае асуджэнню, як за забойства. Мы, не надта дасведчаныя ва ўсім гэтым, можам пагаджацца ці не пагаджацца з такімі суровымі высновамі, аднак жа яны, пэўна, невыпадковыя.

Медыцына сведчыць, што жыццё ў эмбрыёне ўзнікае, пачынаецца практычна з самога зачацця. На 18-ты дзень жыцця будучага дзіцяці пачынае біцца сэрца і прыходзіць у рух асобная сістэма кровазвароту. У 7 тыдняў фіксуюцца мазгавыя імпульсы зародка, што з'яўляецца неаспрэчным крытэрыем жыцця дзіцяці. Яно мае ўжо цалкам сфарміраваныя знешнія і ўнутраныя органы, выразна бачны вочы, нос, вусны, язык. У 10 тыдняў плод валодае ўсімі характарыстыкамі даношанага дзіцяці.

Між тым, ці многія з нас над гэтым задумваюцца? На жаль, зусім нямногія. Успрымаючы аборт як будзённую аперацыю (я ўжо гаварыла пра гэта) па перапыненні цяжарнасці, многія жанчыны і дзяўчаты ідуць на яго з такой жа лёгкасцю, як у цырульню ці ў касметычны кабінет. Так, ідуць. Аднак жа, думаецца, кожная з іх адчувае, хоць падсвядома, што ідзе на злачынства. Бо жанчына па прыродзе сваёй цудоўна разумее, з самых маладых гадоў, што яе прызначэнне — даваць жыццё, а не забіваць яго.

Бернард Натансан, былы кіраўнік клінікі ў ЗША, за гады сваёй працы зрабіў некалькі дзесяткаў тысяч абортаў (сам называў лічбу 60 тысяч). У рэшце рэшт яму хапіла розуму дайсці да одуму, спыніцца і правесці навуковыя даследаванні, з прымяненнем самых сучасных тэхнічных сродкаў, таго, што ж адбываецца ў лоне маці ў момант аборта. Б. Натансан прыйшоў да высновы, што эмбрыён — гэта ўжо асобная чалавечая істота з уласцівымі ёй, чалавечай істоце, характарыстыкамі. Дзеля пацвярджэння гэтага ўрач зрабіў ультрагукавую здымку аборта 12-тыднёвага эмбрыёна. Яго фільм "Немы крык" абышоў экраны свету. Яго нельга глядзець спакойна, без дрыжыкаў. Зародак адчувае небяспеку смерці, сэрцайка яго пачынае біцца часта-часта — да двухсот удараў у мінуту, малая чалавечая істота раскрывае раток і крычыць немым крыкам ад жаху, намагаецца "ўцячы" ад жудасных інструментаў. Ды ўцячы няма куды. Металічныя абцугі бязлітасна адрываюць ручкі і ножкі, разрываюць на кавалкі маленькае цельца. І няма ў каго шукаць абароны, нават у сваёй роднай маці...

Хай даруе мне чытач гэты жахлівы пераказ дакументальнага фільма амерыканскага ўрача-гінеколага. Цяжка, неймаверна цяжка пра ўсё гэта гаварыць, але, тым не менш, можа, варта было б паказаць фільм і па нашым тэлебачанні, і не адзін раз, каб яго пабачыла як мага больш жанчын самага рознага веку — унучкі, дочкі і бабулі. Думаецца, што пабачаныя кадры многіх з іх спынілі б ісці на такі ўчынак, прымусілі б задумацца і адумацца, яшчэ і яшчэ раз узважыць усе акалічнасці і прыняць нейкае мудрэйшае рашэнне.

Афіцыйна дазволена рабіць аборт тады, калі тэрмін цяжарнасці не перавышае 12 тыдняў. Спецыяльны дазвол урача патрэбен пры цяжарнасці да 20 тыдняў і больш. Нашы жанчыны ведаюць гэта і, так бы мовіць, карыстаюцца такім законапалажэннем. Што ж штурхае жанчыну на аборт? Прычыны самыя розныя, згрупаваць ці класіфікаваць іх — няпроста. Найперш, думаецца, гэта няўважлівыя, абыякавыя адносіны грамадства і дзяржавы да праблем мацярынства (маці і дзіцяці) і быту жанчын, цяжкія сацыяльныя ўмовы жыцця, бытавая неўладкаванасць, маральная разбэшчанасць, бездухоўнасць. Сярод тых, што рашыліся на аборт, значны працэнт незамужніх жанчын. Доля зганьбаванай і ганьбуемай у нас маці-адзіночкі палохае жанчыну больш, чым дзетазабойства. І папракнуць тут жанчыну няпроста. Без маральнай і матэрыяльнай дапамогі і падтрымкі маладой адзінокай маці даводзіцца вельмі і вельмі цяжка. Бацькі, як правіла, таксама адварочваюцца ад такой дачкі: маўляў, перад людзьмі сорамна. Ад дзяржавы падтрымка таксама амаль фармальная. Сітуацыя часта безвыходная — няма адкуль чакаць спачування і дапамогі. А статыстыка, між тым, безадносна да ўсяго гэтага сведчыць: кожная сёмая парадзіха — незамужняя.

З другога боку, вялікая тут віна і мужчын. Жанчыны сталі менш раджаць і ідуць на аборт з прычыны інфантыльнай безадказнасці мужчын, іх п'янства і разбэшчанасці, няздольнасці ўтрымліваць сям'ю — нават тую, якая ёсць. На жаль, вінаваты часта і самі жанчыны. І яны паддаліся хваробе інфантыльнасці і эгаізму. Колькі разоў мы чуем ад сваіх калежанак, таварышак і сваячаніц: "Ах, гэтыя дзеці, я так стамляюся і без іх, прыходжу з работы знясіленай, як выціснуты лімон..." І не разумеюць, дурніцы, што менавіта дзеці даюць жанчыне найлепшы зарад бадзёрасці, сілы і здароўя, што дзіцячая ўсмешка, дотык дзіцячых рук здымаюць з мамы груз усялякіх бытавых і вытворчых неўразуменняў і стрэсаў. Апошнім жа часам усё больш паяўляецца гэтакіх бізнес-лэдзі, якія і не думаюць раджаць дзяцей; кідаць высокааплачваемую працу і сядзець дома з дзіцем ім проста сумна і зневажальна.

А яшчэ ж Ленін заўважыў: "Тым горшы склад рабочых сіл, чым большая перавага жанчын у агульнай колькасці занятых". Уладзімір Ільіч гаварыў нямала і разумных рэчаў. У гэтым выпадку ён кажа абсалютную праўду. Адзначаная ім сітуацыя (калі большую частку рабочай сілы складаюць жанчыны) кепская і для дзяржавы, і для сям'і. Пэўна, было б разумней, каб дзяржава змагла забяспечыць жанчыне магчымасць нарадзіць і выхаваць некалькі дзяцей, чым укалваць з дня ў дзень на прадпрыемствах, у тым ліку і на такіх, дзе выкарыстанне жаночай працы — проста ганебнае (скажам, на шкодных вытворчасцях, на цяжкіх работах). Папаўняючы за кошт жанчын працоўныя рэсурсы, мы тым самым плануем заўтрашняе змяншэнне іх колькасці.

Дарэчы, аднойчы мне трапіліся на вочы надзвычай цікавыя дадзеныя аб фертыльнасці (нараджальнасці) сярод працуючых жанчын з групы так званых ІТР — інжынерна-тэхнічных работнікаў. У 30-х гадах паказчык іх фертыльнасці быў вышэйшы, чым цяперашніх вясковых жанчын. У 1938 годзе паказчык нараджальнасці быў такі: у Маскве — 28,5, у Ленінградзе — 27,4, у Мінску — 35,0. на 1000 жанчын адпаведнага ўзросту. А дваццаць гадоў назад, у 1977 годзе, гэты паказчык нават у нашай вёсцы быў усяго 20,2. І гэта нельга вытлумачыць ростам культурнага ўзроўню насельніцтва: маўляў, чым ніжэйшы гэты ўзровень, тым вышэйшы паказчык нараджальнасці. Бо нельга ж сцвярджаць, што культурны ўзровень ІТР у Маскве, Ленінградзе і Мінску ў 1938 годзе быў ніжэйшы, чым у савецкай вёсцы 1977 года!

Сёння, на жаль, вельмі часта менавіта матэрыяльная безвыходнасць, бесперспектыўнасць і безнадзейнасць штурхаюць жанчыну на аборт. І вельмі часта здараецца так, што дачку пасылаюць, ці блаславіўляюць на гэта іх уласныя мамы, замест таго, каб навучыць яе, падказаць ёй, як пазбегнуць такога лёсу. Мацярынскія абавязкі даводзіцца браць на сябе ўрачам. У многім, на жаль, гэта вынік таго, што да гэтага часу ў нашай краіне няма дзяржаўнай праграмы планавання сям'і, і маладыя мамы, у тым ліку і патэнцыяльныя, не вераць, што на змену пустым дзяржаўным пастановам і ўказам прыйдзе рэальная і разумная праграма па ахове мацярынства і дзяцінства.

Якая альтэрнатыва аборту? Якую шкоду наносіць ён жаночаму арганізму? Якія ягоныя наступствы для жанчыны і наогул для дзетанараджальнасці, для выжывання і ўзнаўлення нацыі? Урэшце, якая рэальная сітуацыя з абортамі ў Беларусі сёння, якія канкрэтныя лічбы і паказчыкі характарызуюць яе? А, галоўнае, якое яно сёння, здароўе нашых жанчын і дзяўчат, як носьбітак жыцця, як прадаўжальніц роду беларусаў?

Пра гэта я гутару з галоўным акушэрам-гінеколагам Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь Дзмітрыем МІХНЮКОМ.

**— Дзмітрый Міхайлавіч, перш-наперш хачу пачуць вашу ацэнку здароўя беларускіх жанчын увогуле. Пытаюся пра гэта найперш, бо ад здароўя жанчын залежыць, несумненна, здароўе нацыі. Ці не так?**

— Безумоўна! Тым не менш, адказаць на гэтае пытанне не так і проста. Якое здароўе маецца на ўвазе? Я магу меркаваць аб гэтым са свайго пункту гледжання. Дык вось, калі ацэньваць здароўе жанчын, зыходзячы са статыстычных дадзеных па такіх паказчыках, як смяротнасць немаўлят, дык, у прынцыпе, у нас усё не так і кепска, як можна думаць. Летась паказчыкі па смяротнасці немаўлят склалі 12,3. Для недасведчанага

*(Працяг на стар. 14 — 15)*

**ЛіМ ЧАСАПІС**

# І сячэ, і паліць...

**Споўнілася 70 гадоў з дня нараджэння вядомага пісьменніка-сатырыка, крытыка, мовазнаўца, журналіста Георгія Юрчанкі. Саюз беларускіх пісьменнікаў наладзіў творчы вечар у гонар юбіляра. Адкрыў вечар паэт Алесь Пісьмянкоў. Ён адзначыў дасягненні Г. Юрчанкі ў многіх творчых накірунках. Пісьменнік па сутнасці стварыў у беларускай літаратуры школу літаратурнай пароды. Яго вучнямі ў гэтым напрамку з'яўляюцца многія беларускія паэты маладзейшага пакалення. Асаблівыя заслугі Г. Юрчанкі на ніве беларускага мовазнаўства — яго збіральніцкая праца народнай лексікі Мсціслаўшчыны. За амаль паўвекавы перыяд ён зафіксаваў дзесяткі тысяч слоў і розных словаспалучэнняў і выдаў іх у адзінаццаці кнігах. Такога поўнага збору лексічных багаццяў не мае ні адзін рэгіён Беларусі.**

**Са словамі ўдзячнасці да Г. Юрчанкі як да свайго настаўніка звярнуліся яго маладзейшыя калегі Міхась Пазнякоў і Мікола Вяршынін і прачыталі свае творы, прысвечаныя юбіляру.**

**Вітаць земляка прыехалі са Мсціслава намеснік старшыні райвыканкома Іван Карпечкін і рэдактар раённай газеты "Свята Кастрычніка" Аляксандр Сапёраў. Апошні расказаў пра цесную больш чым трыццацігадовую сувязь юбіляра з раённай газетай, пра стварэння ім творчыя партрэты знакамітых ураджэнцаў Мсціслаўшчыны Адрыяна Прахава, Сцяпана Кутаргі, Дзмітрыя Дубягі, Міхася Лісоўскага, Ларысы Жунінай, Аляксандра Падлужнага, Віктара Ільіна, Вадзіма Астапенкі, Аляксандра Германовіча і іншых. Вяршыняй яго журналісцкай дзейнасці з'яўляецца навукова-папулярны нарыс "На мсціслаўскай зямлі ўзгадаваны" пра выдатнага вучонага-фізіка члена-карэспандэнта Акадэміі навук СССР Паўла Кабеку. Мсціслаўцы ўручылі юбіляру дары роднай зямлі хлеб-соль і па-мастацку вытканы ручнік і запрасілі выступіць у раённым Доме культуры.**

**Віталі Г. Юрчанку яго землякі пісьменнік Алег Ждан і намеснік галоўнага рэдактара газеты "Белорусская нива" Віктар Легенькоў, а таксама былыя аднакласнікі Васіль Навойкаў і Алесь Цітоў.**

**Вядомы беларускі мовазнаўца лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР Аляксандр Крывіцкі, таксама ўраджэнец Мсціслаўшчыны, расказаў пра збіральніцкую дзейнасць Г. Юрчанкі, мовазнаўчыя набыткі. Ён імкнецца дайсці да вытокаў слова, пранікнуць у самыя патаемныя глыбіні народнай мовы, даследуючы моўныя працэсы на мяжы магчымага. Жыццё слова ў яго кнігах адлюстравана глыбока і ўсебакова. Вялікую ўвагу звяртае на форма- і словаўтваральныя моўныя працэсы. Таму ім пададзена вялікая колькасць памяншальных, павелічальных, узмацняльных і іншых форм, якія нарматыўнымі слоўнікамі звычайна ігнаруюцца. Шырока паказана прэфіксальна-суфіксальная моватворчая сістэма. Яна значна больш шырокая і гнуткая, чым у літаратурнай мове. Вельмі багаты ілюстрацыйны матэрыял, з якога паўстае абагульнены вобраз працоўнага чалавека з яго багатым жыццёвым вопытам, з усімі яго марамі, надзеямі, спадзяваннямі. Гэта своеасаблівы раманны вобраз. Выключную каштоўнасць маюць сабраныя Г. Юрчанкам розныя ўстойлівыя словаспалучэнні і ў першую чаргу фразеалагізмы, якія укладальнік выпусціў у трох тамах пад арыгінальнымі назвамі "І коціцца і валіцца", "І сячэ і паліць", "Слова за слова". З дня на дзень чакаецца выхад трэцяй, заключнай часткі яго грунтоўнага збору "Сучасная народная лексіка". Гэта будзе дванаццатая кніга народнай мовы Мсціслаўшчыны.**

**Шчыра вітала Г. Юрчанку Людміла Пятрова, дырэктар выдавецтва "Беларуская навука", дзе юбіляр працаваў дваццаць сем гадоў загадчыкам рэдакцыі.**

**Вялікую залу Дома літаратара запоўніла моладзь. І гэта знамянальна. Маладое пакаленне душой цягнецца да беларускага мастацкага слова, жывога слова народнай мовы.**

**Перад прысутнымі выступілі артысты беларускіх тэатраў. Прагучалі народныя песні ў суправаджэнні баяна. Былі прачытаны пароды і эпіграмы юбіляра. Шэраг вершаваных і празаічных пародый прачытаў сам аўтар, віноўнік урачыстасці. Прысутныя сустракалі трапнае мастацкае слова вясёлым дружным смехам і шчырымі воплескамі.**

**Усе выступаўшыя пажадалі юбіляру добрага здароўя і новых творчых поспехаў на карысць роднай літаратуры, мастацкага слова, яго культуры.**

**Аркадзь НАРКЕВІЧ,**
**доктар філалагічных навук**

# Ні госць, ні гаспадар...

Кожны чалавек, як вядома, пасвойму ўспрымае ўсё пачутае і ўбачанае. Адзін і той літаратурны твор можа выклікаць у розных людзей абсалютна розныя пачуцці і эмоцыі. Гэта залежыць ад выхавання чалавека, ад асяроддзя, у якім ён жыве, і нават ад настрою. Але бясспрэчна тое, што большасці з нас уласціва пачуццё цікаўнасці да асобы аўтара твора, які нам спадабаўся, і тым болей, калі твор чымсьці "уразіў".

Азнаямленне з біяграфіяй Лукаша Калюгі (Канстанціна Пятровіча Вашыны) выклікае дзіўнае пачуццё. З аднаго боку — лёс быў літасцівы да яго, нават аберагаў ад жыццёвых нястач, а з другога — ранняя смерць бацькоў, заўчасная жорсткая гібель самога пісьменніка. Шматзначная дата смерці — 1937 год. Яўген Лецка, даследчык творчасці Л. Калюгі, напісаў аб гэтым: "Убачыўшы апошнюю дату, чытач, мяркую, здагадаецца адразу, па чыёй віне пісьменніку суджана было пражыць такі кароткі век".

Нарадзіўся Кастусь Вашына ў вёсцы Скварцы цяперашняга Дзяржынскага раёна Мінскай вобласці. Калі яму споўнілася два гадкі, на яго абрынулася першае жыццёвае няшчасце — смерць маці. Але лёс літасціва пазбаўляе дзіця сіроцкай долі. Цётка Кастуся, бацькава незамужняя сястра Марыя Мікалаеўна Вашына бярэцца за выхаванне дзіцяці. Франц Гінтаўт ва "Успамінах пра сябра" піша аб тым, што "цётка вельмі любіла свайго пляменніка-сірацінку". А па словах самой цёткі відаць, што Кастусь рос паслухмяным і разумным хлопчыкам, які нікому не даваў клопату.

Чым жыло вясковае дзіця, уявіць нядужка. Менавіта з дзіцячых назіранняў нараджаюцца маляўнічыя апісанні вёскі Баркаўцы ў аповесці "Ні госць, ні гаспадар". Адтуль жа паходзяць апісанні сялянскага побыту і працы. Бо вясковыя дзеці далучаюцца да працы вельмі рана. Спачатку робяць тое, што ім па сіле, а далей разам з бацькамі адказна бяруцца за ўсю гаспадарку. Гэта таксама адлюстроўваецца на старонках аповесці. Пранікнёна апісвае аўтар выпадак, як вясковыя мужыкі "ідуць па коні". Сярод іх малы хлапчук, які не можа злавіць свайго каня. І ў яго — поўныя вочы слёз ад сораму ды ад злосці...

Кастусь рос кемлівым і цікавым хлапчуком. Бацька яго да навукі ставіўся з павагаю, і калі хлопчыку споўнілася сем гадоў, аддаў яго ў пачатковую школу. У 1921 годзе Кастусь паступіў у Станькаўскую сямігодку.

Новае няшчасце здарылася ў сям'і юнака — памёр бацька. Але, зноў жа, лёс быў літасцівы да яго. У прымы да цёткі прыстаў родны дзядзька Кастуся па маці Уладзімір Сцяпанавіч Івашын. Ён замяніў Кастусю ў далейшым бацьку. Такім чынам, вакол юнака ўвесь час знаходзяцца родныя і блізкія людзі, якія дапамагаюць яму сталець і ісці па жыцці.

І яшчэ адзін момант жыцця, як наканаваны лёсам. Гэта паступленне ў Беларускі педагагічны тэхнікум у Мінску. Перад гэтым, у 1926 годзе, Кастусь Вашына здаў экзамен і пачаў вучобу ў Магілёўскім педтэхнікуме, але чамусьці там не затрымаўся, вярнуўся ў родную вёску да гаспадаркі.

Дарэчы, аб жыцці і творчасці Лукаша Калюгі захавалася вельмі няшмат звестак. Але што сабою ўяўляў аўтар як асоба, мы можам меркаваць па аўтабіяграфічнай аповесці "Ні госць, ні гаспадар". Роздум Кастуся аб далейшых напрамках і кірунках жыцця знаходзіць адбітак на старонках аповесці, у развагах Хвядоса (трэба меркаваць, alter ego аўтара): "Хлопцы-таварышы хваляцца не нахваляцца, хто куды падацца надумаў. А Хвядос маўчыць. Хто — у настаўнікі, хто — у каморнікі, меліяратары... Адзін ён — гаспадар ("мужык" бы даўней сказалі). Трохі — крыўды (ці ж ён горшы за ўсіх?) Крыху і прыемна. Вёска — цёмная. Вёска — бацькаўшчына. І ўсе ўцякаюць з яе".

Канец 20-х гадоў характарызуецца павышанай увагай літаратараў да тых падзей, якія адбываюцца на вёсцы. Жыццё перайначвалася карэнным чынам. Працэсы, што адбываюцца ў побыце, у душах людзей, знаходзяць адбітак у творах пісьменнікаў. Лукаш Калюга, як творчая асоба, не застаецца ўбаку ад гэтых падзей. У 1926 годзе ён піша апавяданне "Выйшлі на цаліну", у цэнтры якога праблема надзелу зямлёй беззямельнага сялянства.

Разам з апавяданнем нарадзіўся і творчы псеўданім Кастуся Вашыны — Лукаш Калюга. Вось што піша пра гэта Франц Гінтаўт: "Тады было модна пісаць пад псеўданімам, і Кастусь пачаў іменаваць сябе Лукашом Калюгам. Калюгамі ў Скварцах называлі копанкі з-пад торфу, напоўненыя вадой. Адна такая даволі вялікая калюга, з мноствам водных кветак, аеру — любімае месца дзяцей, знаходзілася каля яго вёскі, мабыць, яна і паспрыяла ў выбары псеўданіма".

Апавяданне "Выйшлі на цаліну" надрукавана не было. Але Кастусь зноў працягвае працаваць, стварае новыя апавяданні, і, нарэшце, адбываецца тая сустрэча, якую можна назваць своеасаблівым бласлаўленнем лёсу. Гэта была сустрэча з Кузьмой Чорным. Менавіта гэты пісьменнік даў параду К. Вашыну паступаць у Мінскі белпедтэхнікум. Вось якую характарыстыку дае Яўген Лецка той навучальнай установе:

"Пакуль што не напісана гісторыя гэтай унікальнай па ўкладзе ў станаўленне нацыянальнай культуры навучальнай установы, якая нечым нагадвае Царскасельскі ліцэй, з той толькі розніцай, што там навучалася элітарная моладзь, а ў нас дзеці сялян, рабочых і дэмакратычнай інтэлігенцыі. Выкладалі ў Белпедтэхнікуме людзі вядомыя, сярод якіх былі і Якуб Колас, і яго дзядзька — найбольш аўтарытэт у мовазнаўчай навуцы Язэп Лёсік, і многія іншыя".

Акрылены сустрэчай і размовай з Кузьмой Чорным, Кастусь стварае цэлы шэраг новых твораў. На працягу 1928 года надрукаваны чатыры апавяданні — "Краўцы і чаляднікі", "Лук'ян — кепераціўскі сабака", "Трахім з Пагулянкі", "Баркаўцы — добрая вёска і баркаўчане — вясёлыя людзі".

У 20-я гады маладыя літаратурныя сілы рэспублікі аб'ядноўвала творчая арганізацыя пісьменнікаў "Маладняк". Таленавітая моладзь з народных глыбінь імкнецца ў літаратуру са сваімі тэмамі, меркаваннямі і са сваім стылем. У апавяданнях гэтага часу адметна вобразнасць і рамантычная ўзнёсласць. Як пісаў Алесь Адамовіч, "нават празаікі гаварылі мовай паэтаў".

Лукаш Калюга не ўступіў у згуртаванне "Маладняк". Яго проза застаецца рэалістычнай, прыбліжанай да жыцця сялянства. Але ўсё ж уплыў "Маладняка" адчуваецца ў некаторых творах маладога пісьменніка. Выразны прыклад гэтаму — апавяданне "Вясна". З самых першых радкоў гучыць паэтычная інтанацыя: "Як маленечкія люстэрачкі, мяняюцца ад прамення вясенняга сонца растрэсеныя на полі сняжынкі". Інтанацыя, не ўласцівая іншым творам Калюгі. Звычайна ж творы яго пачынаюцца з памяркоўных сялянскіх разважанняў або са знаёмства з дзеючымі асобамі. А такія лірычныя адступленні, як, напрыклад, наступнае, сустракаюцца рэдка: "Вясною рунее жытцо і ярына, зялёныя хвалямі к зямлі хінецца. Улетку спелыя каласі гнуць свае пажоўклыя галовы на твае грудзі, як пройдзеш мяжою, і шастаюць казку пра жыццё".

Але пра прыналежнасць некаторых Калюгавых твораў да "маладняковаскага стылю" можна гаварыць толькі адносна, таму што вобразы герояў застаюцца ў гэтых творах індывідуалізаваныя і канкрэтныя.

У маі 1926 года адбыўся раскол "Маладняка", яго пакінулі К. Чорны, К. Крапіва, У. Дубоўка і іншыя. Яны заявілі аб стварэнні новага творчага аб'яднання беларускіх пісьменнікаў "Узвышша". Яно ставіла задачу стварыць літаратуру вялікай ідэйнай і мастацкай каштоўнасці. Таму лічыць сябе прыналежнымі да суполкі маглі толькі сапраўды таленавітыя пісьменнікі. Лукашу Калюгу напісаў рэкамендацыю ва "Узвышша" Кузьма Чорны. Вясковая рэалістычная проза маладога пісьменніка адпавядала той разгалінаванай праграме, тым патрабаванням і крытэрыям, якія ставілі перад сабой і іншымі літаратарамі стваральнікі новага творчага аб'яднання.

Навала сталінскіх рэпрэсій, якая нагадвала нейкае жудаснае паляванне, абрынулася на "Узвышша" ў канцы 1929 года. Адзін за другім траплялі ў гэтыя страшныя жорны таленавітыя літаратары: Уладзімір Дубоўка, Адам Бабарэка, Антон Адамовіч...

У 1933 годзе быў арыштаваны і Лукаш Калюга. Следства, як зазвычай тады, скончылася абвінавачваннем і выгнаннем. Спачатку пісьменнік адбываў пакаранне ў Мінскай турме, а пасля быў высланы на спецпасяленне ў г. Ірбіт Свярдлоўскай вобласці.

Але нават у той бязлітасны і здрадніцкі час знаходзіліся сумленныя людзі. Невядома, якім чынам вышукваў магчымасць працаваць пісьменнік за кратамі, хто яму дапамагаў у гэтым. Нехта ж павінен быў перадаць і той аловак, і тыя шматкі паперы, якія былі пасля густа спісаны дробным почыркам. На некаторых творах пазначана рукой аўтара, што пачынаў іх ён у Мінскай турме, а працягваў ужо ў выгнанні.

Па "творах з-за кратаў" мы мяркуем аб стане душы іх аўтара. Кожны радок прасякнуты настальгіяй і болем па радзіме, ад якой быў гвалтоўна адарваны, аб якой пісаў такімі шчырымі словамі, па сваёй страчанай маладосці, якая была таксама адабрана ў яго, як і Бацькаўшчына.

У аповесці "Дзе косці мелюць" Лукаш Калюга апісвае беларускія абрады. Душа пісьменніка толькі ва ўспамінах і марах можа вярнуцца на Бацькаўшчыну, да родных ліп і клёнаў.

Але не суджана было спраўдзіцца марам, пакарання выгнаннем сталася недастаткова, і ў 1937 годзе пісьменніка асудзілі на расстрэл. Прысуд быў выкананы 2 кастрычніка.

У прадмове да збору твораў Лукаша Калюгі Яўген Лецка напісаў: "Бачыў, усведамляў, прадчуваў ці інтуітыўна станавіўся на абарону чалавечнасці малады дваццацігадовы празаік — сёння не так і важна. Галоўнае, што пафас, маральна-этычная сутнасць твораў пісьменніка аб'ектыўна супрацьстаялі дэгуманізацыі савецкага грамадства, якое з кожным годам усё больш катастрафічна набліжалася да той страшнай мяжы, за якой было перараджэнне і ператварэнне зусім у іншую, чым задумвалася напачатку, рэальнасць".

Здаецца, больш трапных слоў не падабраць. Творчасць Л. Калюгі гэта творчасць пісьменніка-гуманіста, якая прасякнута чалавекалюбствам. Пісьменнік жыў і існаваў у тых абставінах, сярод тых людзей, што сталі нам знаёмымі па яго творах. Тэма новага жыцця выступае ў творчасці Л. Калюгі не ў радасным лірычным успрыманні, а ў разгорнутых разважаннях і меркаваннях, падзеях і вобразах. Вабіць у яго творах мова — арыгінальная і індывідуалізаваная мова яго малой радзімы. Ужо па некалькіх радках можна здагадацца аб аўтарстве.

Маўклівым абвінавачваннем засталіся няскончаныя творы Лукаша Калюгі...

**Лада АЛЕЙНІК**

ВІНШУЕМ!

# Плён нялёгкай дарогі

## УЛАДЗІМІРУ ДАМАШЭВІЧУ — 70

У аўтабіяграфіі "Кавалак нялёгкай дарогі", напісанай 20 кастрычніка 1964 года, Уладзімір Дамашэвіч так сказаў пра пачатак сваёй творчай дарогі: "Жаданне пісаць ва мне жыло даўно, асабліва ў студэнцкія гады, але цягнулі да сябе больш за ўсё драматычныя, трагічныя тэмы, а яны былі тады не ў пашане". Сёння, калі мінулася столькі часу пасля гэтага прызнання, можна дадаць хіба адно, прытым істотнае: плён яго нялёгкай пісьменніцкай дарогі відавочны, а ў астатнім... Канечне, цяпер да "драматычных, трагічных тэм", магчыма, і няма такой насцярогі, як шмат гадоў назад, ды толькі тое, як У. Дамашэвіч піша, як думае ён, нарэшце, як ставіцца да ўсяго, што адбываецца наўкола, — па-ранейшаму многім не падабаецца. Асабліва, калі гэтаксама, як і ў гады маладосці, выступае ў абарону беларускасці. А ён на кпіны, неразуменне не звяртае асаблівай увагі, як, у рэшце рэшт, не звяртаў ніколі. А ён адстойвае ўласную пазіцыю, як рабіў гэта заўсёды, не задумваючыся надта, якіх непажаданых вынікаў можа ўсё каштаваць. Бо быць самім сабой — у характары Уладзіміра Максімавіча. Але быць самім сабой у ягоным разуменні — гэта і быць патрэбным іншым, грамадству.

Прадчуваю, як, прачытаўшы гэта, ён усміхнецца неяк, калі можна так сказаць, сцішана, ледзь прыкметна: маўляў, нічога лепшага прыдумаць не мог, як такое сказаць! Я і сам разумею, што прыродная сціпласць не дазваляе У. Дамашэвічу мысліць такімі высокімі катэгорыямі, як служэнне грамадству. Але ж і патрэбы асаблівай яму ў гэтым няма. Ён не думае, як рабіць, ён робіць гэта і доказвае кожным сваім учынкам, кожным выступленнем на пісьменніцкіх з'ездах, розных сходах літаратараў. Як і доказваў яшчэ тады, калі многія з цяперашніх "чысцейшых" і "святейшых" былі звычайнымі прыкарытнікамі. Ён, У. Дамашэвіч, не баяўся гаварыць — прама, адкрыта, рэзка, што з беларускай моваю становішча крытычнае, што на яе ўладныя структуры не звяртаюць ніякай увагі.

Такая смеласць каштуе дорага. Цану яе неадноймы адчуваў на ўласным лёсе і У. Дамашэвіч. Найбольш яскравае пацвярджэнне таму — выпадак з яго раманам "Камень з гары" (дарэчы, адным з лепшых твораў пісьменніка). Ён змог выйсці толькі праз дваццаць гадоў: напісаны ў 1969-м, пабачыў свет у "Мастацкай літаратуры" ў 1990-м. Такі запознены прыход да чытача тлумачыцца тым, што ў ім аўтар закрануў тэму сталінізму, і асмеліўся гэта зрабіць тады, калі паступова ў афіцыйных крыніцах пачалася замоўчвацца праўда пра падзеі трыццатых гадоў і іх ганебныя наступствы. Больш таго, у творы адчувальная дакументальная аснова і са старонак яго бачны многія непрывабныя бакі выдавецкай дзейнасці на Беларусі, у прыватнасці, ідэалагічны націск на пісьменніцкаў, партыйная падказка ім, як і пра што трэба пісаць.

І дырэктар выдавецтва Важнік, і галоўныя рэдактары — спачатку Шахоўскі, а потым Быліна — звычайныя ідэалагічныя марыянеткі. Яны даўно развучыліся думаць, прымаць самастойныя рашэнні. Як флюгеры, трымаюць нос па ветры, усё вынюхваюць, што загадаюць "наверсе". "Верх" жа ў не такія і далёкія часы, як вядома, увасаблялі аддзелы ЦК партыі, якія займаліся і пытаннямі кнігавыдавецкай дзейнасці. У. Дамашэвіч не пашкадаваў прыкладаў, каб паказаць, як усе гэтыя важнікі, шахоўскія, быліны сваёй аглядкавасцю, асцярожнасцю па жывому "рэзалі" літаратуру, выкідваючы з рукапісаў усё, што хоць у нечым не стасавалася з партыйнымі ўстаноўкамі.

У рамане, многія пазналі сябе, а калі не яны пазналі, бо не той час, пайшлі ўжо з жыцця, дык іх блізкія, а таму рукапіс так доўга і не трапляў у друк. Хоць, бадай, на гэта была і яшчэ адна прычына: вельмі ж каларытным атрымаўся ў рамане вядомы літаратурны крытык Рымар, які "да вайны... грымеў на крытычным фронце, выносіў безапеляцыйны прысуд ледзь не кожнаму пісьменніку, і тыя, на каго ён з гневам паказваў пальцам, прападалі з літаратуры, а пасля і з жыцця". Галоўнаму герою рамана Драгуну заўсёды было агідна бачыць Рымара — "невялічкага, круглага, як бочка, з жорсткім выразам шчыльна стуленых губ і нахабных вачэй". Агідна не толькі з-за мінулага Рымара, а і таму, што ў выдавецтве ніхто не задумваўся, як ён жыў раней, што рабіў. А яшчэ Рымара — падумаць страшна! — паважалі, "ён пасябраваў нават з тымі, на каго некалі пісаў у газетах і паказваў пальцам: ён вораг — разам пішa сцэнарыі, разам ездзіць на курорт у Карлавы Вары, у Чэхаславакію".

Такая праўда, на думку партыйных кіраўнікоў, непатрэбна была грамадству. Не баяліся яны, нібыта чорт ладану, як і праўды пра мінулую вайну, якую У. Дамашэвіч раскрыў у апавяданні "Самасуд". Лёс гэтага



твора падобны на лёс рамана "Камень з гары". Хіба што "пакуты" яго былі меншыя. Напісана апавяданне ў 1971 годзе — апублікавана ў 1988-м. Сітуацыя, пакладзеная ў яго аснову, настолькі драматычна-трагічная, што знайсці больш выключны выпадак, бадай, і немагчыма. На фронце здзяйсняецца не проста самасуд, а самасуд "двайны". Спачатку камандзір роты капітан Казельскі застрэліў за непаслушэнства сяржанта Любчанку, праз колькі мінут, даведаўшыся пра гэта, камандзір узвода лейтэнант Ладуцька забіў Казельскага...

Не пашанцавала У. Дамашэвічу і з апавесцю "Кожны чацвёрты". Як і апавяданне "Самасуд", яна напісана на матэрыяле Вялікай Айчыннай вайны, з той толькі розніцай, што ў гэтым творы дзеянне адбываецца на акупіраванай тэрыторыі. Галоўныя героі твора Алесь Ваўчэцкі і Пятро Паланейчык таксама ўчыняюць самасуд. Правільней, робіць гэта Ваўчэцкі над сям'ёй чалавека, якога падазраваў у смерці сваіх бацькоў. Але ж і Паланейчык не "чысты", бо, хоць і не прымаў непасрэднага ўдзелу ў расправе, стаў міжвольным сведкам гэтага злачынства...

Аповесць усё ж выйшла асобнай кнігай, а вось апошні па часе напісання раман У. Дамашэвіча "Не праклі сваю долю" чакае чаргі ў выдавецтве недзе з 1995 года. Вядома, як цяжка цяпер з кнігавыданнем, ды хіба аўтару, які чарговаму свайму "дзіцяці" аддаў столькі гадоў, ад гэтага лягчэй? Ды і ў рамане па-новаму асэнсоўваецца жыццё ў былой Заходняй Беларусі. Апошім часам, як вядома, цікава расказалі пра гэта цяперашнія "пяцідзесятнікі" Генрых Далідовіч, раман "Заходнікі" якога быў адзначаны Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь, і Георгій Марчук у раманах "Крык на хутары" і "Прызнанне ў забойстве". Але У. Дамашэвіч знайшоў свой паварот у тэме, засярodзіўшы ўвагу на тым, як у заходніх беларусаў абуджалася, фарміравалася, сталела пачуццё нацыянальнай самасвядомасці. І ў гэтым сэнсе назва твора набывае сімвалічнае гучанне: не праклі, братка-беларус, сваю долю, не пазбаўся каранёў, не забывай пра ўласныя вытокі.

Як заўважыў чытач, знаёмы з творчасцю У. Дамашэвіча, гаворка ідзе пра тое, што напісана ім нядаўна ці было надрукавана са спазненнем. Але ж мастакоўскі багаж пісьменніка гэтым не абмяжоўваецца. Мелі належны водгук такія яго кнігі, як "Заклінаю ад кулі" (яна выйшла ў 1960 годзе і стала ў аўтара першай), "Між двух агнёў", "Абуджэнне", "У лабірынце вуліц", аповесць-хроніка "Порахам пахла зямля". Паспрабаваў свае сілы Уладзімір Максімавіч і ў дакументальным жанры, напісаўшы разам з У. Сазановічам аповесць "Першым заўсёды цяжка", у якой праўдзіва расказаў пра дзейнасць камсамольцаў-падпольшчыкаў на акупіраванай гітлераўцамі тэрыторыі Клецкага раёна.

Ёсць у У. Дамашэвіча яшчэ адна добрая якасць, якая, на маю думку, прысутнічае толькі ў сапраўдных талентаў — падтрымліваць маладых аўтараў. Многія, сёння вядомыя празаікі, згадваюць яго самымі лепшымі словамі за тое, што свае першыя творы яны змаглі апублікаваць дзякуючы менавіта яму, калі Уладзімір Максімавіч загадваў на працягу пятнаццаці гадоў аддзелам прозы ў рэдакцыі часопіса "Маладосць", толькі на нейкі год пайшоўшы ў выдавецтва "Мастацкая літаратура", і хутка вярнуўшыся ў свой калектыў, дзе яго добра ведалі і дзе ён усіх гэтаксама ведаў. Ніколі не забуду і я: калі б не У. Дамашэвіч, дык яшчэ б доўга мне не прабіцца на старонкі часопіса "Полымя". А так у 1970 годзе, знаходзячыся далёка ад Беларусі, праходзячы службу афіцэрам у Забайкальскай ваеннай акрузе, асмеліўся пасылаць у гэтае аўтарытэтнае выданне рэцэнзію. У. Дамашэвіч тады быў літаратурным супрацоўнікам аддзела крытыкі і літаратуразнаўства. Як жа ўзрадаваўся я, што мой водгук на кнігу І. Пінчука прынялі да друку.

Нялёгкая дарога ў У. Дамашэвіча. Хоць — у каго яна бывае лёгкай? Асабліва тады, калі жыць імкнешся не так, як набяжыць, а як трэба. Калі пішаш не тое, што патрабуюць ад цябе іншыя, а да чаго душа ляжыць.

А менавіта так жыве і гэтак піша Уладзімір Максімавіч. І інакш жыць і інакш пісаць ён не можа.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

УГОДКІ

# Георгіеўскі кавалер

18 лютага споўніцца 105 гадоў з дня нараджэння Максіма Гарэцкага, майго бацькі.

Брат мой Леанід Максімавіч Гарэцкі, які загінуў на Ленінградскім фронце 18 лютага 1944 года, пісаў у франтавым лісце: "Раніцой сонечная асенняя Масква засталася ззаду, гулі самалёты ў сінім небе, і цягнік імчаў нас ужо цераз Барадзіно на захад, на Вязьму. Ці думаў тата, што тут будуць такія бітвы, але сведкам іх яму не прыйшлося быць".

Пра магчымую вайну думаць у той час бацька мог (быў кастрычнік 1935 года), а вось пра тое, што праз два з невялікім гады 10 лютага 1938 года ў тры гадзіны дня тату нашага расстраляюць у турме горада Вязьмы, ні ён. ні любы яго сынок-падлетак і памысліць не маглі ў тым вагоне хуткага цягніка. 60 гадоў прайшло ўжо з таго жахлівага дня...

Нядаўна з Расійскага дзяржаўнага ваенна-гістарычнага архіва, па маёй просьбе, прыслалі мне наступныя звесткі (падаю іх на мове дакумента):

"Уважаемая Галина Максимовна!

Сообщаем Вам имеющиеся в документах архива сведения о М.И. Горецком.

В деле о приеме в Павловское военное училище "кадет, нижних чинов и молодых людей со стороны" (прием 1 февраля 1916г., выпуск 1 июня того же года) содержится послужной список вольноопределяющегося 2-й батареи 27 артиллерийской бригады Горецкого Максима Ивановича.

Из послужного списка М.И. Горецкого видно, что он сын крестьянина Могилевской губ., Мстиславского уезда, Шамовской волости, дер. Мал(ая) Богатьковка, родился 6 февраля 1893 г., православного вероисповедования, холост. Окончил Горецкое землемерно-агрономическое училище (аттестат от 29 июля 1913 г. N 3351). В июле 1914 г. зачислен на службу на правах вольноопределяющегося 1-го разряда во 2-ю батарею 27-й артиллерийской бригады. В сентябре того же года произведен в бомбардиры-телефонисты, а в декабре уволен по болезни на родину сроком на 6 месяцев. В сентябре 1915 г. признан годным к службе и в ноябре прибыл в батарею.

"В походе против немцев" был с 24 июля по 25 октября 1914 г. 25 октября 1914 г. ранен в сражении под Гериттеном. За бой 27 августа 1914 г. под г. Алленбургом награжден Георгиевским крестом 4-й степени (Ф. 319, оп. 1. Д. 784. Л. 133—134).

Других сведений о М.И. Горецком в материалах архива не обнаружено.

Зам. директора архива М.Р. Рыженков
Исп. Дмитроченко Е.Н."

Страшны бой пад Аленбургам 27 жніўня 1914 года апісаны Максімам Гарэцкім у яго кнізе "На імперыялістычнай вайне" (Запіскі салдата 2-й батарэі N-скай артылерыйскай брыгады Лявона Задумы). Там жа і сцэна ўзнагароджання Георгіеўскім крыжам героя гэтага твора. У кніжцы "Кавалеры ордена Святого Георгия Победоносца. Хронограф 1994" (складальнікі С. Грыгор'еў і В. Захараў) сказана: "Георгиевские кавалеры пользовались в русской армии особым уважением. Получить орден Св. Георгия



было исключительно трудно и почетно".

Раненне Максіма Гарэцкага пад Герытэнам 25.X.1914 г. таксама знайшло адлюстраванне ў запісках "На імперыялістычнай вайне". Дзядзька мой Парфір Іванавіч Гарэцкі пісаў брату свайму Гаўрылу Іванавічу ў ліпені 1978 года: "Пра Максіма ўспамінаю, як ён прыехаў паранены з вайны, як яму балела, як яму ўсе спачувалі, усе шкадавалі". А я помню, як у спякотнае лета 1932 года на вяцкім пляжы, куды хадзілі ўсёй сям'ёю, паказаў тата сваю зажыўшую рану на правым сцягне, збоку, вышэй калена. Убачыла я прадаўгаватыя, зверху ўніз, глыбокі, з нярoўнымі краямі след ад ранення буйным аскачкам.

Кранае лістаднапалчан Лявону Задуму: "У тым баі, калі ты быў ранены, кінулі мы дзве разбітыя гарматы, а шэсць, даў Бог, вывезлі і начою адступілі назад у горы. А цяпер ізноў стаім на яго зямлі, і спадзяёмся тут паразімавацъ".

Усё жыццё ўспаміны, думы пра вайну не пакідалі бацьку, турбавалі набытыя на вайне хваробы, нядугі. З Вяткі пісаў жонцы і дзецям: "Я цяпер часта сню вельмі цікавыя сны. Гэтак са мною бывала і раней, напр., у 1916—1917 гг. Фантастыка, самая буйная і часам — вельмі страшная".

У сваім крымскім дзённіку пад назвай "Кіпарысы" (1928) даў бацька мастацкае апісанне "Севастопальскай панарамы", якую стварыў у 1901—1905 гг. Ф.А. Рубо. У Вятцы назіраў "на пляцы — вайсковыя практыкаванні. Ну самая праўдзівая вайна: грукат, стрэляніна, агонь, дым, газы, выбухі. Лявон ніколі нічога падобнага на практычных занятках не спадзяваўся ўбачыць".

Ваенныя падзеі, жыццё ваенных часоў знайшлі адбітак у апавяданнях Максіма Гарэцкага "Літоўскі хутарок", "Рускі", "На этапе", часткова ў "Ціхай плыні", "Віленскіх камунарах", "Камароўскай хроніцы" і ў яго "Лебядзінай песні" — "Скарбах жыцця", дзе столькі болю, пакуты ва ўспамінах пра вайну, якія канчаюцца шчымлівымі словамі: "Там далёка, у хатках, чакаюць. Чакаюць, чакаюць... Вечна!.."

І Леанід Гарэцкі, Лёня наш, якому бацька расказваў пра вайну 1812 года, пакінуў нам запісы пра вайну Вялікую Айчынную 1941—45 гадоў.

18 лютага памяну я дарагіх мне, святой памяці бацьку і брата — мужных воінаў.

**Галіна ГАРЭЦКАЯ**

*Санкт-Пецярбург*

ЛіМ ЧАСАПІС

# Добрая традыцыя — працяг будзе

У Гуманітарны ліцэй пры Беларускім гуманітарным адукацыйна-культурным цэнтры ахвотна прыходзяць у госці беларускія пісьменнікі — добра разумеюць, што азначае для навучэнцаў гэтай адзінай у краіне і наогул у свеце цалкам беларускамоўнай установы любая сустрэча з тымі, чые імёны і творы яны ведаюць. Ужо адбыліся запамінальныя сураамоўі з Васілём Быкавым, Рыгорам Барадуліным, Нілам Гілевічам, Л. Дранько-Майсюком. У апошні дзень студзеня да нас завітаў пісьменнік і гісторык Уладзімір Арлоў, якога ліцэісты добра ведаюць, бо менавіта ён у якасці сябра бацькоўскай рады прымаў чынны ўдзел у вядомых летніх падзеях, калі вучні, бацькі і выкладчыкі разам адстойвалі свае канстытуцыйныя правы на адукацыю на беларускай мове.

На сураамоўі, апрача ліцэістаў і іх выкладчыкаў, прысутнічалі госці, навучэнцы гімназіі з Койданава, якія зацікавіліся жыццём сваіх мінскіх аднагодкаў і не маглі не выкарыстаць такую добрую нагоду пабачыць і паслухаць У. Арлова.

Распачаў гутарку сп. Арлоў з верша пад назвай "Спроба завершанага жыццяпісу", у якім, па сутнасці, расказваецца біяграфія самога пісьменніка. Слухачы адразу ацанілі іронію аўтара ў дачыненні да самога сябе і ў далейшым чакалі любой падставы, каб падтрымаць яго сваёй весялосцю і апладысментамі. На ўсе вусныя і пісьмовыя пытанні сп. Арлоў адказваў гранічна шчыра.

На пытанне, што ёсць для яго шчасце, сп. Арлоў адказаў коратка: "Шчасце — гэта перш за ўсё Радзіма". Асноўнаю задачаю пісьменнік лічыць спасціжэнне ўсіх гістарычных таямніц Полаччыны, дзе ён нарадзіўся і гадаваўся.

Завяршыў свой аповед сп. Арлоў на аптымістычнай ноце, прачытаўшы эсэ "Незалежнасць", што было перакладзена на многія мовы і дасюль не страціла сваёй актуальнасці.

Збіральнікі аўтографаў-інскрыптаў таксама змаглі папоўніць сваю калекцыю — Уладзімір Арлоў ахвотна раздаваў дарчыя надпісы.

Наш Гуманітарны ліцэй і надалей збіраецца працягваць цікавыя знаёмствы з вядомымі людзьмі краіны і замежжа.

Таццяна ЛУХВЕРЧЫК,
навучэнка 4-га курса ліцэя

# "Роднае слова", N 1

"Неюбілейныя развагі пра курс "Роднага слова" — так назваў свой зварот да чытача "Далучэнне, ці Дарога ў бясконцасць" галоўны рэдактар "РС" М. Шавыркін. А. Бельскі разважае пра творчасць С. Гаўрусёва "Зіхоткі вір радка". Адухоўленасць прыроды ў паэзіі М. Багдановіча — у полі зроку І. Навуменкі ("Суладдзе са светам прыроды"). Пра С. Шушкевіча — пісьменніка і чалавека — пішуць у артыкуле "Крану вяслом срабрыстым праменні..." М. Мішчанчук і М. Шаўлоўская. Т. Трыпуціна ("Слова ў арыгінале і перакладзе") дзеліцца назіраннямі над перакладамі твораў Я. Брыля на рускую мову. Рубрыка "Род блізкі і далёкі" працягваецца матэрыяламі К. Панюціч "Не чужынка — свая радзінка..." (агульныя назвы роднасці і сваяцтва ў беларускіх гаворках), П. Міхайлава "Гаспадар і жонка — найлепшая сполка" (назвы мужыка ў беларускіх гаворках), М. Абрагімовіч "Муж, мужык, жонка" (з гісторыі назваў), Л. Ракавай "Мужык і яго роля ў сям'і". Змешчаны артыкулы В. Ляшук "Хай беражэ цябе любоў мая..." (урокі па вывучэнні твораў Н. Мацяш у IX класе), А. Герцыка "Раман Генрыха Бёля "Дом без гаспадара", Т. Яцкевіч "Па беленькай кладачцы чырвоны певунок скача" (прылады хатняга асвятлення на Беларусі), Я. Кісялёвай "Невядомы рукапіс Уладзіміра Самойлы (друкуецца і сам артыкул "Рэальная рэлігія працы беларускага народа"). Часопіс адкрывае новую рубрыку "Вяртанне да вытокаў", першы ў ёй — артыкул В. Якімовіч "Гуканне вясны". Л. Баршчэўскі прапануе праграму "Літаратура ў гуманітарным ліцэі". Змешчаны вершы С. Гаўрусёва, С. Шушкевіча, Д. Бічэль-Загнетавай, заканчэнне артыкула Т. Шамякінай "Культура Кітая", іншыя матэрыялы.

ПАЭЗІЯ

Таіса БОНДАР



## Птушка-душа спявае, плача...

•

*Шукаю вогненныя словы,*
*Каб узгарэлася святло*
*Любоўю Боскаю, Хрыстовай*
*І там, дзе толькі змрок і тло.*

*І там жа чыйсьці дух бунтоўны*
*Пакутна мкнецца ўразумець*
*Прычыну мукі, што раптоўна*
*Адпрэчыла самую смерць.*

*Павінна ж быць, павінна ўскрэснуць*
*Спадзеўка недзе й для яго...*
*Адзіны шлях для ўсіх — нябесны,*
*Адзіны знак Жыцця — агонь.*

*І ён не гасне, не знікае*
*У змроку, што няволіць дух, —*
*Рух доўжыцца і небакраем*
*Не замыкае вечны круг.*

*Круг разыходзіцца кругамі —*
*Сусветамі! — насустрач дню,*
*І ўсе, хто жыў, хто сёння з намі,*
*І сёння ў пошуку агню.*

*Няма задужа адмысловых*
*Шляхоў — ніколі не было...*
*Па знаку вогненнага слова*
*Скрозь узгараецца святло.*

•

*На зломе двух эпох*
*І гінуць, і ўзнікаюць*
*Зямля, Нябёсы, Бог...*
*І сутаргава памяць*

*Імкнецца аднавіць*
*Хоць штосьці з дзён стварэння,*
*Каб вырваць, вымкнуць ніць*
*Працягу — і збавення.*

*Збавення ад пакут*
*Няўпэўненасці й жалю:*
*Жыццё і ёсць той суд,*
*Якім нас лёс пужае.*

*І варта зразумець:*
*Жывеш па ўласнай волі —*
*І пойдзе побач смерць*
*Пакорна, як ніколі.*

*Пакуль шчэ сіла ёсць,*
*Пакуль не змоўкла песня...*
*Праводзіць маладосць,*
*Сустрэне наднябессе.*

*А на якой з дарог*
*Замкнецца круг чарговы,*
*Напэўна знае Бог,*
*Надзейна тоіць Слова.*

•

*Імклівы рух зіхоткага Бязмучча*
*Больш не пужае позірка душы,*
*Хоць пазіраць і страшна і балюча:*
*Хто мы прад ім,*
*каб лёс Зямлі вяршыць?*

*А вершым жа!*
*Самаўлюбёна. Гвалтам.*
*Не так, дык так разводзячы агонь*
*Між будучым, якога больш не варты,*
*І вечнасцю, што паглыне яго.*

*Хто грэе рукі, хто жыўцом згарае,*
*Жадаючы спаліць усё і ўсіх,*
*Калі ўжо сам, сляпы,*
*дайшоў да краю,*
*Хто проста ловіць міг, імклівы міг.*

*Не веру ў цуды, марачы аб цудзе,*
*Не веру ў слёзы, дбаючы пра лёс,*
*Крычу ў прасцяг:*
*"Мы ж Божы люд! Мы людзі!",*
*А на губах — салёны прысмак слёз.*

•

*Адзіноцтва няма. Анідзе.*
*Варта ўгледзецца ў перапляценні*
*Токаў, ніцяў, шляхоў, летуценняў —*
*І ад ночы не розніцца дзень.*

*І ў імгненні — бязмежнасць эпох,*
*І ў душы, ў яе сонечным свеце —*
*Шчасцю моліцца ўсё чалавецтва,*
*І ў малітве, ў святле яе — Бог.*

*Дык аб чым жалкаваць па начах,*
*У адбыкму паўночнага неба?*
*Адзіноцтва няма. Ёсць патрэба*
*Азірнуцца на пройдзены шлях.*

*Адганяючы дум чараду,*
*Азірнуцца і сумна ўсміхнуцца*
*Пеpажытай, няжжытай пакуце,*
*І спакойна прадоўжыць хаду.*

•

*Ціск абставін... Пакуты ў журбе...*
*Паўсядзённых тлум і задуха...*
*Усміхнуся люстэрку й сабе:*
*Апраўданні — для слабага духам!*

*Не абставіны, думкі гнятуць,*
*Не журба, а няўпэўненасць мучыць,*
*І калі разагнаць каламуць*
*Паняверкі — у яркім сугуччы*

*Дзён, асветленых працай душы,*
*Свет паўстане дзівосна прыгожым*
*Ад пясчынак да горных вяршынь,*
*Да сузор'яў... Па міласці Божай!*

*І не ўдзячнасць, а вернасць мая*
*Шляху, руху наперад патрэбна,*
*Каб вярнуць, каб аддаць удвая*
*Больш таго, што дарована Небам.*

•

*Колькі запонаў — якія запоны! —*
*Толькі б не ўведала сіла мая*
*Сілу прастору, што крылы напоўніць*
*Ветрам няведамых даляў і з'яў.*

*Што ж, між людзьмі*
*не бывае інакай,*
*Марна карміць спадзяваннямі сны...*
*Птушка-душа то спявае, то плача,*
*Хто яе чуе сярод мітусні?*

*Песня не радуе, плач не кранае,*
*Шлях паўтарае знаёмы паўкруг —*
*Рух выгінае сцяну небакраю*
*Вышай і вышай за ўзмахамі рук.*

*Рук, а не крылаў...*
*І ўсё-ткі нядоўга*
*Супрацьстаяць прышчэпленню святла:*
*Птушка-душа, пагуканая Богам,*
*Знае дарогу, што ў неба вяла.*

•

*Штодня паміраю для новага дня,*
*Штоміг нараджаюся*
*ў позірку Бога —*
*І ціха плыве скрозь мяне вышыня,*
*І радасна — думкамі —*
*тчэцца дарога.*

*Дарога ў Жыццё, што не знае мяжы*
*У гэтым, нязменным*
*для існага, руху.*
*Крыж сонца, і стужкі эпох*
*на крыжы,*
*І цені іх — вехі для вечнага Духа.*

*Ён ведае тое, чаго мне павек*
*Не ўведаць,*
*пакуль праз адзежыны плоці*
*Не вымкне насустрач Яму —*
*Чалавек,*
*Нябеснае Я, што сталела ў самоце.*

*Мо з гэтай прычыны*
*і нудзіцца плоць...*
*Няма на пытанне адказу прамога.*
*Штоміг паміраю,*
*каб смерць пабароць*
*І зноў нарадзіцца — у позірку Бога.*

•

*У позірку ўсплёснула сінь —*
*Далёка, за тысячы міляў*
*Азваўся стары клавесін,*
*Прастора залопала крыллем.*

*І ў першы разлом вышыні*
*Памкнуліся, хлынулі з ценю*
*Вякі, спрасаваныя ў дні,*
*Бязмежжы, затканыя ў сненні.*

*Імгненна, за думкаю ўслед,*
*Знікалі, з'яўляліся зноўку —*
*Люстэркава-прывідны свет*
*Нагадваў чужую абноўку.*

*І ўсё-ткі належаў і мне,*
*Як я яму, — тут і даверку.*
*Здавалася, ўсё праміне,*
*Адно каб вярнуцца аднекуль.*

*Вярнуцца стралой, чый палёт*
*Бязмежжы нанізваў адважна...*
*І чый гэта, ўрэшце, ўмалот —*
*Жыццця або Смерці — няважна.*

•

*Пагляду адкрыліся выступы гор,*
*Не ценем, а рухам да неба прыкутых,*
*І неба — бяззорнае, поўнае зор,*
*Нябачных і ўсё-ткі шчымліва*
*прысутных.*

*Не птах адбіваецца ў небе, а час,*
*Якому ні шляху не ўведаць, ні мэты...*
*Гукаю да Бога — і чую ў адказ,*
*Як радасць спявае*
*над сцёмненым светам.*

*Яна не баіцца зямных гэтых слёз,*
*Яна іх асушыць,*
*ледзь толькі агучыць*
*Не высі, а той шчэ няведамы лёс,*
*Што гэтыя высі*
*з Зямлёю спалучыць.*

*Навекі спалучыць... Стары запавет*
*Не спраўдзіўся толькі таму,*
*што забыты...*
*Гукаю да Бога — і чую, як свет*
*Са мною, за мной паўтарае малітву.*



Мал. Ул. ЛУКШЫ

1.

За паўгода да таго, як споўнілася трыццаць тры гады, ён згубіў свой нацельны крыжык. Звычайная дробязь, але абставіны, пры якіх не стала крыжыка, стрэмкай заселі ў яго душы. Крыжык быў Віктаравым равеснікам і доўгі час ляжаў, загорнуты ў анучку, на дне абабітай каванымі арнаментамі скрыні разам з яго метрыкамі, са шлюбным пасведчаннем бацькоў і з матчыным медалём "За трудовую доблесть". І вось аднойчы (яму было тады гадоў 27) ён звярнуўся да маці.

— Ці ёсць той крыжык, з якім мяне хрысцілі?

— Не ведаю... Трэба паглядзець. Павінен быць дзесьці... — Прыпамінала яна. — А навошта ён табе?

— Хачу насіць! — адказаў Віктар.

3.

Віктар ганарыўся тым, што ён "праваслаўны", і лічыў Новы Запавет самай вялікай кнігай у гісторыі чалавецтва; часта, як сведчанне сваёй "царкоўнасці", паказваў крыжык, якому было столькі ж гадоў, колькі і яму. І вось, зусім недарэчна, крыжыка не стала. Гэта было ўжо пасля таго, як ён скончыў філасофскі факультэт Маскоўскага універсітэта і, пакінуўшы дома жонку і трохгадовага сына, разам з многімі нядаўнімі выпускнікамі вырваўся на волю, дакладней, на тыднёвы сімпозіум па пытаннях сучасных філасофій і новых рэлігійных плыняў.

Жанчына, што яму на сімпозіуме глянулася: сярэдняга росту, з моцнымі акруглымі формамі, светлымі валасамі і, усё дарэмна: памяць маўчыць! Побач з ім "незнаёмая" жанчына: падклаўшы руку пад галаву, яна пакуль яшчэ соладка спіць. Зараз яна прачнецца і пачне лаяцца, быццам ён нечым абавязаны ёй — усё гэта Віктар прыпомніў, гэта хутка павінна здарыцца... Але ж, калі... значыць яшчэ не было? Хіба ж можна прыпомніць тое, што толькі адбудзецца?

Жанчына расплюшчыла вочы.

— Во, дрыхне... Колькі будзеш мучыць мяне? — яна маўчыць некаторы час, потым у яе вачах з'яўляецца вільгаць, і неяк з прыхлілам быццам выціснула з сябе, — за-вяз-заў белы свет!

— Прабачце, — гаворыць Віктар, — хто вы? Як завуць вас і што гэта за пенаты?

— Прыехалі! Дафіласофстваваўся! — Яна хутка змахвае даланёй выступіўшую некаторым асобам, каб выплюхнуць на кагосьці злосць.

Сапраўды, у наступны момант жанчына няёмка пацягнула ручку на сябе і адначасова хіснулася ў праём, не паспеўшы як след адчыніць дзверы — удар прыйшоўся пад левае брыво: "Вох! — усклікнула яна, — чорт пракляты, накаркаў!"

— Я не ведаю, хто вы, але праз пяць хвілін на кухні вы разаб'яце цэлы стос талерак... Калі можна, дык асцярожней крыху.

— Звіхнуўся! Тут плакаць трэба, а ён выпендроны строіць... Нічога, хутка ты ў мяне па-іншаму заспяваеш! Я табе абяцаю! — пракрычала яна і пайшла на кухню.

Віктар павольна апрануўся: нацягваў на сябе пакамечаныя штаны, адзяваў праз галаву пацерты вязаны швэдар — а з кухні далятала лаянка. Ён ужо ведаў, што будзе праз хвіліну, якія словы пракрычыць жанчына. Глядзеў на сябе ў люстэрка і не пазнаваў: аброслы чорнаю барадою, схуднелы так, што скулы і нос ненатуральна вытыркаюцца, здаюцца прыклеенымі. Яму не падабаецца ягоны твар: увагі вартыя толькі вочы, пакрытыя каламутнай плёначкай, але гараць, нібы жарыны, і адсвечваюць фасфарычным бляскам. "Такімі ж зарослымі былі, напэўна, біблейскія прарокі, — думае ён, — Іоў, Ірэмія, Ісая... вось я таксама: Сівіл..."

— Сівіл? — ужо ўслых паўтарае ён, і голас неяк прасіпеў ці прасыкаў, нібы ў гадзюкі, якой прышчамілі галаву. — Сівіл!

Ён успомніў нарэшце сваё імя, яго завуць Сівіл. Штосьці зрабілася з памяццю: памятаў толькі будучыню, быццам мінулае і будучае памяняліся месцамі. Забыўся, што было ўчора, але добра ведаў, што будзе праз месяц, год... Пра мінулае ён пакуль што мог толькі здагадвацца, як у звычайным стане чалавек робіць прыкідкі аб будучым.

Анатоль КУДЛАСЕВІЧ

# АД КРЫЖЫКА ДА КРЫЖА



Маці не стала распытваць, чаму гэта раптам сыну захацелася насіць крыжык. "Ці мала якая мода прыходзіць, вунь і артысты на сябе паначаплялі, не тое, што раней, хаваліся, каб пахрысціць дзіця", — а ўслых сказала толькі:

— Глядзі ж, не згубі яго, дрэнная прыкмета. — І палезла ў скрыню.

Доўга перакладала прапахлыя нафталінам сувоі палатна, задаволена перабірала "амерыканскія" хусткі, разгортваючы, пераглядала сурвэткі, ручнікі ды адрэзы матэрыі і, нарэшце, выцягнула спадыспаду невялікі пудэлак, спягнула гумку, якой ён быў перахоплены, і зняла накрыўку.

— Тут іх два, адзін Святланін, другі твой, — муляла яна ў зашкарублых пальцах белы і жаўтаваты крыжыкі, нібы правяраючы іх на сапраўднасць. — Не ведаю нават каторы чый?

Віктар выбраў медны і адразу паверыў, што менавіта гэты павінен быць ягоным. Пачапіў крыжык на сярэбраны ланцужок, загадзя куплены ў горадзе, і павесіў на шыю. Колькі помніць, з таго часу ён ніколі не здымаў яго, хіба што аднойчы парваўся ланцужок: перапаяў нанова звяно і зноў адзеў.

2.

Не скажаш, што Віктар быў набожным чалавекам, у царкву хадзіў зрэдку, маліўся калі ўспомніцца, але рэлігія цікавіла яго заўсёды. Амаль кожны дзень думалася Віктару адно і тое ж: што такое чалавек? Для чаго даецца жыццё? Ці можна ведаць будучыню? Апошняе турбавала больш за ўсё, і дакладней было б сказаць так: "Ці можна ЗМЯНІЦЬ будучыню? Ці мае чалавек уладу над часам?.." З гэтай прычыны Віктар перачытаў усе прароцтвы, праштудзіраваў цэнтурыі Настрадамуса, дакапаўся нават да звестак дэльфійскіх аракулаў, пачаў захапляцца гараскопамі, варажбой і шмат чым іншым, спрабуючы зазірнуць у заўтрашні дзень. Аднойчы выпадкова натркнуўся на цікавы гістарычны факт, уразіўся страшэнна, хоць гэта і магло быць простым супадзеннем: аказалася, што Аляксандр Македонскі гэтак жа, як і Ісус Хрыстос, памёр у трыццаць тры гады — раптоўна захварэў ліхаманкай і сканаў, а праз год пасля яго смерці памёр Арыстоцель, які з маленства выхоўваў палкаводца. Абодва: і Сын Божы, і Аляксандр Вялікі распачалі, так бы мовіць, сусветную вайну — адзін заваяваў зямлю мячом, другі паланіў духоўна, і абодва памерлі ў трыццаць тры гады. Пазней Віктару трапіў у рукі аркуш з параўнальнымі біяграфіямі Напалеона і Гітлера, Вашынгтона і Кенэдзі: параўнаўчы акцэнт ставіўся на ўзрост палітыкаў, калі яны прыйшлі да ўлады або здзейснілі штосьці значнае — супадзенняў было шмат. Пагадзіўся ён і з Хлебнікавым, што існуе закон паклення, законы імперый і войнаў і што людзей з аднолькавымі задачамі ў розныя гістарычныя часы спасцігае падобная ж доля. Усё паўтараецца праз аднолькавыя прамежкі часу ў гісторыі, а ўзрост 33 гады, у любым выпадку, ракавы.

як ні дзіўна для бландзінкі, з чорнымі, як вугалле, вачамі — падышла да яго першай. Адкрытыя, бессаромныя вы-блёскі вачэй, прыхаваная ў закутках таўставатых дрыготкіх вуснаў усмешка абяцалі многае... І Віктар загарэўся пажадай да жаночага цела: кроў ускіпела і пачуцці прарываліся наверх. Саўладаць з сабой было цяжка. "Крыжык, нібы сведка.., — падумалася яму тады. — Ат, нічога, калі атрымаецца, то здыму ўпотайкі і пакладу ў кішэню..." Каханне так і не атрымалася. І крыжык Віктар не здымаў, ён добра гэта помніў: прыйшла толькі думка — але праз дзень, выходзячы з душа, правёў рукою па шыі і здзівіўся: як непрывычна гладка рука каўзанулася па скуры! Похапкам памацаў пальцамі і ўстрывожыўся: "Так і ёсць!" — крыжык знік. Ірвануўся ў душ, у прыбіральню, аблазіў і перашукаў па ўсіх месцах, дзе толькі мог згубіць яго — дарэмна, крыжык не знайшоўся. Нібыта ўкрадлівы шэпт адказаў на яго разважанні: "Калі табе так замінае крыжык — мы яго забралі, будзь зусім без крыжа..." Можа, словы былі іншымі, але сэнс іх Віктар пачуў дакладна: мы не будзем цябе няволіць, жыві, як хочаш, ты вызвалены ад якіх бы то ні было абавязкаў. Неабмежаваная воля прынесла страх і трывогу.

Крыжык згубіўся не так сабе. Гэта нейкі знак. Нешта павінна здарыцца. Гэтае Нешта зламысна чакала і цікавала за ім наперадзе. "Калі і як адбудзецца?" Віктар адчуваў набліжэнне чагосьці непазбежнага. Таму і ўхапіўся ён прагна за рэлігійна-тэасофскія і філасофскія чытанні, баючыся сустрэчы з невядомым. Чытаў усё запар, што хоць якімсьці чынам сцвярджае манаполію на валоданне ісцінай. Намагаўся выйсці ў астрал: практыкаванні не давалі выніку, і ён кінуў займацца медытацыяй. Калісьці, яшчэ ў дзяцінстве, у яго быў выхад у іншасвет, здарылася гэта выпадкова, але Віктар добра запомніў, што па той бок цела будучыня адкрыта, як на далоні — там не існуе праблем сэнсу: усё становіцца зразумелым.

Кожны чалавек хоча сяды-тады хоць адным вокам зазірнуць: а што ж будзе заўтра? Вандруючы па спякотнай пустэльні, падарожнік, напэўна, менш пакутуе ад смагі, чым Віктар хацеў ведаць будучыню. І вось нейкі шлях, да якога ён доўга прабіваўся, блукаючы ў патаемных джунглях свядомасці, раптоўна адкрыўся перад ім. Чамусьці атрымалася зусім не так, як мроілася, ён ажыццявіў, падалося Віктару, запаветнае, ды страціў разам з тым штосьці не менш каштоўнае.

4.

"Дзе я?" — першае, што прыйшло ў галаву Віктару, калі ён адкрыў вочы. Агледзеў пакой — усё незнаёмае... Ён з цікавасцю разглядваў шпалеры на сценах, рэпрадукцыі карцін, мэблю, уважліва ўзіраўся ў металічную з трыма шкля-нымі плафонамі люстру. "Як жа мяне завуць? Хто я? Чаго апынуўся тут?" — было слязу. — Чаго прыдуркаешся? Ці зусім здзяцінеў ужо? Сапраўды, звар'яцееш са сваёй філасофіяй... Ва ўсіх мужы, як мужы, ці табе ў хаце, ці на рабоце, а гэты... Кабель пракляты... Прабач-це, як вас за-ву-ць, — перацвяліла яна. — Ух, брыдота, вочы б мае цябе не бачылі!

Жанчына нацягвае на сытае цела халат, з цяжкасцю зашпільвае гузікі — яны выкручваюцца і становяцца старчаком, — Віктару здаецца, што зараз яны з трэскам паразлятаюцца ў розныя бакі. Яна нешта гаворыць і гаворыць — зразумець цяжка. Словы бесперастанку вылятаюць з чырвонага слінявага рота, быццам начную камары з кустоўя: яму цяжка асэнсаваць іх. "Чаго яна хоча?" Словы ўпіваюцца ў нешта для яго святое і, здаецца, джаляць, кусаюць і смокчуць кроў. Ён не можа даўмецца, з чым звязаны шквал абвінавачванняў, не разумее яго прычыны. "І хто яна такая, па якім праве?" — думае ён. З яе папрокаў аказваецца, што ўчора ён павінен быў здаць бутэлькі, забраць нейкага Сцёпку з дзіцячага садзіка, атрымаць аванс і купіць бульбы, масла і хлеба — вынікае, што нічога гэтага ён не зрабіў. "Чаму ў мяне столькі абавязкаў? Цікава, што яна сама рабіла?" — падумаў Віктар, але прамаўчаў.

— Дакуль я буду трываць такі здзек? Досыць! Накарміў! — гаворыць яна, хутчэй нават крычыць. — Сёння ж панясу заяву на развод! Я пагляджу, як ты сам пражывеш... Мый за ім, прыбірай, есці вары... Што я, рабыня якая? Канешне, не ўсім гатовенькім можна і філасофстваваць, і аўтатрэнінгі, бач ты яго, вычварыць... Сёння ж панясу! Калі для цябе сям'я на апошнім месцы — жыві сам. Я аднаго не разумею: чаго ты жаніўся?

— Аракулы не жэняцца, а жрыцы не выходзяць замуж...

— Ды што з табой гаварыць, — абрывае яна, — навошта ты, дурніца, выпінаюся? Усе вы казлы!... Мне патрэбен муж, чуеш ты, мужчына, а не летуценнік-філосаф! Якая карысць ад тваіх заняткаў, каму яны патрэбны!.. Ну, чаго маўчыш?!

Ён адмахваецца ад яе, нібы ад дакучлівага сабакі, што злоўчаецца цапнуць за руку. "Як добра, што нічога не помню, не звязаны ніякімі абавязкамі з гэтым страшыдлам", — уздыхнуў Віктар, спаўзаючы з ложка. Рукі машынальна каўзануліся пад ложак і пачалі шнарыць па падлозе, пакуль не натыкнуліся на пантофлі, і толькі зараз Віктар зразумеў, што шукаў менавіта іх.

— Глядзі, — звярнуўся ён да жанчыны чамусьці на "ты", падумаўшы: "Напэўна, з мінулага?", а ўголас дадаў, — асцярожней крыху, заraz гузак наб'еш!

Ён ведаў, што папярэджваць жанчыну — марна траціць час, жанчына ўсё жыццё зачэпліваецца і падае пра адзін і той жа парог, ёй, мусібыць, прыемна падаць? Можа, нават знарок зачэпліваецца? Бо любіць пачуццё болю, таму што толькі праз боль адчувае, што жыве па-сапраўднаму — ёсць вінаватыя (той, хто папярэджваў), а гэта так неабходна

Страшэнны грукат даляцеў з кухні, а наўздагон яму пачулася галашэнне жанчыны — і вось яна зноў на парозе:

— Што ты вычвараеш, ідал! — махае рукамі перад самым носам. — Ты іх купляў?! — пагрозліва патрасае яна ў паветры кулакамі.

— У чым я вінаваты? — ён зашмаргнуў шнуркі чаравікаў, устаў і працягнуў руку да вешака. — Што вы маеце да мяне? Вы ж самі разбілі талеркі? А я папярэджваў... Я ўсё жыццё папярэджваў! Вунь і цяпер, у вас на кухні сметніца гарыць! Пажар тушыце! Запалку ў вядро кінулі... Тушыце пажар, позна будзе!

Яна спачатку нічога не разумее: стаіць, не ведаючы, што рабіць, а потым зыркае яму ў вочы, ускрыквае, прыкрывае рот рукою, як бы запіхваючы назад слова, што гатовае было сарвацца з языка, і бяжыць на кухню.

Сметніца гарыць на самай справе. Пластмасавыя бакі размякчэлі і плавяцца на блакітным агеньчыку. Жанчына хапае сметніцу, бяжыць з ёю ў ванны пакой. "Зноў накаркаў... Як у ваду глядзеў? Ён жа не заходзіў на кухню! Што, відушчы? Ага, — бліснула думка, — гэта ж у газеце было, як хлопчык напальваў рэчы... І ён навучыўся..." Рука сутаргава хапаецца за кранік, з-пад якога вырываецца струмень вады. Шыпенне, пара, дым... Загаловак артыкула: "Цуды псіхікі", які яна чытала некалі, так і стаіць перад яе вачыма. "І ён туды ж... Я зараз пакажу яму гэтыя штучкі!"

Ужо калі ён стаяў апранутым каля дзвярэй яна зноў наляцела на яго.

— Я Сі-віл!!! — адкідае ён жанчыну сваім крыкам.

Ад нечаканасці яна адхіснулася, нібы ёй смалянулі ў вочы полымем паяльнай лямпы: "Я прарок Сівіл!" — штосілы крычыць Віктар. У яе вачах зноў з'яўляецца жывёльны страх, а ён пакідае яе, разгубленую і знямелую, пасярод пакоя і выходзіць на вуліцу.

Калі б ён пастаяў хоць крыху на лесвічнай пляцоўцы, то пачуў бы, як жонка зайшлася крыкам.

5.

Жыццё чалавека адносна часу можна параўнаць з вандроўнікам, які ідзе дарогай задам наперад: не ведае, што чакае яго праз хвіліну, у будучым, але добра бачыць пройдзены шлях. Мінулае — яно ляжыць перад вачыма памяці, як на далоні, праўда, чым далей намагаецца чалавек ахапіць зрокам пройдзены ў часе шлях, тым менш звязаныя малюнкі бачыць. "Сівіл" уваходзіў у жыццё не так, як звычайна: ён ішоў тварам у будучыню, не бачыў таго, што засталося за спіною, у мінулым, а пры жаданні мог заглянуць на хвіліну, на год, а то і

(Працяг на стар. 14—15)

## Гонар стаць ганаровым

**Анатоля Сабалеўскага ў нашай краіне добра ведаюць як аднаго з самых аўтарытэтных даследчыкаў гісторыі беларускага тэатра і драматургіі, а таксама сучаснага тэатральнага працэсу, галоўнага рэдактара часопіса "Тэатральная творчасць". А пакольні Анатоль Вікенцьевіч у сваёй творчасці вялікую ўвагу надае тэатральным кантактам і ўзаемасувязям паміж тэатрамі, літаратурамі розных краін, вядомасць яго даўно выйшла і за межы Беларусі. Аб гэтым сведчыць рэгулярны ўдзел А. Сабалеўскага ў розных тэатральных мерапрыемствах, што ладзяцца ў краінах СНД, чытанне лекцый у тамашніх ВНУ. Нядаўна ж прыйшла прыемная вестка з Ташкента. За вялікія ўклад у развіццё тэатральнага жыцця народаў СНД, актыўны ўдзел у падрыхтоўцы вучоных-тэатразнаўцаў Рэспублікі Узбекістан доктару мастацтвазнаўства, прафесару, загадчыку кафедры тэатральнай творчасці Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры А. Сабалеўскаму рашэннем навуковага савета Ташкенцкага дзяржаўнага інстытута мастацтваў імя М. Уйгура прысвоена званне Ганаровага доктара гэтай вышэйшай навучальнай установы братняй краіны.**

## Фота... з гісторыяй



**А гісторыя гэтага фотаздымка зусім простая. Міжнародны дабрачынны фонд "Новыя імёны", офіс якога месціцца ў Маскве, звярнуў увагу на даравітую нашу зямлячку, юнага кампазітара з Ліды Дзінару Мазітаву. Разам з яе вядомым настаўнікам, старшынёй Асацыяцыі кампазітараў Гродзеншчыны Віталем Радзіёнавым, Дзінару запрасілі наведаць майстаркласс прафесара Маскоўскай кансерваторыі Таццяны Чудавай. Знаны педагог, сваіх выхаванцаў яна прывозіла на Міжнародны конкурс юных кампазітараў "Надзея", што адбываўся ў Гродне, у 1992, 93, 94, 96-м гадах. Вучні Т.Чудавай неаднаразова заваёўвалі прызы на розных творчых спаборніцтвах.**

**У Маскве Дзінара ды Віталь Канстанцінавіч сустрэліся з народным артыстам СССР Ціханам Хрэннікавым: спадарыня Чудава, асістэнт знанага кампазітара, парэкамендавала яму паслухаць таленавітую госцю з Беларусі.**

**"Хрэннікаў паслухаў маю вучаніцу, — кажа В. Радзіёнаў, — і адзначыў, што яна цудоўна складае музыку, што яна цудоўная піяністка, што яна выдатна справілася з дыктантам. У Маскве лепшыя дзеці пішуць музычны дыктант з шасці разоў праслухоўвання, Дзінара паслухала паўтара раза і напісала. Была нават такая фраза: "Мы бачым яе ў Маскве". Але, але, але... Сёння ў Маскве ўзровень выкладання кампазіцыі не надта задавальняючы, на маю думку..."**

**Дзе прадоўжыць сваю прафесійную адукацыю Дзінара Мазітава — у Мінску або за мяжой — пытанне надзвычай сур'ёзнае, але для адказу на яго, дзякуй Богу, ёсць час. І як бы далейшы лёс ні склаўся, вандроўка ў Маскву застанецца добрым успамінам. Як і гэты здымак, зроблены пасля заняткаў у легендарным "класе М. Мяскоўскага": Віталь РАДЗІЁНАЎ, Дзінара МАЗІТАВА, Ціхан ХРЭННІКАЎ.**

**С.Б.**

ВІНШУЕМ!

# Блазнота і варажба

### ДА 60-ГОДДЗЯ НАРОДНАГА АРТЫСТА БЕЛАРУСІ МІХАІЛА ПЯТРОВА

***У кожнага з нас свая казка дзяцінства. Казка тэатра. І ў кожнага свой тэатр, дзе сустрэў галоўнага казачніка жыцця. Часцей за ўсё казка супадала з адным ці з некалькімі артыстамі, што ўвасобілі яе і засталіся ў свядомасці галоўнымі казачнікамі. Да іх ставіліся з даверам, сустрэч з імі чакалі.***

Так здарылася, што мая першая казка — купалаўскі тэатр і першы дзіцячы ўскрык захаплення каля рампы: "Мамачка, яны ж жывыя" — быў адрасаваны Глебу Паўлавічу Глебаву і Барысу Уладзіміравічу Платонаву. Яны паланілі мяне.

Нашы казачнікі "жылі" ў Вялікім тэатры оперы і балета, у Рускім тэатры імя М. Горкага і, безумоўна, у Купалаўскім. У маім дзяцінстве ў Мінску не было ТЮГа, а калі мы падгадаваліся і пачалі разумець, што не ўсе казачнікі — артысты і не ўсе артысты — казачнікі, з'явіўся ТЮГ. І пачаліся новыя казкі і новыя гісторыі: камедыі і трагедыі жыцця. Разам з героямі Паўла Дубашынскага і Барыса Барысёнка мы пражывалі першыя драмы дзяцінства. Ды раптам...

...Прабачце мне невялікі экскурс у юнац-





МУЗЫКА

# Мае госці

### НЕВЕРАГОДНЫ, АЛЕ ПРАЎДЗІВЫ МАНАЛОГ ФІЛАРМОНІІ ПРА ФЕСТЫВАЛЬ, ЯКІ ПАЧАЎСЯ ЎВОСЕНЬ, А ЗАВЯРШЫЎСЯ ЗІМОЮ

***Слаўны юбілей спраўляе Беларуская дзяржаўная філармонія, адметнымі падзеямі поўніцца яе сёлетні сезон. Вось і прысвечаная 60-годдзю галоўнай канцэртнай установы краіны "Беларуская музычная восень" сталася сапраўдным святам: яркім, здзіўляючым!***

***Так-так, была нагода для радаснага здзіўлення. Сталы, "кваліфікаваны" слухач дзівіўся майстэрству і натхненню выканаўцаў. І не толькі сталы: на канцэртах фестывалю збіралася шмат моладзі — студэнцтва і школьнікаў, і не толькі музычнага.***

***"Восень" была вельмі разнастайная: што ні вечар — то новы падарунак. На сцэну выходзілі лепшыя калектывы краіны — аркестры "Маладая Беларусь", Дзяржаўны народны, Камерны, Акадэмічны сімфанічны, хоры Белтэлерадыё, Акадэміі музыкі, народны імя Г. Цітовіча... Упрыгожылі свята канцэрты гасцей — Мінск сабраў цэлую суполку замежных зорак: Маскоўскі дзяржаўны акадэмічны камерны хор, Нацыянальны камерны аркестр Літвы, слаўтыя квартэты — імя А. Барадзіна, імя М. К. Чурлёніса, салісты Ю. Башмет (альт), Д. Шварцберг (скрыпка), М. Драбінскі (віяланчэль), А. Талочка (кларнет) і А. Годэк (кларнет), кампазітары А. Янчанка, Б. Цішчанка...***

***Праграма была багатая на розныя стылі і жанры: ад вытанчанай класікі да мадэрна, ад мініяцюры да вялізнага палатна. І калі нехта меў няшчасце не любіць Моцарта, той мог пайсці ў іншую залу і пацешыць сваё вуха музыкай Пендэрэцкага.***

#### ПАЧАТАК

Дазвольце, панове музыканты, павіншаваць вас і ўсю іншую высокашаноўную публіку з маім юбілеем. Праўду кажучы, нарэшце спадобілася і я павагі. Раней жа ўедлівае спадарства музыказнаўцаў крытыкавала мяне за малацікавыя фестывалі, шараговыя канцэртныя будні і г.д. Але да юбілею я прыйшла, лічу, з добрым духоўным і творчым набыткам.

На маё 60-годдзе з'ехалася цэлая плеяда слаўных музыкантаў. І я настолькі разахвоцілася, што жадаю, каб кожны месяц ладзіўся нейкі прыгожы фестываль, — былі б толькі грошыкі. Праўда, "Восень" падтрымалі Мінкульт, "Аўстрыйскія авіялініі", "Тусон", за што ім вялікі дзякуй.

Прыемна тое, што слынныя імёны гасцей фестывалю гаварылі самі за сябе. Прыемна, што сярод мінчукоў знайшлося шмат людзей, якія любяць і цэняць высокае мастацтва і майстэрства. Амаль на ўсіх канцэртах былі поўныя залы!

Камерны аркестр Літвы пад кіраўніцтвам С. Сандэцкіса я ўпадабала, калі яшчэ маладзейшая была. Калектыў, які меў прыгожае творчае жыццё, гастраляваў па розных краінах свету і зрабіў шмат запісаў, заўсёды прывабліваў мяне натуральным "класічным" каларытам гуку, тэмбраў, дакладнасцю аркестравай працы. Аркестр выконвае розную музыку (ад даўніны да сучаснасці), у тым ліку абавязкова нацыянальную; Сандэцкіс тонка адчувае форму, нюансы, дырыжыруе артыстычна, нібы любуецца харством музыкі. На "Восені" Сандэцкіс выканаў Гайдна, Бетховена, Чурлёніса; малады віртуозны А. Талочка саліраваў у канцэрце для кларнета Вебера. Калі б не была я сталага веку, дык таксама скакала б ад захаплення, як нейкія маладыя дзяўчаткі на галёрцы.

Таксама я палічыла за гонар убачыць на сваёй сцэне праслаўлены хор пад кіраўніцтвам У. Мініна. Ён даў два канцэрты — Recital і ў суправаджэнні Сандэцкіса. Хор мае багаты тэмбравы каларыт, спявае крышталька чыста і пакідае ў душы цудоўнае рэха. Хор, які працяты глыбокім філасофскім успрыманнем музыкі, які адчувае яе тонкую грань паміж рэальным і віртуальным светам; хор, для якога наўпросты шлях — у храм...

Я наогул вельмі люблю добрых музыкантаў. І калі Г. Гарэлава свой твор "Пейзажы" прысвяціла Алегу Крымеру, я нават па-жаночы крыху прыраўнавала. Вось калі гэты ўдумлівы піяніст зайграў дуэтам з Анджэем Годэкам, польскім кларнетыстам, я суцешылася. Каласальная выканаўчая тэхніка ў сукупнасці са шматграннасцю музыканцкіх натур утварылі дзівосныя вобразы, якія адгукнуліся на пытанні душы слухачовай.

Адным з самых прыемных, прынамсі, для мяне, гасцей быў Б. Цішчанка. Самы таленавіты вучань і паслядоўнік Д. Шастаковіча, гэты мастак мысліць па-філасофску, неяк "алгарытмічна". Трэба валодаць шырока развітым мастацкім густам, каб адказаць духоўна на ягоны інтэлектуальны працэс у музыцы. Ягоная музыка — жывы розум!

Цікава было на сустрэчы прафесара Санкт-Пецярбургскай кансерваторыі Б. Цішчанкі з нашымі студэнтамі. У зале Беларускага саюза кампазітараў ладзіліся іх духоўныя стасункі. Б. Цішчанка жартаваў з уласных твораў і ўвогуле паказаў нетрадыцыйны розум. Найбольш цікаўныя памкнуліся на канцэрт вучняў маэстра, зладжаны назаўтра.

А вітаючы Квартэт імя А. Барадзіна на ўласнай сцэне і пачуўшы першыя ноты, я надзела акуляры, бо падумала: ці не сам Шуберт на сцэне? І ці мая гэта сцэна, а не маленькая гасцёўня, і ці мо шмат народу, а



*Уладзімір МІНІН.*

тва. Няўрымслівыя вучні, што жылі ў цэнтры Мінска (я сёння назвала б іх "дваранамі верхняга горада"), аб'ядналіся пры Ленінскім райкаме камсамола ў клуб старшакласнікаў. З яго выйшлі вядомы аператар і рэжысёр Юрый Гарулёў, дыктар Валерый Дзягілеў, галоўны рэдактар газеты "Зніч" Наталля Машэрава, фотамастак Аркадзь Бірылка і шмат іншых вядомых творцаў і навукоўцаў. Мы зазналі наставу Кіма Хадзеева і Эдуарда Гарачага, цяпер заслужанага артыста Беларусі. Апошні прапанаваў "дваранам цэнтра" стварыць актыў тэатра і па чарзе дзяжурыць у зале падчас спектакляў, каб не дужа дысцыплінаваныя гледачы не заміналі артыстам (такое бывала ў любыя часы). І аднойчы, калі дзяжурыш яшчэ хораша, але па ўзросце ўжо ў казкі не верыш, узнік спектакль "Казачны дамок", а ў ім — Аленяня Гандзік — Міхаіл Пятроў. І столькі гарэзлівасці і летуценнасці, пяшчоты, дабрыні, праўды, даверу ў вачах і дзівоснай пластыкі: ускінутыя рукі-рогі, ганарлівая пастава, мернае пацокванне "капытамі"... Зноў з'явіўся казачнік, сустрэчы з якім ператвараліся ў святы. Мы трапілі да яго ў палон на доўгія гады. У палон да Ката ў ботах і Шакала, Труфальдзіна і Блазна, Дзядкоў і Сабачак. У кожнай з роляў была і блазнота, і варажба. А потым адбыўся трагічны і непрадказальны Мікіта Драніца ў "Плачы перапёлкі" І. Чыгрынава (пастаноўка Валерыя Раеўскага) у Нацыянальным тэатры імя Янкі Купалы. І не на сваёй сцэне ён быў сваім у ансамблі, тюгавец сярод купалаўцаў. Драніца Пятрова — з'ява ў тэатры. Ён спалучаў у сабе коласаўскага Дзеда Талаша з "Дрыгвы" і шэкспіраўскага Блазна — наш нацыянальны характар...

Па Мінску пайшла пагалоска: "Раеўскі запрасіў Пятрова да сябе ў тэатр". Памятаю, як у адказ на маё пытанне (ці прыме прапанову) ён са сціплай усмешкай адказаў: "Я да дзяцей звыклы. Куды я ад іх пайду?" Не магу ўявіць, хто яшчэ акрамя Міхаіла Пятрова, у падобных абставінах застаўся б адданым дзіцячаму тэатру, — той зрабіўся яму домам адразу ж пасля заканчэння Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута ў 1960 годзе...

...Пра яе мала хто ведаў — пра трагедыю, увасобленую Міхаілам Пятровым у спектаклі: "І трэці анёл пратрубіў" Д. Міхлеева ў пастаноўцы А. Бяспалага і У. Грыцэўскага на сцэне Тэатра-студыі кінаакцёра. Ён першым з артыстаў асэнсоўваў на сцэне чарнобыльскую катастрофу і рабіў гэта з уласцівай яму вонкавай лёгкасцю і далікатнасцю. Нездарма журы фестывалю "Кінакалядкі-90" аддало Міхаілу Пятрову прыз за лепшую галоўную мужчынскую ролю.

Для некаторых беларускіх рэжысёраў Пятроў — свайго роду талісман... Колькі эпізодаў (на жаль, ніводнай галоўнай ролі!), яскравых як бліскавіцы, колькі маленькіх роляў ён пераіграў! Упершыню — у "Нашых суседзях" побач з Глебавым у 1957 годзе. Потым — у фільмах "Чырвонае лісце", "Гарачая душа", "Хлеб пахне порахам", "Полымя", "Прыгоды Бураціна", "Чырвоная Шапачка", "Прададзены смех", "Зорны хлопчык", "Магіла льва", "Вянок санетаў", "Дзяржаўная граніца", "Дуброўскі", "Белыя росы", "Сад", "Прабач нам, матухна Расія", "Пастка для зубра".

Я не часта бываю ў ягоным доме — Тэатры юнага гледача, — а менавіта яму да сёння слугуе народны артыст Беларусі Міхаіл Пятроў. Стараюся трапіць туды менавіта на спектаклі з удзелам мастака: гэта заўсёды мара, заўсёды свята, заўсёды казка. Блазнота і варажба.

**Нэлі КРЫВАШЭЕВА**

*На здымках: Міхаіл Пятроў у спектаклях "Голы кароль" (з Віктарам Лебедзевым) і "Шчаслівыя жабракі"*

# ...Унесці розум у шаленства

*(Працяг. Пачатак на стар. 1)*

Новы купалаўскі дырэктар перадусім — гэта... акцёр, рэжысёр, папулярны тэлевізійны вядучы Генадзь ДАВЫДЗЬКА. "Але тэатр... зрабіў непапраўную памылку, — мовіў акцёр, рэжысёр і тэлевядучы. — Ён пусціў да сябе за кулісы. І мая мара — тэатр-храм, куды трэба вярнуць патаемнасць." Мо хто і патрапіў бы пасля распытаць спадара Давыдзьку пра ягонае пераўвасабленне ў дырэктара. Але не я: прамоўленае ім і запісанае мною пяць гадоў таму яшчэ можна прачытаць на лімаўскіх старонках. Паўтараць ён не будзе.

Небяспечнае мастацтва крытыкі, — "вялікае ўменне прыняць невялікі адыход ад ісціны за самую ісціну"...

У спектаклі "Князь Вітаўт", — там вядзе рэй аднайменны персанаж у выкананні згаданага акцёра, — абвешчана і падкрэслена: Вялікае княства зазнала залатога веку, калі Вітаўт пачаў паўнаварта ўладарыць. У сорак два гады пачаў. За вялікі купалаўскі стол, дырэктарам, Давыдзька сеў таксама ў сорак два. Рэальна, без прыблізнасцяў. Са сваім сонечным, усмешлівым талентам дамагацца паразумення з кім бы там ні было. З талентам мяккага, густоўнага гумару, — то даверлівага, то іранічнага. З талентам ствараць і абараняць, нарэшце. Так што наканаванага тэатру залатога веку не напрарочыў бы... толькі крытык.

Бачыць Бог, варта, варта было параіцца са спадаром дырэктарам наконт такой рызыкоўнай паралелі. Але, — каб спатрэбілася мерацъ занятасць (апантанасць) чалавека тэатральнага, — я б прапанавала мераць яе ў "давыдзьках". І паколькі дырэктар быў заняты на некалькі "давыдзькаў" адразу, грамадавацъ з ім давялося, як заўжды. Праз рампу. Памянёным вечарам — праз пасрэдніцтва спектакля "Ромул Вялікі". У аблічча іншага князя — Адаакра, правадыра германцаў, супраць чыйго міралюбства былі пляменнік, вершаплёты і грамадская думка. Так што ён мусіў заваяваць Рым. Да поўнай перамогі. Хоць, паводле персанажа Ромула Вялікага, хацеў пазбегнуць свайго лёсу. "Мы спадзяваліся вызваліцца ад свету, — гнуў сваё Ромул вуснамі Аўгуста Мілаванава, — а цяпер давядзецца даводзіць да ладу... разваліны. ...Паспрабуй за тыя нямногія гады, якія выпадае табе правіць светам, унесці розум у шаленства. Падары германцам і рымлянам мір".

Пра мір і ў Вялікім княстве таксама казалі — ў "Князі Вітаўце". Пра мір, здабыты горкай, калі не сказаць — любой цаной. "Мы абязлюдзелі", — цяжка прамаўляў Вітаўт і змушаў спыніць пабаявішча. Усё адно як дачуўшы з класіка найноўшых часоў: у сапраўднай трагедыі гіне не герой, — гіне хор.

Зрэшты, гульня тэкстамі і прыпадабненнямі вымагае пэўнасці кантэксту, як у тэатры — пэўнасці абставін. А пэўнасць палягае ў тым, што Генадзь Давыдзька стараецца жыць так, каб яму было цікава. Не любіць шэрага ды самотнага. Што ён — халерык, чалавек эмацыйны і любіць такіх самых. Што ён не канапны хлопец, — як толькі паўгадзіны не нарасхоп, не заняты пільна або страшэнна, у яго адразу трывога. Ён любіць Купалаўскі тэатр: шаснаццаць гадоў таму кружляў вакол яго і марыў выходзіць на ягоную сцэну, трымцеў перад першым званком Раеўскаму, хваляваўся перад паказам мастацкай радзе... Купалаўскі быў тэатрам ягонае мары, хіба дырэктарства тую мару не сілкавала: ён хацеў быць акцёрам, рэжысёрам... Але **наспеў час нешта мяняць**. Ён прыхільнік Льва Гумілёва, ягонай пасіянарнай сістэмы, дзеянняў, а купалаўскі этнас (ягоны назоў) проста вымагае пераменаў...

Усё вышэйпададзенае мне рупіла вычытаць са шматлікіх інтэрв'ю, — па іх да купалаўскага дырэктара рушыў траха не кожны, хто хоць трыццаць радкоў у жыцці напісаў пра культуру. У ягоным прызначэнні шукалі кар'ерызму ("Гэта для мяне не кар'ера"), закуліснага вэрхалу ("Мы шчаслівы горад, калі шукаем скандалы там, дзе іх няма"), адмысловай кан'юнктуры ("Адзіная кан'юнктура, якую я спавядаю, — гэта праца на нацыю"), неабгрунтаванасці і паспешлівасці ("Я б хацеў між іншага давесці, што тэатр — гэта адвечнае"). Ён уяўляе Купалаўскі не як тэатр маленькай нацыі ў цэнтры Еўропы, а як тэатр, які належыць... тэатральнай планеце. Ягонаму народу ёсць што сказаць пра час і пра сябе, — такая дарога стратаў рэдка каму выпадае, такі досвед сам па сабе неацэнны, а ўжо пераасэнсаваны па-мастацку, на сцэне, у драме...

Давыдзьку, як усялякаму новаму дырэктару, варта было месяцы два-тры папакойнічаць. Але здалося, што іспыты на кіраванне здаў экстэрнам, што дастаткова абазнаны ў справах тэатра як акцёр і рэжысёр, — аддаў належнае эканамічнай адукацыі, але кніг па эканоміцы на ягоным стале не паменшала...

— Калі меркаваць паводле актантнай сістэмы пабудовы п'есы (Генадзь у сваіх захапленнях не абышоў і драматургію. — **Ж. Л.**), у маім выпадку дырэктар — гэта герой, у якога павінен быць спадарожнік, і натуральна, антыгерой. Чым мацней антыгерой, тым мацней герой у змаганні з ім. Шукаю антыгероя, — дакладней, тое, што яго спараджае...

**— Зазвычай (у нашых тэатрах) гэта дырэктар і мастацкі кіраўнік...**

— У цяперашнім купалаўскім варыянце дырэктар, хутчэй, Фаўст, а мастацкі кіраўнік, верагодна, Мефістофель. Мефістофель мусіць пераканаць Фаўста, што свет не самотны, што ёсць у ім нейкае каханне, шчырасць, радасць; мусіць адкрываць новую тэатральную прастору... Іхнія ўзаемадачыненні мусяць быць творчымі. Са свайго боку я мяркую, што галоўнае ў купалаўскага кіраўніка — не толькі работа з трупай і пастаноўка п'ес, але — **ідэя тэатра**, вызначэнне пытання "куды ідзём". Тэатр мецьме сваю філасофскую ідэю, канцэпцыю, — таму я хачу прыцягнуць да работы ў ім філосафаў, сацыёлагаў, культуролагаў. Меркаванне пра Купалаўскі дастаткова высокае, гэта радуе, але як не памяняць, скажам, нашу рэкламу? Наймоцнае сёння — сярэдняе пакаленне тэатра, якое да нядаўняга часу ўсё яшчэ лічылася маладым (Манаеў, Белахвосцік, Гарцуеў, Рэдзька, Лабуш, Сідарава, — хай прабачаць тыя, каго не паспеў назваць). Пакаленне, вартае быць зорным. А цяпер "зоркамі" кіруе тэлебачанне, — таму тэлестудыя на базе тэатра здаецца мне неабходнай і своечасовай. Я хачу, каб мы здымалі свае праграмы і серыялы... прадавалі б іх у Мексіку, — а потым туды лёгка было б на гастролі выбірацца.... А дзе яшчэ, як не ў акадэмічным тэатры, выхоўваць рэжысуру? Тэатр мае намер прапанаваць ставіць усім, хто заявіў пра сябе, як пра асобаў са сваёй эстэтычнай праграмай, — п'есы яны выберуць самі. Пасля вынікаў на сцэне можна будзе фармаваць рэжысёрскі штат (пакуль што рэжысёрскую эліту Беларусі складаюць хіба Раеўскі, Луцэнка ды Пінігін). З новым тысячагоддзем я звязваю запраектаваны фестываль нацыянальных тэатраў, — самы час на сцэне падрахаваць дарогу крыві, падступлівасці і цывілізацыі, якая не змяніла чалавека. Мы запросім да сябе еўрапейскія тэатры, прымяркоўваючы іхні прыезд да купалаўскага васьмідзесяцігоддзя. Здаецца, на такі фэст кожны пастараецца прывезці спектакль, які найбольш адлюстроўвае пошукі нацыі, яе пункты гледжання на чалавека, які ўваходзіць у новае тысячагоддзе. Спадзяюся на тэатральную анталогію чалавечых жарсцяў...

**— Грамадская думка, ледзь да яе дайшлі новыя купалаўскія запатрабаванні, выявілася іранічнай, нават жорсткай...**

— Грамадскую думку, здаецца, можна трымаць толькі хлуснёй. Або шаленствам. Або шукаць ворага (не антыгероя), які замінае рабіць. А калі ты будзеш хадзіць з высока ўзнятай галавой, прыстойна апранацца, рабіць выгляд, што ўсё як мае быць і нікому не скардзіцца... Беларусы ж любяць шкадаваць. І любяць таго, каго шкадуюць.

**— А калі чалавек намагаецца "ўнесці розум у шаленства"?**

— Яго незалюбяць, яго будуць баяцца. Прынамсі, літасці ад грамадскай думкі яму не прычакаць.

**— Але да дырэктарскіх намаганняў так лёгка лепяцца вызначэнні кшталту "manілаўшчыны"...**

— Сервантэс заўважыў, што чалавек, калі хоча пераскочыць яміну, не пачынае з таго, што скача на дно. Бо калі скачок будзе няўдалым, ён усё адно там апынецца. А я толькі адштурхнуўся...

**З Генадзем ДАВЫДЗЬКАМ размаўляла Жана ЛАШКЕВІЧ**



*Нацыянальны камерны аркестр Літвы і Маскоўскі акадэмічны камерны хор.*

не чацвёра сяброў, ці Квартэт гэта, а не імправізацыя душы? Рэдка дзе адчуеш такое разуменне ўнутранай сутнасці музыкі; здаецца мне, нібыта гэтыя выканаўцы выйшлі проста з таго часу, таму і адчуваюць ягоны каларыт, дух, настрой. Ахвочая да прыгожых слоў, я назвала б гэты квартэт плодам натхнення Еўтэрпы!

## ЛІРЫЧНАЕ АДСТУПЛЕННЕ

Калі я слухала Дзевятую сімфонію Бетховена на адкрыцці фестывалю, зала мая ўздрыгвала ад моцы твора, які выконваў аркестр "Маладая Беларусь", хоры тэлерадыёкампаніі і Акадэміі музыкі. Не ўсё атрымалася, на мой густ, але сам факт выканання найгеніяльнейшай з сімфоній ёсць сведчанне вялікіх магчымасцей музычнай моладзі. Ну, калі мне будзе 70 гадоў, ды наш культурны працэс пойдзе ў арыфметычнай прагрэсіі, вось тады і паглядзім: можа, наша моладзь павіншуе мяне Гімнам для камп'ютэрнага аркестра...

## ПРАЦЯГ І ФІНАЛ

Башмет? Башмет!!! Башмет.

Прафесар Ю. Башмет, асоба, ганараваная ўсялякімі ўзнагародамі, удзельнік мноства фестываляў, конкурсаў і майстаркласаў, стваральнік выдатнага аркестра "Салісты Масквы", духоўны настаўнік сваіх вучняў і эталон альтыста ва ўсім свеце, іграў як заўсёды — excellent (бліскуча)!

Сярод гасцей-салістаў вылучыліся на фестывалі скрыпачка Д. Шварцберг (Аўстрыя), віяланчэліст М. Драбінскі (Францыя), бас А. Сафіулін (Расія) ды іншыя.

А галоўнай дзейнай асобай быў... мой задаволены глядач. Нягледзячы на некаторыя недахопы, я лічу, што пастаралася. Як асоба адказная, лічу, што не хапіла мне таленту ўпрыгожыць кветкамі залу і ўвогуле — не навучылася я прыгожа дарыць кветкі выканаўцам. Вінаватая, што не змагла надзяліць журналістаў гарантаванымі месцамі ў зале на аншлагавых канцэртах. Стамілася, і далейшае культурнае жыццё спланавала мо не так багата, як хацелася б... Але, як гавораць, выбачайце: добрага — пакрысе. Цяпер я пайшла адлічваць свой сёмы дзесятак...

**Маналог філармоніі падслухала Марына МЕЛАГРАНА**

*Фота Аляксея МАЦЮША*

## Юбілей школы Пэна



**У мастацкім музеі ў Віцебску адкрылася выстава, прысвечаная 100-годдзю Віцебскай мастацкай школы малявання і жывапісу, якая была адкрыта мастаком Юрыем Пэнам. На выставе ўпершыню прадстаўлены 34 жывапісныя і II графічных работ Ю. Пэна, а таксама фотаматэрыялы і дакументы, якія расказваюць пра яго жыццё.**

*На здымку: экскурсію праводзіць Святлана Масленікава.*

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

## Адна з самых вядомых



**У спіс "2000 самых вядомых людзей свету", які складаецца ў Вялікабрытаніі Кембрыджскім навуковым цэнтрам, будзе занесена народная артыстка Беларусі — вядучая актрыса Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа Святлана Акружная.**

**Вывучыўшы анкету віцебскай актрысы, журы ў складзе вучоных Кембрыджскага універсітэта і дзеячаў культуры цэлага шэрагу краін палічыла лёс і дзейнасць прэтэндэнткі дастойнымі ганаровага спісу і звання жанчыны года. На такое рашэнне паўплывала і тое, што тэатральны эксперт Савета Еўропы, рэжысёр парыжскага тэатра "Адэон" М. Элі прызнала Акружную адной з лепшых актрыс кантынента за выкананне галоўнай ролі ў спектаклі "Рэцэпт Макропуласа" па п'есе класіка чэшскай і сусветнай літаратуры К. Чапэка (пастаноўка Мікалая Пінігіна).**

*На здымку: Святлана Акружная з рэжысёрам Мікалаем Пінігіным.*

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

## Сінія беларускія перцы

**Так! Акурат у самую сцюдзёную пару ў Мінску выспявае гэтая экзатычная гародніна, а дакладней — фестываль эксперыментальных мастацтваў, галоўным чынам музычных. Штогод наладжвае імпрэзу досыць знаны ў колах андэграўнда гурт "Князь Мышкін". Сёлета — не выключэнне. *21 лютага* плеяда дзеячаў, так бы мовіць, нетрадыцыйнай творчай арыентацыі збярэцца на "Сіні перац-5" у рок-н-рольны клуб "Reef" (Няміга, 30).**

**Як плануецца, у праграме возьмуць удзел эксперыментальныя тэатральныя майстэрні "Акт" пад кіраўніцтвам В. Баркоўскага (яны прапануюць вашай увазе дзею "Маёр над Афрыкай"), гурт "Графіка" (аскепкі небезвядомых "Дзяцей лейтэнанта Шміта"); музыканты гуртоў "Зарціпо", "Троіца" і "Князь Мышкін" парадуюць публіку сваім сумесным праектам, аматараў музычнага мінімалізму ўсцешыць брэсцкі калектыў "Рацыянальная дыета", а прыхільнікаў экстрэмальных накірункаў — гурт "Hate to state".**

**Прыходзьце — не пашкадуеце! Пачатак "Перцаў" а 18-й гадзіне.**

Ірына БАРАВАЯ

ПЕРАКЛАДЫ

# Паэзія мурманчан

***Напрадвесні надарылася пабываць у Мурманску: там, на далёкай Поўначы, праходзілі Дні культуры Беларусі, з паэтам Іванам Карэндам мы прадстаўлялі нашу пісьменніцкую арганізацыю. Дзівосная прырода, мужныя і шчодрыя людзі скарылі нашы сэрцы. Мы пазнаёміліся там з таленавітымі пісьменнікамі, якія бязмежна любяць свой край. Іх усяго васемнаццаць, але ім можна па-добраму пазайздросціць: яны ўмеюць моцна сябраваць, падтрымліваць адзін аднаго і цаніць талент. Кніга, добрае слова — духоўнае багацце, якое непадуладна межам, мытнікам, пагранічнікам, палітыкам.***

***Чытачоў "ЛіМа" запрашаю пазнаёміцца з вершамі мурманчан Марыны Чыстаногавай, Мікалая Колычава, Аляксандра Міланава, Вікдана Сініцына, Аляксандра Папова, Іраіды Вінаградавай. Пераклаў іх Мікола Маляўка, які калісьці цягам двух гадоў праходзіў жыццёвае выпрабаванне на лесанарыхтоўках у Карэліі.***

***Чытайце, сябры, і хай вам калі-небудзь захочацца пабываць на Поўначы, дзе людзі жывуць па законах палярнай ночы і палярнага дня, дзе захоўваюць сваю непаўторную мову, культуру саамцы, ненцы, карэлы і фіны — адвечныя паморцы, у нечым і па сёння загадкавыя і таямнічыя людзі.***

**Уладзімір ЛІПСКІ**

Марына ЧЫСТАНОГАВА

### Цэйтнот

*Гуляе лёс у шахматы.*
*Я — пешка.*
*Марудзіла раней, а зараз спешка*
*Няўмольна падштурхоўвае:*
*"Твой ход!"*
*Удача зноў праціўніку спрыяе,*
*Мяне загнаўшы ў кут, і ўжо другая*
*Праходзіць пешка...*
*Божа мой, цэйтнот!*

*А мой дэбют*
*Раскашаваў у ружах,*
*І чорны колер не палохаў дужа,*
*Ды, пэўна, так распарадзіўся Бог:*
*Упарта мне цягнуць*
*няўдачы лямку,*
*Пакуль дазволіць лёс*
*прабіцца ў дамкі,*
*А пешкі іншыя*
*Адсуне ўбок.*

Мікалай КОЛЫЧАЎ

### Шчасце

*Стол не багаты, а цешыць:*
*Лепшага хлеба — няма,*
*Лыжка ў капусце цешчынай*
*Не зварухнецца старчма.*

*Дочкі, ластаўкі быццам,*
*Побач шчабечуць яшчэ,*
*Жонка на кроснах быту*
*Ўтульнасць сямейную тчэ.*

*Нас разлучыць немагчыма,*
*З Богам у сэрцы жывём.*
*Тут, на зямлі любімай,*
*Ёсць і каханне, і дом.*

*Небу дзякую часта,*
*Вось яна, доля мая:*
*Наша агульнае шчасце —*
*Родны край і сям'я.*

Вікдан СІНІЦЫН

### Падкова

*Адчыненыя дзверы,*
*Вісіць падкова, бачу,*
*Каб госць наіўны верыў —*
*Жыве шчаслівa бабка.*

*А з гаспадаркі — печка,*
*Гуляе ў сенцах курыца,*
*Чыгун расправіў плечы,*
*Як дамавік закураны.*

*Дашчаны стол і лаўка,*
*Лампадка пад іконаю.*
*І не ад шчасця бабка*
*Сагнулася падковаю.*

*У беднай бабкі Насці*
*Падкова — выпадковая:*
*Як быццам і на шчасце,*
*Ды шчасце не падкована.*

Аляксандр МІЛАНАЎ

### Туман

*Зноў гусцее туман*
*Над краінай маёй,*
*Над маёю душой,*
*Над маёю тугой.*
*Мы ў тумане*
*На лодцы надзеі*
*Плывём*
*То пад ветразем,*
*То памагаем вяслом.*
*Ад раскіданых гнёздаў,*
*Ад ціхай бяды —*
*Да вялікай вады.*

Аляксандр ПАПОЎ

•

*Не ведаю,*
*Ці хто мяне пакрыўдзіў,*
*Ці вінаваты сам...*
*Па волі хваль*
*Плыву адзін*
*На лёсу белай крызе*
*Да берага,*
*Міфічнага амаль.*

*Не бачаць караблі,*
*Праходзяць міма,*
*Знікаюць*
*У пустыні вадзяной.*
*Навокал — ні душы...*
*А плынь Гальфстрыма*
*Вось-вось растопіць*
*Крыгу пада мной.*

Іраіда ВІНАГРАДАВА

### Палярны мядзведзь

*Не раве ад суму ледзь*
*Непрыкаяны мядзведзь.*
*Ён жыве сярод таросаў,*
*Сябра тут знайсці*
*няпроста,*
*І скачаў, сабе на ўцеху,*
*Ён вялікі мяч са снегу.*
*Смешна, весела глядзець,*
*Як гуляе з ім мядзведзь.*

**Пераклаў з рускай мовы**
**Мікола МАЛЯЎКА**

УГОДКІ

# "Наш народ не загіне..."

## 130 ГАДОЎ НАЗАД НАРАДЗІЎСЯ ПІСЬМЕННІК І МАСТАК КАРУСЬ КАГАНЕЦ

Сапраўднае прозвішча яго, як вядома, Кастравіцкі, а род Кастравіцкіх даўні, баярскі. Бацька Каруся — Карл Кастравіцкі — быў чалавекам вольналюбівых поглядаў, прымаў удзел у паўстанні пад кіраўніцтвам К. Каліноўскага. Як і яго сваяк, штабс-капітан рускай арміі Міхаіл-Апалінарый Кастравіцкі. Калі паўстанне было разгромлена, ён, на шчасце, уцёк у Італію, а Карл Кастравіцкі апынуўся ў Сібіры. У дачкі Міхаіла-Апалінарыя Ангелікі ў 1880 годзе ў Рыме нарадзіўся сын, які пазней стаў знакамітым французскім паэтам Гійомам Апалінэрам, выбраўшы сабе псеўданім у памяць пра дзеда-паўстанца. У Карла Кастравіцкага таксама нарадзіўся сын. Толькі ў Табольску і значна раней — 10 лютага 1868 года і далі яму імя Казімір.

На радзіму Кастравіцкія вярнуліся толькі ў 1874 годзе, але іх невялікі фальварак Навасёлкі (усяго шэсць сялянскіх двароў) непадалёку ад Койданава быў канфіскаваны. Давялося ісці ў наймы, пасяліліся ў вёсцы Засулле пад Стоўбцамі. Бацька памёр, калі хлопчыку споўнілася ўсяго шэсць гадоў і ён мусіў пяць гадоў быць пастухом. А да ўсяго гадаваўся калекам. Ды толькі рана навучыўся пераадольваць фізічную немач і, нягледзячы на матэрыяльныя цяжкасці, змог вучыцца. Аб гэтым паклапаціліся маці з айчымам. Займаўся ў гарадскім вучылішчы ў Мінску, а ў 1885—1888 гадах у знакамітым Маскоўскім вучылішчы жывапісу, ваяння і дойлідства.

Рана праявіў цікавасць не толькі да малявання, а і да літаратуры. Пачаў з вершаў, а ў 1893 годзе з'явілася яго апрацоўка народнага падання "Прылукі", у якім тлумачыцца паходжанне назвы гэтага паселішча. У тым жа годзе напісалася і яго "Прамова" — публіцыстычны зварот да беларускага народа.

Праз шэсць гадоў, ажаніўшыся на простай сялянцы Ганне Пракаповіч, Каганец у гэтым урочышчы ля самага Прымагілля пасяліўся назаўсёды. Жыў у звычайнай сялянскай хаце: з саламянай страхой, з падслепаватымі акенцамі, без сенцаў, таму ўваходзіць даводзілася ў яе праз хлеў. Але ж нездарма ўзяў ён псеўданім Каганец — як мог імкнуўся даць больш святла блізкім. І шмат рабіў, каб святло адукацыі, нацыянальнага абуджэння прыйшло на любую сэрцу Беларусь. Хоць у пошуках заробку яму даводзілася надоўга адлучацца — працаваў у мастацкай майстэрні ў Рызе, у Мінскім таварыстве дабрачыннасці, на будаўніцтве чыгункі Балагое—Сядлец, заўсёды ў думках заставаўся з бацькоўскай зямлёй. З'яўляўся членам Беларускай сацыялістычнай грамады, у час рэвалюцыі 1905—1907 гадоў праводзіў агітацыю сярод сялян Койданаўшчыны, трапіў за гэта ў мінскую турму. Пасля вызвалення працаваў у лясніцтве на Крычаўшчыне, выкладаў маляванне ў Вільні. У 1910 годзе зноў апынуўся ў турме, дзе правёў роўна год. Дарэчы, пакаранне адбываў разам з Якубам Коласам. У 1912 годзе ўладкаваўся аканомам на Барысаўшчыне. Увесну 1918 года абвастрылася хвароба лёгкіх, якой пакутаваў даўно. Вярнуўся ў Прымагілле, дзе памёр раптоўна 20 мая падчас наведвання сваякоў. Пахаваны быў на вясковых могілках у Навасёлках.

Карусь Каганец — адзін з найбольш вядомых прадстаўнікоў той слаўнай плеяды нацыянальных адраджэнцаў, што тварылі ў канцы мінулага—пачатку XX стагоддзяў. Найбольш поўна яго мастакоўская спадчына прадстаўлена ў кнізе "Творы" (укладанне, прадмовы і каментарыі С. Александровіча), што выйшла ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" ў 1979 годзе. У ёй змешчаны празаічныя і паэтычныя творы пісьменніка, яго творы для дзяцей, якія, верагодней за ўсё, ствараліся для чытанкі, што мусіла выйсці ў выдавецтве "Загляне сонца і ў наша аконца", але чамусьці не пабачыла свет.

Затое выйшаў складзены ім "Беларускі лемантар, або Першая навука чытання". Праўда, гэты дапаможнік выдадзены ананімна, ды ў архіве Каганца захаваліся рукапісы і малюнкі, якія не даюць падставы сумнявацца ў аўтарстве. "Беларускі лемантар..." (1906) — увогуле першы беларускі лемантар. Каганец і сам хацеў заняцца выдавецкай дзейнасцю, у 1904—1905 гадах прымаў захады па выданні газеты "Палессе".

Як драматург, ён вядомы найперш дзякуючы камедыі "Модны шляхцюк". Напісаў і камедыю "Двойчы прапілі", а таксама дзве невялікія п'есы "Сын Даніла" і "Старажовы курган", што закранаюць гістарычную тэматыку.

У згаданым зборніку "Творы" змешчаны і рэпрадукцыі асобных малюнкаў. Яны сведчаць, што і ў гэтай галіне творчасці ён таксама валодаў талентам.

Усё сваё нялёгкае жыццё Каганец пражыў з упэўненасцю: "Наш народ не загіне, і прыйдзе такая часіна, што прачнецца наш русьняк і скажа суседзям так: "Служылі мы вам — заплацеце вы нам! Нам грошай не трэба, бо свайго хопіць хлеба. А скажэце нам толькі: "Беларусы вы".

**А. АН-ЕВІЧ**

РЭЗАНАНС

# "Адплыві на глыбіню..."

АРТЫКУЛАМ "Ружовы туман" Сяргей Дубавец, рэдкі госць у нашым "ЛіМе", справакаваў (у добрым сэнсе гэтага слова), на першы погляд, літаратурную дыскусію. Яго апанентам па прапанове рэдакцыі газеты выступіў не менш таленавіты публіцыст Валянцін Акудовіч, назваўшы свой артыкул "У вайны няма Айчыны" рэцэнзіяй на "тэксты Сяргея Паўлоўскага (Дубаўца)", апублікаваныя ў газеце "Наша Ніва" і ў "ЛіМе".

Пакуль што дыскусія атрымалася амаль па-за літаратурай, бо нашыя палемісты ўхіліліся ад сутнасці праблемы: замест аналізу феноменаў *савецкая* альбо *таталітарная* літаратура абмежаваліся самавыяўленнем, публічнай споведдзю, дэманстрацыяй сваёй "profession de foi", сваіх уласных каштоўнасцяў. Дэмакрат і хрысціянін Сяргей не любіць таталітарызму і "савецкага кантэксту" ў грамадстве і літаратуры, а ягоны апанент Валянцін з пафасам нападае на ім жа сканструяваны прывід "камуна-хрысціянства". Палемічныя нататкі В. Акудовіча "У вайны няма Айчыны" — нешта накшталт дэмакратычнага "Антыхрысціяніна" — другога пасля элітарнага трактата Фрыдрыха Ніцшэ.

Спачатку я збіраўся паспрачацца з Сяргеем Дубаўцом. У нас з ім ёсць вопыт сяброўскай дыскусіі: да ягонай кнігі "Практыкаванні" (1992) я калісьці напісаў палемічны артыкул "Літаратура ў абсурдным свеце". Але пасля выступлення майго добрага калегі Акудовіча мне захацелася павярнуць веер свайго "крытычнага абстрэлу" ў бок Акудовічавых "дэмакратычных умацаванняў". Тут уся справа ў акцэнтах і агульнай танальнасці тэкстаў. У выступленнях С. Дубаўца мне заўсёды імпануе рыцарская татальнасць (прабачце мне, спадар Сяргей, за гэткі камплімент), няхай сабе несправядлівая ў канкрэтных ацэнках, у дадзеным выпадку, не толькі беларускіх Максіма Танка і Аркадзя Куляшова, але і партыйна-савецкіх Івана Шамякіна альбо Петруся Броўкі. В. Акудовіч чамусьці заняў пазіцыю прыхільніка сучаснай псеўдадэмакратыі, а па сутнасці ахлакратыі (улады натоўпу) і для гэтага "ахвяраваў" хрысціянствам — духоўным фундаментам самай вялікай (пасля антычнай) сучаснай цывілізацыі.

Урэшце справа не так у філасофіі і аксіялогіі (яны розныя не толькі ў народаў і асобаў, але і на розных этапах іхняга жыцця ад маленства да старасці), колькі ў канкрэтнай палітыцы, якая, на жаль, дамінуе ў сённяшніх дыскусіях. Зноў жа небяспека — не ў гэтых палітычных баталіях, а ў журналісцкіх падменах паняццяў. "Камуна-хрысціянства, — піша В. Акудовіч, — гэта вялікая правакацыя вайны. Гэтай правакацыі ўжо найменей дзве тысячы гадоў, і канца ёй не бачна".

Не буду аспрэчваць дзіўную ў дадзеным кантэксце інвектыву аўтара, паводле якой доказам гэтай правакацыі служаць "акрамя безлічы ўсяго астатняга... тэксты Сяргея Дубаўца". Тут наш калега ў спешцы памыліўся ў "ідэалагічным" плане. Няхай жа сам пакаецца і папросіць прабачэння ў спадара Сяргея. Мяне турбуе нешта большае — "татальнае" абвінавачванне ўсяго хрысціянства (ад пачатку яго абвяшчэння) у "вялікай правакцыі вайны". Тут ёсць падмена паняццяў: замест імперыялізму, сапраўднага віноўніка вялікіх і малых войнаў — ад біблейскіх і асіра-вавілонскіх да нашых часоў — "казлом адпушчэння" за грахі вайны той-сёй хоча зрабіць гратэскавы сімбіёз хрысціянства з камунізмам.

Нейкае вонкавае падабенства паміж хрысціянствам і камунізмам (у аўтэнтычным, а не ў падманным, імперскім значэнні камунізму) сапраўды ёсць. Пра старадаўнюю хрысціянскую камуну ў "Дзеях святых апосталаў" гаворыцца: "А ў мноства людзей, што ўверавалі (ў Ісуса Хрыста. — **У.К.**), было адно сэрца і адна душа; і ніхто нічога з дастаткаў сваіх не называў сваім, а ўсё ў іх было супольнае (...). Не было сярод іх анікога ў нястачы, бо ўсе, хто валодаў землямі альбо дамамі, прадаючы іх, прыносілі грошы ад продажу і клалі да ног апосталаў, і кожнаму давалася, у чым хто меў патрэбу".

Але хіба ж апосталы былі "правакатарамі" вайны? Ці, можа, паслядоўнікі раннехрысціянскай камуны, даўнейшыя і сучасныя манастыры (не блытаць з імперскімі рыцарскімі ордэнамі) куюць зброю для імперскіх паходаў? Наадварот, яны вучылі перакоўваць мячы на плугі, а дзіды на сярпы, у сваёй гаспадарцы ўмелі рабіць гэта. Наогул жа аўтэнтычнае хрысціянства за два тысячагоддзі засталося хутчэй ідэалам, чым рэальнасцю, бо ні грамадства, ні тым больш грэшную на імперыялізм дзяржаву не ўдалося ўцарковіць. Дзяржава, асабліва імперская, застаецца ў сваёй аснове язычніцкім інстытутам. Калі б грамадства і кожны чалавек паасобку былі б дасканалымі альбо хоць бы імкнуліся да гэтай хрысціянскай дасканаласці, то дзяржавы з іхнімі карнымі органамі, узброенымі сіламі, бюракратыяй і войнамі былі б непатрэбнымі, іх замяніла б сусветная царква.

Падмена паняцця *камуна-фашызм* камуна-хрысціянствам — дрэнная ідэалогія, а для нашай Беларусі небяспечная. Бо, ганяючыся за фантомам, можам пусціць у свой Дом спрактыкаванага захопніка. Ягоны ядавіты голас гучыць у сучаснай Расіі адусюль: "правыя" і "левыя" адносна Беларусі салідарызуюцца на грунце банальнага чарнасоценства. Найперш — з імперска-бальшавіцкай газеты "Завтра" на чале з А. Прахановым. У красавіцкія дні расійска-беларускага саюза (1997) гэты блізкі да былога сэсэсэраўскага КДБ літаратар апублікаваў зварот пад загалоўкам "Мистическая звезда Александра Лукашенко", назваў свайго героя "носителем мессианской идеи", славяна-расійскім месіяй, над якім "сияет мистическая звезда"; разумеецца, адроджанай Расійскай імперыі. "Победи, Александр Григорьевич!" — заклікае рамантык-чарнасоценец.

Рэдактар "газеты правительства Москвы" (аказваецца, ёсць такое!) "Тверская, 13" нехта М. Палятыкін у тым жа красавіку 1997 года апублікаваў "дэмакратычны" зварот пад загалоўкам "С Белоруссией объединяться надо. А с Лукашенко — нет". Невук у беларускай гісторыі (да расійскага двухсотгадовага палону беларусаў, паводле гэтага прафана, Беларусь "переходила из рук в руки — от княжества Литовского к Речи Посполитой"), ён спадзяецца на "воссоединение" па аналогіі з імперскім аншлюсам Беларусі ў 1772—1795 гг. Але сучасны расійскі "дэмакрат" нават не абцяжарвае сябе фарысействам "воссоединения": ён мае на ўвазе "приобретение" Беларусі ў якасці калідору ў Еўропу і буферу паміж Расіяй і НАТА. А яшчэ — адавочна, калоніі для Масквы, пастаўшчыка прадуктаў ды іншага патрэбнага тавару ў абмен на суцэльную русіфікацыю беларусаў ды й пастаўку сваёй альбо замежнай заляжалай маскультуры. У рэшце рэшт, дэмакрат-чарнасоценец скептычна заключае: кампенсаваць страту былой магутнасці Расіі (маецца на ўвазе Расіі "ў жанры" СССР) "приобретением Белоруссии вряд ли удастся". Намёк зразумелы: трэба замахнуцца на большае.

Вернемся, аднак, да літаратуры і эстэтыкі. Сяргей Дубавец спадзяецца на яшчэ адну "перастройку", з якою "беларускі народ абавязкова развітаецца з таталітарнай савецкай культурай", з гэтым "сатанінскім антыподам, які забіў і заглушыў беларушчыну". Калі ж гэтая катастрофа адбылася? Паводле спадара Сяргея, аказваецца, не ў 30-я гады, калі беларуская нацыянальная эліта — пісьменнікі, вучоныя, мастакі, студэнты і настаўнікі, дзяржаўныя і грамадскія дзеячы былі знішчаны, рэшта іх падаўлена альбо "прыручана", а "фігуральна кажучы, з Коласам", Броўкам, Глебкам, пазней з аўтарам паэмы "Ленін думае пра Беларусь", Аркадзем Куляшовым, Піменам Панчанкам, Іванам Шамякіным, Іванам Мележам, Максімам Танкам. Савецкая культура на Беларусі абвяшчаецца ім "сатанінскім антыподам, які забіў і заглушыў беларушчыну". Апалагетыка Леніна, партыі, савецкай дзяржавы ў вершах, прамовах, нават у "фармалістычных знаходках" — гэта сатанінскі культ, узоры якога спадар Сяргей убачыў у фрагментах "культаўскіх" вершаў народных паэтаў Беларусі. Сёння яны ўжо нябожчыкі, не могуць абараніць сябе, прыйдзецца нам заступіцца за іх.

Я ахвотна пагадзіўся б з гэтымі ацэнкамі калегі Сяргея, калі б сутнасць, сэнсавыя дамінанты і мастацкія акцэнты творчасці Куляшова, Панчанкі, Танка, урэшце, Броўкі і Шамякіна ды іншых "савецкіх" пісьменнікаў увасобіліся ў прыведзеных ім культаўскіх дрындушках. І калі б гэтыя пісьменнікі былі нашымі равеснікамі, пісалі б сёння, калі літаратарам жывецца цяжка, вакол іх гародзяць інфармацыйную блакаду, але слава Богу, іх не пасылаюць на катаргу і не страляюць з нагана ў іхнюю патыліцу. Калі ёсць нават свабода слова — у "пэўных рамках". Урэшце, калі б той няшчасны савецкі пісьменнік не раздвойваўся і не расстройваўся (думаў адно, гаварыў другое, рабіў трэцяе), а дазваляў сабе раскошу цэльнай асобы.

Вось фрагмент з гутаркі журналіста і "савецкага" паэта Алеся Звонака: "У гады сталінскага генацыду ў Беларусі было рэпрэсіравана каля двухсот пісьменнікаў — у асноўным *выхадцаў з бедных сялянскіх сем'яў* (падкрэслена мною. — **У. К.**)... Адна з самых трагічных дат у гісторыі беларускай літаратуры, як пісала газета "Звязда", — 29 кастрычніка 1937 года: у адзін дзень было пакарана смерцю дзевяць пісьменнікаў" ("Голас Радзімы", 1995, 9 лют.). Я раю сучасным смелякам пачытаць хоць бы апошні даведнік беларускіх пісьменнікаў: добрая палова іх "савецкіх", расстраляна альбо замучана ў ГУЛАГах, а рэшта падаўлена. Падавіць і знішчыць — правіла ўсялякай вайны. А бальшавіцкая імперыя ваявала з народам, найперш з яе элітай. Паводле вядомага выслоўя: "Паражу пастара — і разбягуцца авечкі".

Ніхто не хоча паміраць, а героі — такая ж рэдкасць, як геніі. І нашае пакаленне не мае права закідаць каменнямі сваіх папярэднікаў, толькі за тое, што яны ішлі на кампрамісы з камуністамі, фашыстамі і яшчэ іншымі ворагамі беларушчыны. А калі нехта памыляўся, шчыра верыў у Леніна і камунізм, то былі на гэта важкія прычыны: інфармацыйная блакада, бальшавіцкая селекцыя нацыянальнай спадчыны, "предание небытию" беларускіх герояў і мучанікаў, арышт іх творчых набыткаў, паходжанне "з сялянскай беднаты", дзе не было традыцыяў інтэлектуалізму і вопыту крытычнага адбору навязаных зверху каштоўнасцяў.

Калі ўжо шукаць вінаватых, то варта паглядзець шырэй і спытаць сённяшніх еўрапейскіх ліbeралаў і псеўдагуманістаў: чаму яны, сёння выступаючы супраць пакарання смерцю прафесіянальных забойцаў і гвалтаўнікоў (яны зрабілі са сваёй "прафесіі" бізнес), маўчалі, калі бальшавікі нішчылі і падаўлялі беларускую творчую эліту? (Мне здаецца, што і сёння яны зблізку не бачаць яе.) А між тым у іх была дакладная інфармацыя (вольны друк, патрыятычная эміграцыя, у рэшце рэшт разведка) пра зверствы ў СССР, генацыд і этнацыд. Чаму маўчалі, калі мучылі і забілі Максіма Гарэцкага? Маўчалі пра бальшавіцкія канцлагеры і этнацыд беларусаў.

Ёсць нешта істотна агульнае ў развагах маіх калегаў Сяргея і Валянціна: яны сур'ёзна кажуць пра беларускую савецкую літаратуру, савецкую культуру. Прызнаюць гэты шлюб па прымусу, гвалтоўную кантамінацыю. У Максіма Танка ёсць дань (вольная і нявольная) саветызму, камунізму, ленінізму. А душа ягонай творчасці, філасофія і паэтычная міфалогія — шчыра беларуская і хрысціянская — нават там, дзе ёсць матывы богаборчыя і антыцаркоўныя. Іх тут не больш, чым у еўрапейскай літаратуры рэнесансна-гуманістычнага кірунку. І паводле таленту Максім Танк — на ўзроўні сучасных лаўрэатаў Нобелеўскай прэміі, калі не вышэй некаторых з іх. Нават Броўка і Шамякін, не кажучы ўжо пра Куляшова і Панчанку — кожны па-свойму выявіў душу беларусаў.

А цяпер апошняе і самае галоўнае: дзякуючы "савецкай" літаратуры (а па сутнасці, антысавецкай, бо "саветы" з бальшавікамі не прызнавалі Беларусі), шырэй — беларускай філалогіі, нашая мова не пагасла, данесла свае кляйноты праз бальшавіцкае пекла да нас. Нават, калі гэта была мова-наркомаўка. Выправіць лягчэй, чым занава адрадзіць традыцыю. Асабліва, калі этнічнае ядро нацыі разбурана, і сёння "народ" не ўдзельнічае ў моватворчасці. За родную мову, літаратуру, нацыянальную дзяржаву беларускія патрыёты ўзыходзілі на Галгофу — цялесную і духоўную. Яны сведчаць, што беларуская мова і Беларусь усё яшчэ жыве.

Адным словам, дарагія калегі: "Адплыві на глыбіню і закіньце мярэжы свае для лову".

**Уладзімір КОНАН**

# Шукайце тое, што закране душу

Раней я слала вам свае "вершыкі", зараз пішу з іншай мэтай, хаця не — не з мэтай, мэты ў мяне дакладнай няма, проста не змагла ўтрымацца. Ведаеце, ледзь дачытала да канца... Я маю на ўвазе змешчаны ў "ЛіМе" за 9 студзеня "погляд" Сяргея Дубаўца. Увогуле "Погляд", "Меркаванне", — мае любімыя рубрыкі. Асабліва падабаюцца тут мне публікацыі Васіля Аўраменкі — дарэчы, майго земляка. Заўсёды марыла з ім пагутарыць, бо вельмі неяк аднолькава думаем мы па многіх пытаннях.

Але вернемся да "ружовага туману". Няпроста спрачацца са "знаўцам". Праўда,я не ведаю, хто ён, аўтар публікацыі. Мабыць, які-небудзь прафесар: ён нават не захоча мяне слухаць, але свой ліст я б хацела адрасаваць менавіта яму (вядома ж, рэдакцыя за чужыя погляды не адказвае). Мяне могуць абвінаваціць у недастатковасці ведаў, малым жыццёвым вопыце, што я не ведаю, што такое Савецкая ўлада, што такое таталітарызм. Але ў гэтым і мая перавага. Бо нельга сказаць, што я не "выбралася з савецкага кантэксту, з ружовага туману" — я ж не надта і паспела пажыць пры "клятай" Савецкай уладзе. Канешне, і мне яшчэ давялося выслухваць павучанні, кшталту: "Я сижу на вишенке, не могу накушаться, папа с мамой говорят: "Деда Ленина слушайся!" Або памятаю такі выпадак. Неяк глядзела на партрэт Леніна (тады ж ён у кожным класе вісеў), і захацелася мне намаляваць "вождя". Дык сяброўка, як убачыла, крычала нема: "Цябе ж у турму забяруць, як хто заўважыць. Леніна нельга маляваць!" Парвала і выкінула. Я спалохалася, а пасля думаю: "А што, калі хто ўбачыць, што яго — на кавалачкі?! Тады і яе, і мяне, і бацькоў забяруць". І думала гэта не з гневам, а з павагай нейкай і жахам, маўляў — сама вінаватая, што закон парушыла... Смешна? Гэта зараз. І таму, што на мой лёс адно адгалоскі выпалі (я 1979 года нараджэння). Што ж тады раней было?! Як убачыш што па тэлебачанні ці кнігу прачытаеш (той жа "Архипелаг ГУЛАГ" Салжаніцына) — валасы на галаве варушацца...

Але, паважаны аўтар, хацела б я паглядзець на Вас паўстагоддзя таму. Напэўна, сядзелі б у норцы і баяліся вылезці, слова гучна сказаць, бо тады ж і сцены вушы мелі. Наогул, чытаеш Вас, і ўзнікае думка, што самі Вы калісьці былі адным з тых, хто змагаўся за ўсталяванне Савецкай улады, ставіў людзей "да сценкі", бо нейкія ж у вас метады іхнія, бо злобы ў вас зашмат. Паслухаўшы Вас, трэба выключыць Брыля, Броўку, Коласа, Куляшова, Танка, Шамякіна... Ледзь не ўсіх. А каго ж пакінуць? Вас, ці што? Бо, калі так шукаць, як Вы, у кожным знойдзеш "Леніна".

І ў тых, хто да 1917 г. не дажыў, таксама што-небудзь знойдзецца, за што выкінуць, ці не так? Што ж застанецца ад беларускай літаратуры, за чысціню якой Вы гэтак змагаецеся быццам бы?

Вы ўсё раіце "перачытаць іхнія кнігі", гаворыце аб сучасным прачытанні. Я, можна сказаць, не так даўно і чытала. І што з таго? Ёсць вечныя пытанні, вечныя праблемы, якія ў любым прачытанні застаюцца вечнымі, асабліва калі пра іх пішуць сапраўды вялікія людзі, якімі былі многія з тых, пра каго Вы так зняважліва адгукаецеся. Каб сцвярджаць гэтак, як Вы, трэба зрабіць што-небудзь самому. А я Вас, прабачце, не ведаю, а іх ведаю і люблю. Каму ж больш верыць, каго слухаць? Памылкі робяць усе, не адмаўляць жа Маякоўскага за тое, што ён любіў савецкі пашпарт! Ёсць жа і ў яго радкі кшталту: "Значит это кому-нибудь нужно". Ёсць жа і ў Коласа "крынічкі вузенькае ложа". Ва ўсіх ёсць!

Адзінае, з чым я магу пагадзіцца, — трэ было б школьныя праграмы перагледзець. Бо калі чытаць "праграмнае", класікаў сапраўды можна ўзненавідзець — адна патрыятычна-грамадзянская лірыка. Столькі пафасу, што перастае быць цікавым. А для душы?! Бо школьнікі не разумеюць, а дакладней — не ўспрымаюць гэтага. Напачатку ім трэба пачытаць аб шчасці, аб каханні гэтага аўтара — тое, што бліжэй іх узросту. У бібліятэцы, аднак, толькі "праграмнае", толькі "барацьбінскае". Вось вучні і пачынаюць параўноўваць з той жа рускай літаратурай, задумваюцца: чаму нашы класікі аб вечным не пісалі? Але ж пісалі!

Вось гэта — трэба змяніць, але не саму літаратуру, яе не зменіш і не знішчыш. Ды і навошта?! Канешне, як у кожнага чалавека ёсць непрыемныя моманты ў жыцці, якія хочацца забыць і якія заўсёды выплываюць наверх, так і ў гісторыі, але перакрэсліць гэта не атрымаецца. Так што суцішце свой гнеў, ідзіце ў бібліятэку і пашукайце тое, што закране Вашу душу, пашукайце тых аўтараў, пра якіх Вы пісалі тут злобна, пашукайце ў Танка, Куляшова, Панчанкі, Брыля і іншых. Вы абавязкова знойдзеце і пераканаецеся, што ў той жа паэме "Голас сэрца" Броўка не "ачалавечвае бесчалавечнасць".

**Таццяна КРАСОЎСКАЯ**

*г. Магілёў*

**P.S.** Прабачце, калі што не так. Я не са злосці. Дзякуй вялікі "ЛіМу" за тое, што ён ёсць. Я вас шчыра люблю.

**Сёння на старонках "ЛіМа" дыскусію, распачатую Сяргеем Дубаўцом і Валянцінам Акудовічам, працягваюць прафесар Уладзімір Конан і чытачка Таццяна Красоўская.**

## Помнік Напалеону Ордзе



**У горадзе Іванаве ўстаноўлены помнік Напалеону Ордзе — кампазітару, мастаку, грамадскаму дзеячу, які нарадзіўся непадалёк адсюль у маёнтку Варацэвічы каля двух стагоддзяў таму. Імя яго доўгі час незаслужана было забыта, аднак у апошнія гады знакамітаму земляку прысвячаюцца пленэры, раённая бібліятэка вядзе пошук матэрыялаў пра яго. Сувязь з многімі архівамі Еўропы дазволіла атрымаць каштоўныя дакументы пра жыццё Напалеона Орды, копіі больш за двухсот літаграфій яго малюнкаў.**

*Фота Рамана КАБЯКА, БЕЛТА*

## Карты ў рукі

**У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі ладзяцца самыя розныя выставы, нярэдка і унікальныя. Менавіта такой з'яўляецца экспазіцыя "Польская картаграфія". Зразумела, цікава пазнаёміцца з рэдкімі картамі любой краіны, але ў дадзеным выпадку цікавасць — асаблівая. Справа ў тым, што створаная ў 1526 годзе ў Польшчы Бернардам Валноўскім карта лічыцца адной з самых старых на сённяшні дзень карт у свеце. Вялікую навуковую і, вядома, гістарычную цікавасць выклікаюць і іншыя аналагічныя выданні, сярод якіх "інтэнданцкая карта" Польскага каралеўства 1815—1830 гадоў, геаграфічна-статыстычны атлас Польшчы Э. Рамера 1916 года... Ды і куды больш "маладыя" карты, створаныя ў гэтай краіне, паспелі ўжо стаць рэдкасцю. Для прыкладу, карта Польшчы, да з'яўлення якой мае самае непасрэднае дачыненне Вайсковы геаграфічны інстытут. З'явілася яна ў 1939 годзе.**

**Знаёмства з выстаўкай у пэўнай ступені — і прыклад для пераймання. У сучаснай Рэспубліцы Польшча выпускам карт і іншых выданняў гэтага профілю займаецца некалькі выдавецтваў, прытым робіцца гэта на самым высокім картаграфічным узроўні, аб чым сведчыць "Атлас Рэспублікі Польшча", датаваны 1993 годам.**

**Н. К.**

## "Беларусь" — пра Беларусь

**Першы нумар часопіса "Беларусь" за сёлетні год адкрываецца развагамі Я. Сіпакова "Пакланенне святыням". Дапаўняюць іх каляровыя здымкі, якія падкрэсліваюць непаўторнасць яднання з духоўнасцю і вечнасцю. Фотанавела В. Жыліна "Успамін пра будучыню, або Развагі пасля наведвання Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту" не патрабуе тлумачэння, пра што яна. А. Шабалін разам з В. Жылінымі (фота) знаёміць з сучаснымі пагранічнікамі — "А ля нейтральнай паласы..." І ён жа выступае з нарысам "Усмешка Пэра". "Героі" нумара — мастачка А. Замай, драматург А. Дудараў, Дзяржаўны тэатр маладзёжнай эстрады Беларусі, Ліка. Змешчаны апавяданне Р. Баравіковай "Вушы", вершы Р. Тармолы-Мірскага, артыкулы В. Гапоненкі "Невядомыя нашы суайчыннікі", І. Баравой "Фальклор дапамагае стаць мудрэй", рэцэнзія на кнігу "Першыя людзі на зямлі Беларусі". У Беларусь дагістарычную дапамагае зазірнуць і матэрыял І. Масляніцынай "Таргітай — сын Прыпяці". А З. Шыбека ("Паміж Сцылай і Харыбдай") закранае падзеі больш блізкія нам — расказвае пра першы падзел Рэчы Паспалітай. Праблемы гісторыі закранае і Г. Штыхаў у гутарцы з С. Хатылёвай "Як разгараўся славянскі ўсход".**

# АД КРЫЖЫКА ДА КРЫЖА

*(Працяг. Пачатак на стар. 9)*

на цэлых дзесяць гадоў наперад. Яму ўявілася, што ў ягоных руках магутная зброя, ён выведзе чалавецтва на прамую дарогу (ён адзін такі!), выправіць усе людскія лёсы і памылкі, папярэдзіць глабальныя катастрофы. Ён ведае тое, да чаго чалавецтва марна цягнецца ўсю сваю гісторыю: яму адкрыта будучыня!

"Сівіл" зайшоў у парк, сеў на лаўку, агледзеўся. Лістота на дрэвах ужо кранулася жаўцізной, яшчэ тыдзень-другі і закруціць восень апалае лісце ў паветры, зашамаціць яно, зрудзелае і высахлае, пад нагамі праз месяц, а яшчэ праз колькі часу дрэвы будуць калыхацца агаленым сіратлівым голлем і чакаць першага снегу.

Лаўка. Колькі людзей будзе сядзець на ёй, пакуль струхлее з часам: па адным, па двое і трое; удзень, вечарам і ноччу; восенню, зімой і летам, у дождж і ў спякоту; маладыя, старыя і зусім яшчэ дзеці... Колькі людзей пераседзіць на гэтай лаўцы, пакуль яе нарэшце не звязуць на гарадскую звалку і не спаляць з-за непатрэбнасці? Увесь стракаты калейдаскоп падзей пракруціўся ў яго перад вачыма, як на кінастужцы. "А нехта ж сядзеў тут і да мяне, раней?" — падумаў ён, але мінулае маўчала, быццам ён толькі што нарадзіўся, літаральна сёння раніцай, калі ўбачыў побач з сабой незнаёмую жанчыну, усвядоміў сябе. "Сівіл" разглядаў драўляныя перакладзіны на спінцы, пафарбаваныя ў зялёны колер, і неўзабаве лаўка падалася яму знаёмай: па нейкай драпінцы, выпаўшым сучку пачынаў здагадвацца, што ён тут часта сядзеў раней. Пакрыху вярталася памяць: як маятнік вялізнага гадзінніка, хіснуўшыся ў адзін бок, даходзіць да самай верхняй кропкі, завісае на імгненне і зноў вяртаецца на свой след, так ён пачаў успамінаць сябе.

"Гэта ж мая лавачка! Я і ўчора тут прасядзеў паўдня?" Нібы выбліскам маланкі асвяціўся ўчарашні дзень — успомніў усё да драбніц, стала нават сорамна. Успомнілася пазаўчарашняе, і памяць панесла далей у пражытае: армія.... інстытут... школа (фрагменты, дробязі, урыўкі); садзік, калыска... Нараджэнне... дамавіна.... Цемра... Дамавіна? Пахаванне... Хаваюць мяне? Я заблытаўся: куды я — у будучыню, ці ў мінулае? Было ці будзе? Я?.. я... Я! Было! Я прыйшоў з цемры ў святло? Чаму так? Што гэта зноў? Зноў я? Дзед... дарослы... юнак... дзіця... смерць... Зноў у дамавіне? Дамавіна! Стары... дзіця... калыска.... дамавіна... Нараджэнне — смерць! Нараджэнне, смерць, нараджэнне... "Да таго, як я нарадзіўся, — я памёр?" — аформілася нарэшце пытанне. Памёр, а пасля гэтага нарадзіўся?.. Далей... Хутчэй! Яшчэ далей! Стоп! Назад! Хопіць! Толькі гэтае жыццё. Адсякаю лішняе. Забываю! Вось я, сённяшні! Як добра без цяжару! Як лёгка дыхаецца! Якое яснае сонца! Аблокі, як і тысячы гадоў назад тыя ж самыя. Я жыву! Я ёсць! Адзін...

Голуб падляцеў да ног, яго можна было дастаць наском чаравіка, калі выцягнуць нагу. "Сівіл" вывернуў кішэню і вытрусіў на далонь засохлыя хлебныя крошкі: "Цып-цып-цып!" — голуб адбег: смешна паварочвае галаву, пазіраючы на яго чырвоным вокам, асцярожна падбірае крошкі, што ўпалі на зямлю, а потым нясмела падкрадаецца, дзюбае ў далонь і тут жа, узмахваючы крыламі, шпарка адскоквае.

Ён шчаслівейшы чалавек, і ніякі не Сівіл, а звычайны беларускі хлопец: чаму ён усё лічыць сябе хлопцам, калі ўжо за трыццаць? А тоўстая кабеціна, што раніцай сварылася з ім — яго жонка Надзя. "Сцёпка, Сцёпка... — успомніў Віктар, — я ж не забраў яго ўчора з дзіцячага садзіка... Бедны мой хлопчык, напэўна, чакаў мяне, плакаў..."

Вось мой горад, мая сталіца, невялікі гарадок па сутнасці, але адсюль пачнецца!.. На памяць прыйшлі радкі Уладзіміра Караткевіча: "На Беларусі Бог жыве..." — і гэты Бог ён, Віктар Тарашкевіч! Ён выратуе ўсё чалавецтва! Зробіць усіх шчаслівымі! "На Беларусі Бог жыве! Людзі, чуеце, Бог жыве на Беларусі! — хочацца крычаць яму. — Гэты Бог — я, радуйцеся са мною". Вось чаму так пакутавала Беларусь? І Чарнобыль гэты, як коршак з чорнымі крыламі, упіваецца атрутнымі кіпцюрамі ў душы маіх людзей...

А вы ўцякалі, ганьбілі яе, — а яна, Беларусь, апляваная і зганьбаваная — выратуе вас усіх. Яна навучыць вас любіць! Святое нараджаецца ў муках, у пакутах павінна нараджацца новае. А вы гаварылі: няма такога народа, няма такой мовы... Вы адпрэчвалі яе і строілі кпіны... Эх, вы, паглядзіце на паэтаў беларускіх: птушкі маюць гнёзды, лісы маюць норы свае — адным ім, абылганым і зняважаным, няма месца на радзіме сваёй, адны яны, як выгнаннікі і пракажоныя сярод свайго народа. "А як жа з уваскрашэннем? Як падняць астатніх?" — падумаў Віктар. Кожны чацвёрты загінуўшы, кожны другі, магчыма, сагнецца ў пакаленнях пад цяжарам Чарнобыля. І раптам дзікая думка прарэзала яго свядомасць: іх жа няма, памерлых! Не было ніколі! Яны вандруюць па целах, нібы вязні па турмах. Галасы маіх продкаў крычма-крычаць ува мне, клічуць, просяць, патрабуюць уваскрашэння!

Вось ён, мой прадзед Іван, гаворыць мне, я гэта добра помню, хоць быў яшчэ зусім маленькім: "Дзіцятка, у табе маё спадзяванне і надзея — у гэтых мазолістых руках праўда зямлі і Божая праўда..." Ці не нам прамаўляў Ісус: "Я паслаў вас жаць, над чым вы не працавалі — другія працавалі, а вы прыйшлі на працу іх.... каб жнец і сейбіт разам радаваліся". Вось яны, дзяды мае: Мікалай і Пятро, клічуць мяне таксама, гукаюць з дамавіны: "Унучак, мы схадзілі за цябе на Калыму, мы адстаялі сваё і тваё чалавечае. Ці не мы вучылі цябе: не здрадзь! Не забі! Будзь чалавекам!.. Мы адпакутавалі за гэта, цяпер твая чарга: дапамажы нам падняцца!" О, як прыцягвае долу зямля і не дае ўзляцець у неба. Але ж і крылы дае зямля?..

Ці я не разумею штосьці?.. Госпадзе, памажы мне!

Віктар апусціўся наўколенцы і прыпаў тварам да зямлі. Рэдкія прахожыя здзіўлена азіраліся на яго. Адна малітва, адна спаконвечная малітва: Ойча... ды будзе воля Твая і на Зямлі, як на НЕБЕ...

Так-так, штосьці перакруцілі яны, спачатку і на зямлі, а потым ужо, як на небе — таму што там Яго воля заўсёды... Так даваў гэтую малітву Хрыстос, хто меў права вучыць інакш? Два словы пераставілі месцамі — і пекла падымаюць за аблокі...

6.

"Чаго я сяджу тут? Трэба ратаваць іх!"

Ён выбег на плошчу Перамогі: "Яны перамаглі тады, я павінен перамагчы сёння". Прайшоў па праспекце Францішка Скарыны: "Ён даў ім Божае слова на іхняй мове — яны чакаюць, што ім дам я". Каля пешаходнага перахода, што ля моста праз Свіслач, прыпыніў жанчыну, якая збіралася ўжо ступіць на дарогу, чакаючы святла.

— Жанчына!.. Тут не хадзіце, лепш падземным пераходам метро, тут блізка, два крокі.

# Немы крык...

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

чалавека гэтая лічба, пэўна, мала што гаворыць. Аднак жа дадам, што на Украіне яны дасягаюць 14—15, у Расіі — 16—17, у іншых краінах былога СССР і яшчэ вышэйшыя. У суседзяў, у краінах былога сацлагера, у Польшчы, напрыклад, паказчыкі такія ж, як і ў нас. Дык вось, калі зыходзіць з гэтага, дык можна сказаць, што здароўе нашых жанчын не горшае, чым дзе-небудзь у свеце. І мне прыемна адзначыць, што гэтыя досыць нізкія паказчыкі дзіцячай смяротнасці ў многім забяспечваем мы, медыкі. У іншых умовах, без адпаведных медыцынскіх захадаў і мерапрыемстваў, многія з народжаных дзяцей не выжылі б. Але, з другога боку, у гэтых выхаджаных клопатам і стараннямі медыкаў дзяцей верагоднасць захворванняў часцейшая, чым у здаровых дзяцей, якія пасля нараджэння развіваліся натуральна, без асаблівых намаганняў медыцынскіх работнікаў. Зыходзячы з гэтага, наша задаволенасць якасцю здароўя жанчын тут ужо меншая. Не сакрэт, што сёння пытанні паводзін моладзі і палавых, так званых рэпрадуктыўных паводзін не зусім адпавядаюць, так бы мовіць, біялагічнаму прызначэнню чалавека як віду і жанчыны як прадаўжальніцы віду. Высокая частата хвароб, што перадаюцца палавым шляхам, сярод моладзі прыводзіць да таго, што плод часта не даношваецца да тэрміну і ў час цяжарнасці назіраюцца розныя парушэнні ва ў яго ўнутрыўтробным развіцці. Апошнія акалічнасці і становяцца прычынамі таго, што дзіця пасля часта хварэе. І гэтая праблема ці не нумар адзін. Яна і медыцынская, і маральная. Мы тут сутыкаемся з вынікамі адхіленняў у паводзінах. Ранняе ўступленне ў палавыя сувязі, неперабарлівасць у палавых кантактах, розныя хваробы, якія перадаюцца ў выніку гэтага, — вось што шкодзіць здароўю маладых жанчын. Другі момант — незапланаваная цяжарнасць, якая найчасцей і заканчваецца абортам. Само сабою, аборты не дадаюць жанчыне здароўя. Так, некаторыя робяць па 4—5 абортаў і ўсё, маўляў, канчаецца добра. Гэта і так, і не так. Не кожная жанчына пасля аборта хварэе, але і здароўя ён нікому не дадаў. Аборт — гэта ўмяшальніцтва ў чалавечы арганізм, гэта хірургічная аперацыя. І вельмі сумна, што факты гавораць вось аб чым: рэдка якая жанчына ў нас не рабіла аборта.

Асабліва шкодны аборт для жанчын, якія яшчэ не раджалі. Перапыненне цяжарнасці, механічны гвалт, прыменены для выдалення зачатага плода, прыводзіць не толькі да пэўных змен у арганізме жанчыны, але і да тых ці іншых механічных пашкоджанняў яе ўнутраных органаў. У многіх жанчын, прынамсі, у пераважнай большасці іх аборт можа адмоўна паўплываць на наступныя цяжарнасці. Могуць быць выкідышы, дачасныя роды, недастатковае ўнутрыўтробнае сілкаванне плода кіслародам і іншымі спажыўнымі рэчывамі, слабасць родавых схваткак і г.д. Шкада, што ідучы на аборт, жанчыны не задумваюцца над усім гэтым, а пасля ўсялякія ўскладненні пры родах спісваюць на дактароў, на іх няўменне ці недагляд. Тое, што ў той ці іншай парадзіхі год-два назад быў аборт, які мог стаць прычынай гэтых ускладненняў, не бярэцца пад увагу.

Не магу не сказаць пра сітуацыю з выхаваннем палавых паводзін маладых людзей. Міністэрства адукацыі над гэтай праблемай працуе пастаянна, ёсць і спецыяльная школьная праграма па палавым выхаванні юнакоў і дзяўчат. Аднак жа робіцца ў гэтым напрамку відавочна недастаткова, наша грамадства ў гэтым сэнсе яшчэ не зусім вызначылася. Скажам, значная колькасць прадстаўнікоў рэлігіі лічыць, што пытанні палавога выхавання і асветы ўвогуле не павінны падымацца сярод моладзі, у прыватнасці, сярод школьнікаў.

А што да альтэрнатывы аборту, дык яна ёсць. Гэта прапаганда супрацьзачаткавых сродкаў. Яна робіць сваю справу. Калі нейкіх дзесяць гадоў таму ўнутрыматачныя спіралі для папярэджання цяжарнасці насілі 2—3 працэнты жанчын, дык сёння — каля 30 працэнтаў. Выпуск іх, дарэчы, наладжаны ў Віцебску і якасць іх адпавядае лепшым сусветным узорам. Больш даступнымі сталі механічныя сродкі кантрацэпцыі — у першую чаргу маю на ўвазе прэзерватывы, а таксама гарманальныя кантрацэптывы. Пройдзены ўжо бар'ер непрыняцця апошніх. Іншая справа, што не ўсе жанчыны могуць іх купіць — пакуль што яны вельмі дарагія.

**— А як наконт баек і чутак пра тое, што гарманальныя прэпараты шкодныя, што пагражаюць яны жанчынам самымі рознымі, прытым неверагоднымі наступствамі, такімі, як рост валасоў на руках і нагах, барады і вусоў?**

— Гарманальныя кантрацэпты павінны быць падабраны жанчынай разам з урачом, тады іх выкарыстанне будзе і эфектыўным, і бясшкодным. Калі ж жанчына пачынае сама падбіраць іх, і калі ў дадатак у яе ёсць тое ці іншае захворванне, тады могуць быць і пэўныя адмоўныя вынікі. Ва ўсялякім разе, апошняе пакаленне гарманальных кантрацэптываў забяспечвае жанчыне папярэджанне нежаданай цяжарнасці, што ўжо само па сабе важна. Але яшчэ больш важна тое, што іх гіпатэтычная шкода аніяк не супастаўляльная са шкодай, якую можа і часта прыносіць жанчыне аборт. Скажу больш. Гэтыя прэпараты засцерагаюць жанчыну на будучае ад раку яечнікаў, раку шыйкі маткі, малочнай залозы. І паколькі жанчыны нашы раджаюць рэдка, а роды, сама цяжарнасць валодаюць пэўным абарон-

— Чаго гэта? — здзівілася яна, перахопліваючы ў правую руку сумку з бульбай і кефірам.

— Пераходзьце там... Я ведаю, што будзе: калі вы не пойдзеце праз пераход — тут вас саб'е машына...

Жанчына вылупіла вочы на Віктара, угледвалася ў яго якую хвіліну, потым зноў перакінула сумку ў левую руку, а ўказальным пальцам правай, сагнуўшы яго крукам, пастукала тры разы па сваім ілбе.

— Ходзяць тут прыдуркі розныя, — твар яе агідна перасмыкнуўся, — лезуць у вочы!

Быццам плюнула яна Віктару пад ногі і пайшла, пайшла сваёй дарогай, ані кроку ўбок... "Куды ж яна? — падумалася Віктару. — Я ж ёй ясна сказаў: нельга!"

— Жанчына!! — прахрыпеў ён, і падалося: усё наваколле раскалолася ад грому ягонага голасу. — Жанчына! Вярніцеся!

— Адчапіся, балван! — кінула тая праз плячо. — Ходзяць тут, у псіхічку такіх трэба.

Віктар хацеў дагнаць яе і адцягнуць назад, але на імгненне зазірнуў у будучыню і зразумеў: дарэмна! Жанчына як ні ў чым не бывала шпацыравала на той бок вуліцы, дзе каля самай броўкі і павінна ўсё здарыцца... А вунь і машына ўжо ляціць з-за павароту. Віктар адвярнуўся, каб не бачыць...

Завіскацелі тармазы — кароткі ўскрык... Цішыня. Падалося на момант, што спыніўся час, а потым бягуць, бягуць людзі. "Жывая!.. Нічога з такой не здарыцца", — даляцела да Віктара з натоўпу. Ён хацеў падысці і прыпомніць жанчыне, што папярэджваў яе, дарэчы, няхай будзе праўдзівым сведкам яго прароцтва. Трэба збіраць іх, прароцтвы, каб паверылі. Зараз такая тэхніка: усё можна палічыць, усіх можна пераканаць. Сёння лягчэй, чым калісьці...

— Ды вар'ят нейкі, — ачомаўшыся, лямантавала жанчына, — прычапіўся, затлуміў галаву... А вунь ён стаіць! Лавіце яго! Трэба ў міліцыю здаць.

Віктар з усіх ног кінуўся назад у парк — "зарэгістраваць" сведчанне не ўдалося. Ён пачаў ужо сумнявацца: можа, і праўда, калі б ён не папярэдзіў жанчыну — не падляцела б яна пад колы? Можа, у гэтым здарэнні вінаваты і ён, дакладней: у аварыю быў упісаны і ягоны ўчынак? Аварыя магла б увогуле не здарыцца, калі б ён не дапасаваў да падзей сваёй волі? Але ж ён хацеў дабра.

Зноў усеўся на сваю лаўку, спачатку нервова і пужліва азіраўся па баках, баючыся, што яго сапраўды шукае міліцыя. А потым пачаў супакойваць: "Што я такога зрабіў? Не піхнуў жа пад колы тую жанчыну? Толькі папярэдзіў яе. Усё добра, — супакойваў сябе Віктар, — у мяне ж на лбе не напісана, што я ведаю таямніцу бягучых дзеянняў: будучыню. І хто паверыць такому?"

Віктар з лаўкі назіраў за тым, што дзеелася навокал, каб яшчэ раз пераканацца ў веданні будучыні. Вырашыў не ўмешвацца, а проста сачыць. Нейкая птушка прысела непадалёку на галінцы і пачала шчабятаць. "Зараз пераляціць вунь туды", — як бы падумаў-загадаў Віктар, напружана чакаючы, глядзіць на чырвоны клёнік, — і праз хвіліну птушка ўспырхвае і садзіцца якраз на тую галінку, якую ён свідраваў вачыма. Вунь за агароджай парку ідуць па тратуары насустрач два чалавекі, і ён наперад ведае, што зараз яны сустрэнуцца, пастаяць хвіліны тры і пойдуць далей разам да гастранома — так і ёсць. Колькі ні правяраў Віктар сябе — усё сыходзілася, як ён і прадбачваў.

Трэба ісці пагаліць твар, а то, сапраўды, падобны да вар'ята. Так здарылася, што па дарозе дахаты яшчэ раз хацеў папярэдзіць няшчасны выпадак. Толькі апусціўся на сядзенне, сказаў жанчыне, што сядзела побач, каб яна асцярожней выходзіла з аўтобуса — тая здзіўлена паглядзела на яго і толькі рассмяялася.

— Шкада, але вы прыпазніліся крыху, я ўжо замужам.

— У вас будуць непрыемнасці, калі не паслухаецеся... Лепш праз заднія дзверы выходзьце, раптам абыдзецца.

Яна ў адказ зноў рассмяялася, Віктар зразумеў: гаварыць і даказваць — марна. Некалькі разоў спрабавала наладзіць размову, але ўсе сем прыпынкаў Віктар маўчаў. Урэшце, збіраючыся выходзіць, жанчына гулліва паглядвала на яго, стоячы каля сярэдніх дзвярэй. А як толькі выскачыла з аўтобуса — нага нязручна крутнулася на броўцы і, растапырыўшы рукі, яна паляцела потырч. Аўтобус яшчэ з хвіліну стаяў, і Віктар бачыў, што нейкі мужчына ў шыракаполым капелюшы падбег да яе, дапамог падняцца, а яна, стогнучы і вохкаючы, прыціскала да грудзей зламаную руку. Віктар ведаў, што ў Першай хірургічнай хутка ёй накладуць гіпс, праляжыць яна каля двух месяцаў, таму што костка доўга не будзе зрастацца, што за гэты час муж пачне гуляць і праз паўгода яны развядуцца, — а пакуль Віктар глядзеў у яе вочы, поўныя нянавісці і злосці. Яму стала прыкра ад гэтага позірку і ён апусціў галаву.

Заглянуў у будучыню: чаму так? Яму не верыць! Ім непатрэбны гэтыя веды. Ён прадказвае аўтакатастрофы, і сам жа застаецца вінаватым, і ўсё роўна гінуць людзі — усё ідзе так, як і павінна было ісці без яго. Жыццё пячэ сваім ходам. Ну і што з таго, што ён ведае за дзень ці за год аб трагедыі? Яго высілкі застаюцца безвыніковымі, ён не можа змяніць анічога. Не мае ўлады над будучым, нават ведаючы яго, таму што, каб змяніць заўтра — трэба, каб людзі змяніліся ўнутры сёння. Аказалася, што веды — гэта нуль. Голыя веды не маюць сілы, патрэбна вера, вера тысяч і тысяч людзей — нішто іншае не можа змяніць свет. Патрэбен страх Божы! "Чым устрашыць іх?!"

Ёсць лёс, наканаванасць, ёсць жудасныя пераплеценні мільярдаў прычын і следстваў, канцы якіх губляюцца ў дагістарычным мінулым. Выходзіць, для таго, каб выратаваць людзей сухагруза "Эстонія", трэба, каб пятнаццаць вякоў назад вікінг Берг пайшоў у панядзелак направа, а не ўлева — тады б ён сустрэў Яску з праславянскага племені і ажаніўся б з ёй. У шэсцьдзесят сёмым пакаленні у іхніх патомкаў нарадзіўся б чалавек, які быў бы зараз міністрам грамадскага флоту Эстоніі, і ён своечасова паставіў бы сухагруз на рамонт. Але паўтары тысячы гадоў таму, ранкам, у панядзелак, вікінг Берг пайшоў налева і не сустрэўся з Яскай, у іх не нарадзіліся дзеці — такога міністра ўвогуле ні ў Эстоніі, ні ў Галандыі, ні на ўсёй зямлі няма. Чалавецтва з мільярдаў магчымых шляхоў ступіла і прайшло адным. Той шлях, вынік якога без аварыі, — не пройдзены чалавецтвам, таму што вікінг пайшоў налева. Каб прадухіліць гібель сотні, нават аднаго чалавека, трэба перапісаць гісторыю ўсяго чалавецтва, трэба, каб мільёны людзей, што жылі некалі на зямлі, па-новаму пражылі свае жыцці з папраўкай "Берг пайшоў направа" — і толькі тады было б іначай...

О ты, загадкавы вікінг, дзе шукаць цябе? Якімі пяскамі пазаносіла твае сляды? Якія ветры цалавалі тваю галаву? Чаму ж ты пайшоў не ў той бок? Чаму не сустрэўся з Яскай? Але ж і яна магла пайсці ў другі бок? Ад Яскі таксама залежала: быць ці не быць аварыі. У дваццаць чатыры бакі магла яна пайсці — і дваццаць чатыры разы па-новаму крутнулася б гісторыя ўсяго чалавецтва: так ці гэтак. І толькі тады было б іначай. Але гэта ўжо была б новая гісторыя, новыя, іншыя людзі, і нас з вамі, магчыма, і не было б на свеце.

Маем тое, што маем — і ў няшчасці, у горы, і ў смерці ўсякага чалавека, кожны з нас вінаваты асабіста. Няма чужой бяды. Калі мы пад адным сонцам — няма! Усе мы знітаваны паміж сабою, як пупавінай, звязаны крэўнай і роднаснай сувяззю, і таму, напэўна, так шчымiць сэрца, калі рухаецца па вуліцы пахавальная працэсія, або чуецца жалобная музыка пахавання, таму ные ў грудзях, што разумеем: нас стала менш. Мы адчуваем сваю віну перад памерлым: а раптам, калі б мы ведалі яго, калі б сустрэліся з ім раней — ён мог бы яшчэ жыць? Адчуваем смутак, бо гэты чалавек, якога вязуць на катафалку, ніколі не падорыць нам ужо радасці, не ўсцешыць у горы, не дапаможа — ён назаўсёды пайшоў ад нас, навекі сыходзіць з гэтай зямлі... Нас абкрадае кожная смерць: ці паміраe чалавек на Далёкім Усходзе, ці на Ямайцы, ці ў цэнтры Еўропы — усё адно нейкая крупінячка нашай душы, патэнцыяльная магчымасць, маленькі зародачак чагосьці адмірае назаўсёды, так і не рэалізаваўшыся. Кожны чалавек унікальны і непаўторны, і толькі ён мог бы абудзіць вось гэтую часцінячку нашай душы, якая, не развіўшыся, навекі памерла ў нас разам з яго смерцю...

7.

Віктар пагаліў твар, потым спаласнуўся пад душам, апрануў белую кашулю, гальштук і свой адзіны прыстойны, як ён любіў жартаваць, шлюбны касцюм. Аўтобуса доўга не чакаў, ён падышоў адразу.

Жонка сядзела ў загсе і ўжо каторы раз перапісвала нейкую паперку. Віктар убачыў яе, як толькі адчыніў дзверы: яна сядзела спіною да дзвярэй, але спераду, перагароджваючы доўгі стол напалавіну, люстэркам адсвечвала шкло, у якім адбіваўся яе заплаканы твар.

Віктар ціха падышоў збоку і апусціўся каля яе на калені. Маўчаў. Яна гладзіла яго па валасах і ніяк не магла супакоіцца. Потым скамячыла паперкі і кінула іх пад стол у сметніцу: "Пойдзем!" Праз пяць хвілін яны выйшлі на шумную вуліцу: іхнія вочы свяціліся шчасцем — можна было падумаць: толькі што пажаніліся.

Вечарэла. Сонца пачынала хавацца за высокімі гмахамі дамоў. Людзі, спяшаючыся з працы, штурмавалі аўтобусы, нырялі ў пашчы падземных пераходаў і заварочвалі ў расчыненыя дзверы гастраномаў і камерцыйных лавак. Усе абганялі Віктара з Надзяй — яны ішлі нетаропка і здзіўлена глядзелі на мітуслівых і паспешлівых людзей.

— Давай ніколі больш не спяшацца, — сказала яна.

— Давай, — кінуў ён у знак згоды галавою. — Надзя, а дзе ты Сцёпку пакінула?

— У суседзяў... — яна памаўчала з хвіліну, а потым, нібы ўспомніўшы, дадала. — Я нічога ім не растлумачвала, проста папрасіла, каб паглядзелі.

— Ну і добра. Малайчына! — сказаў Віктар, прыхінаючы яе да сябе.

---

чым уздзеяннем на органы рэпрадуктыўнай сістэмы жанчыны, дык прыём гэтых засцерагальных гарманальных таблетак стварае ў арганізме жанчыны стан, кшталту цяжарнасці, само сабою — псеўдацяжарнасці. Не буду тлумачыць падрабязна, як гэта адбываецца, скажу толькі, што ўсе рэчывы, якія ўтрымліваюцца ў таблетках, і забяспечваюць жанчыне гэтую, згаданую мной, абарону.

**— Дзмітрый Міхайлавіч, а якое становішча з абортамі ў рэгіёнах Беларусі, у правінцыі?**

— Мінск і рэгіёны па колькасці абортаў практычна не адрозніваюцца. Само сабою, паколькі Мінск — горад моладзі, студэнцтва, тут частата нежаданых цяжарнасцяў, само сабою, большая, чым у сельскай мясцовасці. Гэтак было спрадвеку. Урэшце, гэта мае паводзінскі — па-руску, поведенческий — характар. На вёсцы, як кажуць, усё навідавоку, там усё відаць і чуваць і ўсе ўсё ведаюць, а тут, у горадзе, нічога не чуваць і не відаць і ніхто нічога не ведае, як толькі ты выйшаў з дому.

**— Які ўзрост жанчын, што рашаюцца на аборт?**

— Розны. Ужо ў 13—14 гадоў дзеці становяцца сексуальна-актыўнымі, і ў гэты перыяд верагоднасць для дзяўчынкі зацяжарыць вельмі вялікая, і такія выпадкі, на жаль, досыць частыя. А ўвогуле, працэнтаў 70 ад усіх абортаў робяць усё ж замужнія жанчыны.

**— З праблемай абортаў здароўе дзяцей аніяк не звязана? Пытаюся пра гэта, бо, ведаю, зараз нараджаецца нямала хворых немаўлят. А паводле статыстычных дадзеных з 1985 па 1997 год больш чым 60 працэнтаў будучых маці рэспублікі ставіцца дыягназ "ускладнёная цяжарнасць".**

— Так, сапраўды, з тысячы нованароджаных дзяцей недзе 180—200 маюць патрэбу ў спецыяльнай медыцынскай дапамозе, астатнія могуць абысціся звычайным доглядам. Прычыны хвароб немаўлят розныя, вядома, аднак значная частка іх самым непасрэдным чынам звязана са здароўем маці, гэта значыць, яе паводзінамі, яе харчаваннем, яе адносінамі да цяжарнасці. І ў сувязі з гэтым паўтару тое, што казаў ужо: аборты, якія папярэднічалі родам, не дадаюць здароўя будучай маці і яе дзіцяці, наадварот — толькі шкодзяць.

**— Што робіць медыцына, каб развеяць міф, што аборт — лёгкая аперацыя, што гэта наогул нават не аперацыя, а так сабе, звычайная ін'екцыя, укол?**

— Медыцына, медыкі робяць дзеля гэтага ўсё, што толькі могуць. Мы праводзім сярод насельніцтва шырокую растлумачальную работу, выступаем па радыё, тэлебачанні, у друку. Стараемся данесці да моладзі і дарослых, сталых людзей, што аборт — гэта не толькі фізічныя боль і пакуты, але і глыбокая псіхалагічная траўма для жанчыны. Як бы там ні было, а большасць з тых, што рашаюцца на аборт, усведамляюць, што з іх арганізма выдаляецца, забіваецца штосьці жывое. Таму нават цяжка вызначыць, які фактар тут пераважае — фізічны ці псіхалагічны. Мне думаецца, што для жанчыны ўсё ж большая псіхалагічная нагрузка.

**— Дзмітрый Міхайлавіч, выбачайце, але хачу задаць вам далікатнае пытанне: што вы адчуваеце, якое пачуццё звядваеце ў час аборта?**

— Цяжка пра гэта гаварыць. Усе думкі ўрача скіраваны на тое, што не нашкодзіць жанчыне, яе будучаму здароўю. Гэта — з аднаго боку. Але ж ты бачыш, што робіш, што выдаляеш з улоння жанчыны, і гэта страшэнна прыгнятае. Псіхалагічныя нагрузкі велізарныя... Я, прызнаюся, даўно перастаў рабіць аборты, гэтак ужо склаўся мой лёс, гэткім бокам павярнулася мая кар'ера. Але ж калі ўрач працуе ў аддзяленні, ён не мае права адмовіць жанчыне, якая настойвае на абортe. Бо ў адваротным выпадку яна зробіць гэта ў іншым месцы, нават падпольна, што можа скончыцца для яе трагедыяй, нават смерцю. Мы, урачы, заўсёды, як кажуць, на фінішы, да нас прыходзяць жанчыны пасля крымінальных абортаў. Дзякаваць Богу, апошніх у нас мала. Калі 10—12 гадоў назад ад крымінальных абортаў у Беларусі памірала 15—20 жанчын, то ў апошнія гады — 2—3 жанчыны. Як ні горка пра гэта гаварыць, але такія выпадкі ўсё яшчэ надараюцца.

**— Забарона абортаў не чакаецца? Вопыт Польшчы не спакушае ці, наадварот, адштурхоўвае?**

— Не, забароны не чакаецца. А што да Польшчы, дык і там суцэльнай забароны не існуе. Яны трошкі змякчылі свой закон, пачалі сяды-тады дазваляць рабіць аборты, бо строгая забарона ставіць жанчыну ў крымінальную сітуацыю, штурхае яе туды. А заадно штурхае на злачынства і ўрача. Гэта ж было: цэлыя абортт уры з Польшчы ладзіліся ў нашы Брэст і Гродна.

**— І апошняе, Дзмітрый Міхайлавіч. Аборты ў нас, як і іншыя формы медыцынскай дапамогі, бясплатныя, а кантрацэптывы не тое што не бясплатныя, а надзвычай дарагія. Ці не лепш было б зрабіць наадварот?**

— Гэтая праблема абмяркоўваецца. У гэтым ёсць пэўная логіка. Маўляў, калі аборт будзе дорага каштаваць, жанчына задумаецца... Аднак як ўсё гэта няпроста. А што рабіць беспрацоўнай жанчыне, студэнтцы, наогул малазабяспечаным? Чым плаціць за дарагую аперацыю? Увядзенне платы можа выклікаць вялікую хвалю незадаволенасці. Папярэджанне незапланаванай, нежаданай цяжарнасці, а не яе перапыненне аперацыяй аборта павінна стаць галоўным у сексуальных паводзінах і маладых, і сталейшых людзей, якія павінны думаць не толькі пра задавальненне сваёй жарсці, але і пра здароўе сваіх каханых і жонак, пра здароўе сваіх будучых дзяцей. У рэшце рэшт, усе мы належым да гома сапіенс — да людзей разумных.

**— Быццам бы так, Дзмітрый Міхайлавіч. Дзякуй вам за гутарку!**

**Марыя МІХАЙЛАВА**

---

ЗНАХОДКІ

# Рукою Зарэчнага

У Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь знойдзена аўтабіяграфія пісьменніка Цімоха Міронавіча Рублёва, які ўвайшоў у гісторыю беларускай літаратуры пад псеўданімам Цімох Зарэчны. Аўтабіяграфія дапамагае ўзнавіць яго жыццёвы шлях, упершыню давядацца пра час і месца нараджэння творцы.

## АЎТАБІЯГРАФІЯ

Нарадзіўся ў 1909 г. у в. Будзіна, Дрыбінскага раёна, Магілёўскай вобл.

Пасля сканчэння пачатковай школы вучыўся ў Радамльскай школе I ступені (1920—1924 гг.).

У 1928 г. паступіў на III курс Мінскага рабфака, а пасля сканчэння яго — у Мінскі вышэйшы педагагічны інстытут (1930). Скончыў інстытут у 1933 г. У тым жа годзе пачаў працаваць у Беларускім Радыёкамітэце ў аддзеле мастацкага вяшчання літаратурным супрацоўнікам.

У 1935 г. паступіў на працу ў Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі ў якасці стыльрэдактара мастацкай літаратуры, а ў 1936 г. — на працу выкладчыка беларускай мовы і літаратуры ў 3-яй вячэрняй сярэдняй школе г. Мінска. Працаваў выкладчыкам да 1940 г. Адначасова з выкладаннем у 1936—39 гг. працаваў у Інстытуце школьнае педагогікі ў бюро кансультацыі настаўнікаў. Апошні перадваенны час зноў працаваў у Беларускім Радыёкамітэце ў аддзеле мастацкага вяшчання літаратурным супрацоўнікам. Зараз працую ў выдавецтве.

Ц. Рублёў

10/1-42 г.

**Публікацыя Святланы КНЫШ і Віталя СКАЛАБАНА.**



ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**
**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Мікола ГІЛЬ** — *намеснік галоўнага рэдактара*
**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,**
**Жана ЛАШКЕВІЧ,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Барыс ПЯТРОВІЧ** — *першы намеснік галоўнага рэдактара,*
**Юрась СВІРКА,**
**Віктар ШНІП** — *адказны сакратар*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 2332-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2332-525, 2331-985
**АДДЗЕЛЫ:**
публіцыстыкі — 2332-525
пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985
літаратурнага жыцця — 2332-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985
паэзіі і прозы — 2332-204
музыкі — 2332-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2332-153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2332-462
навін — 2332-462
мастацкага афармлення — 2332-204
фотакарэспандэнт — 2332-462
бухгалтэрыя — 2682-667



**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 4498
Нумар падпісаны ў друк 12.2.1998 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 999
Заказ 780/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ПОГЛЯД

# Колькі трэба грошай, каб пісаць вершы?

## ПАРАДЫ "БЫВАЛАГА ЧАЎНАКА"

НЕ БУДЗЕМ ПАЭТЫЗАВАЦЬ усеагульную нішчымніцу, не будзем безвынікова выварочваць кішэні і па-інтэлігенцку бездапаможна выхваляцца напаўпустым спажывецкім кошыкам. Пагаворым пра рэчы канкрэтныя, жыццёвыя, а таму не вельмі прыемныя. Пагаворым пра грошы. А дакладней, пра складаныя шляхі іх сумленнай здабычы. Браты Абломавы, родныя, з канапы можна не падымацца, просьба адзінае: прачытайце-выслухайце да канца. Прыцісне — мабыць, спатрэбіцца...

На сцягу доблеснай інтэлігенцыі нятускным золатам на стагоддзі выбіта: "Хто вінаваты?" і "Што рабіць?" Першае пытанне, як рытарычнае (а таму пустое), адкінем убок. Ворагаў вакол сябе мы прызвычаіліся шукаць амаль прафесійна. Дарэмная справа — абвінавачваць у сумным настроі кепскае надвор'е. Ды і часу для вырашэння другога пытання не хапае з-за гэтага хранічна. Так што ўладкуемся на канапе паўтульней, прысунем да грудзей талерку і, сёрбаючы крупнік і назіраючы адным вокам за чарговым серыялам, яшчэ раз задумаемся над сэнсам жыцця...

— Колькі вам трэба для поўнага шчасця, Шура? — запытаўся аднойчы ў Балаганава Астап Бэндар.

— Пяць тысяч!

— У месяц?

— У год!

— Мне з вамі не па дарозе, — катэгарычна зазначыў вялікі камбінатар.

Фільтруючы класіку праз сістэму нашых грашовых рэформаў, далучаемся да катэгарычнасці Астапа: і нам з Балаганавым на сёння не па дарозе. Да азначанай сумы яшчэ б столькі нулёў, а атрыманае — на кожнага члена сям'і ў месяц, тады б, глядзіш, і памякчэла на душы.

Добры знаёмы, таксама былы інтэлігентны чалавек (бо зараз дбае не столькі пра дзяржаву, колькі пра яе частку ў выглядзе сына і дачкі), літаральна біўся галавой аб аконную шыбку, пазіраючы на чарговую вулічную разборку, у час якой маладыя "скураныя" і чырванатварыя з дзвюх груповак-саперніц нагамі і рукамі ледзьве не па-парламенцку змагаліся за штосьці сваё, кроўнае:

— Мне б толькі мільён зялёных! Толькі б мільён! Каб не працаваць на гэтае жлаб'ё, каб не прыніжацца на халтурах і падпрацоўках!

Астап Бэндар ведаў чатырыста параўнальна сумленных спосабаў ад'ёму грошай пры адносным сяброўстве з Крымінальным кодэксам. Але ці можа задаволіць гэтае адноснае сяброўства хоць і былога, але яшчэ вельмі інтэлігентнага чалавека. Так, ён у большасці сваёй хоць і блытае націскі ў расійскім вымаўленні, "русафобіць", слібізуючы па-беларуску, але яшчэ год пяць таму гора суседа ўспрымаў амаль як сваё, свята верыў, што і ад яго душы, розуму і сэрца штосьці на Беларусі ды залежыць. Аднак адзенні, якімі б белымі яны ні былі, патрабуюць рэгулярнай пральні. А калі з мыючымі сродкамі для падтрымання духоўнай чысціні — невырашальная праблема, то танюткая скура інтэлігентнасці (падпарадкоўваючыся, відаць, агульным законам "сацыяльнай заалогіі") мімікрыруе, дубее. Былы грамадзянін, як любіць разважаць адзін філасоф-гандляр, вельмі лёгка становіцца часткай натоўпу, загані яго толькі ў кут безвыходнасці, і праз хвіліну столькі праяў статкавых інстынктаў убачыш, што хоць калекцыю збірай. Дык чым сёння грамадства ад натоўпу адрозніваецца?..

Словам, становімся прагматыкамі, дзяржаву імкнемся пракарміць, апрануць і абагрэць праз уласную сям'ю, копім грошы на замок, умацоўваем дзверы, марым пра мільён...

— Не, лімон зарабіць можна, — горача дыскутуюць настаўніцы матэматыкі, таксама добрыя знаёмыя. — Але для гэтага трэба кагосьці забіць! А што загадаеш рабіць з маральнымі прынцыпамі? Так што забойствы пакуль не для нас... Можна целам гандляваць. Але дзе яно ўжо, тое цела? Робім вывад: пры адсутнасці крыважэрнасці і сексапільнасці, але пры наяўнасці хоць і эпізадычнага, але іншым разам вельмі вострага жадання "кушать" застаецца толькі адно... чакаць лепшых часін...

Але, паважаныя Абломавы, чакаць, згадзіцеся, няма ўжо ні сіл, ні часу. Неадкладна глянуце на сваіх дзетак вачыма бацькоў. Не губляйцеся, успомніце, як гэта робіцца... Ну, што здзівіліся? Так, дзеткі ўжо неяк неўпрыкмет выраслі і пазіраюць на нас з надзеяй. Не будзем жа іх падманваць. Падымем самі сябе (як бы працаёмка гэта ні было) з утульных ложкаў і канап... Панікоўскі (так, той самы, з гуссю) накіроўваў Балаганава ў Кіеў, каб Шура сам мог пераканацца ў колішняй жыццёвай разваротлівасці чалавека без пашпарта... Мы ж накіруемся ў Польшчу. Мільёна не абяцаю, але галадаць, як пераконвае ўжо знаёмы вам філасоф-гандляр (наш сённяшні экскурсавод-інструктар), тыдні са два не будзеце.

Але давайце напачатку пазнаёмімся бліжэй з гэтым чалавекам, які ўжо тры гады запар спрабуе апрануць дзяржаву праз сваю сям'ю. Завітайце на любы рэчавы рынак Беларусі. Абавязкова сустрэнеце падобнага на яго. Адносна малады (дзесьці не вельмі за трыццаць), рухавы і энергічны (служба ў марской пяхоце ці ў дэсантных войсках не прайшла дарэмна), любіць цытаваць Маркса і Сартра (выдаткі вышэйшай адукацыі). Спіс прафесій самы што ні ёсць мужчынскі. Ну хаця б такі: слесар, муляр, вальшчык лесу, рабочы бурыльнай устаноўкі. Хоць паводле дыплома ён настаўнік, але, як правіла, настаўнік з такіх не атрымліваецца. У рамках наскрозь савецкай сістэмы народнай адукацыі імгненна губляе апетыт і рэшткі спадзяванняў на лепшую ў творча-бытавых адносінах будучыню. Калі не вельмі заняты гандлем і матляннямі па свеце, можа пісаць вершы. У атачэнні сям'і пры наяўнасці мінімуму грошай паводзіць сябе пяшчотна і ціха, пры іх адсутнасці — нервуецца ў пошуках сродкаў для гандлёвай вандроўкі за межы радзімы. Не п'е і не курыць, кампенсуючы гэтыя недахопы актыўным ужываннем ненарматыўнай лексікі. Збіральны вобраз былога інтэлігентнага чалавека гатовы. З такім, як кажуць, хоць на вайну, хоць у сваты. Ну дык у добры шлях, каб раз і назаўжды звесці да нуля гэтае брыдкае інтэлігенцкае пытанне: "Што рабіць?"

— Спачатку самае галоўнае — у саплях не заблытацца, — з крыху салдацкім гумарам, але з нейкай бацькоўскай цеплынёй падтрымлівае наш спадарожнік.

Сапраўды, з пакупкай білетаў на Польшчу марудзіць не варта. Чэргі нам яшчэ надакучаць. А таму хуценька ў восьмую касу сталічнага аўтавакзала. І вышэй галаву! Вы прыватны прадпрымальнік. Дома, на рынку, у паўпустой палатцы вас з таварам чакае жонка, а ў роднай двухпакаёўцы — сынрокер (брокер у будучым, калі не падвядзе "зашмальцаваны" гандлёвым жыццём бацька). Масты спаленыя, адступаць няма куды.

Хутчэй даставайце з кішэні дзесяць долараў і сто тысяч беларускімі. Білет да Беластока ваш, калі не забыліся на ваўчар. Для тых, хто нарадзіўся хвіліну назад, тлумачу: ваўчар — паперка коштам у 700 тысяч, якая дае часовае права беларусу адчуць сябе палякам. І не трэба іранізаваць, успамінаючы бесперашкодную вандроўку Скарыны да Падуі. Ваўчар — паперка постсавецкая, а таму пошукі яе асэнсавання вядуць у нікуды, як, дарэчы, і разважанні наконт таго, чаму яшчэ да новага года каштавала яна амаль у дзесяткі разоў танней, чым зараз.

Ніякіх пазалішніх думак! Аўтобус рушыў у бок Гродна. Ужо адгучалі ў падсвядомасці апошнія акорды настальгічнага паланезу, і вы зараз — прэч лірыку — толькі машына па здабычы сямейнага дабрабыту. Пяць гадзін да Гродна, гадзіну да Беластока трэба думаць толькі пра захаванне афіцыйнай паўтысячы долараў — усяго вашага стратэгічнага залатога запасу, пазычанага па частках у сяброў і сваякоў і эканомленага на школьных сняданнях сына. Так, так, пазычанага і эканомленага і ў гэты раз, бо вольных грошай у гандляра няма: усё ў тавары. І не шкадуйце тых, хто вязе больш азначанай сумы. Афармленне банкаўскага дазволу каштавала ім немалых нерваў (ды і не толькі!), якія вам яшчэ спатрэбяцца. Хаця б для таго, каб перачакаць-перацярпець па дзве пагранічна-мытныя праверкі з нашага і польскага бакоў (у сярэднім гадзінадзве часу). Беражыце нервы — за вашай душой нічога супрацьзаконнага.

Вось і Беласток. Любавацца горадам будзеце на пенсіі. Хуценька хапайце білет на зваротны шлях (пажадана на гэты ж дзень, бо расходы на начоўку ў замежжы — не па кішэні). Гарантыя на сённяшняе вяртанне абыдзецца вам у 60 злотых па новаму курсу — недзе 17 долараў. Да гарадскога рынку можна дабрацца на грамадскім транспарце, калі ў вас сталёвыя нервы і ўнушальныя мускулы. Не, незаўважны напад мясцовых злодзеяў-кішэннікаў можа і абмінуць. Але не забывайце, што дома вас вельмі чакаюць.

— Так, так, на таксі лепей, — падтрымлівае шматвопытны гандляр-спадарожнік. — Гарантый болей на добрае здароўе.

Сапраўды, эканоміць тут не варта, хоць і бяруць беластоцкія "фурманы" з нашых удвая больш (да 15 злотых), чым з мясцовых. Галоўнае, што вашы пяцьсот долараў вось яны — ужо на рынку. І тут уважліва прыглядайцеся да нашага знаёмага. Той яшчэ штукар! За тры гады знаёмстваў карысных сярод тутэйшых назапасіў шмат, выгоду ад гэтага выкарыстоўвае максімальную.

Па-першае, набыты тавар не цягае за сабой на тачцы, рукі не адрывае, сілы беражэ, пакідаючы купленае да часу тут жа, дзе купіў. Абегчы потым усіх ды загрузіцца — справа паўгадзіны.

Па-другое, тавар выбіраецца не першы, які пад руку натрапіў. Асартымент выверан і прадуманы яшчэ ў Мінску, усё зверана па магчымасці з капрызамі попыту сярэдняга па кішэні беларускага пакупніка. Гэта тры гады таму на Беларусі ўсё польскае раскуплялася без агляду. Зараз нават вопытнаму гандляру-палатачніку ў хвіліну поспех праміргаць можна. Схапіў ты, скажам, на польскім рынку турэцкія хусткі па 250 тысяч, прывёз іх у Мінск у прадчуванні хуткай камерцыйнай удачы і... аслупянеў, убачыўшы, што твой мінскі калега прадае такія ж хусткі побач з тваёй палаткай па гэткай жа цане. Вось і няўлічаныя страты. А колькі жаночых асенніх ботікаў (ведаю гэта дакладна) скапілася ў нашых мінскіх гандляроў, бо перашкодзіў іх бойкаму па першым часе продажу ранні мароз.

Так што, прыглядзьцеся, тавар бярэцца не абы-які. Буйны, сярэдні і дробны па памерах. Дробнага болей, хоць вельмі нязручны ён пры перавозках. Апрача адзення і абутку, шмат пластмасавых вырабаў для кухні. Потым ужо, на зваротным шляху, калі крыху паспакайнее на душы, наш знаёмы паразважае з вамі на конт канстанты залатога сячэння, закона Фібаначы, растлумачыць, што колькасць і ў гандлі заўжды гарантуе якасць.

Не будзе асаблівым дзівам, што ён, як і многія камерсанты, закончыў курсы менеджменту (няхай Бог даруе мне за гэтае слова). А таму пазірае на сучасны прыватны гандаль без ценю ілюзій.

— Ці ёсць карысць ад гэтых курсаў? — перапытае ён. — Вывучалі на іх да драбніц замежную эканоміку. А ў нас ці была яна? Самыя эфектыўныя курсы звесці на Беларусі трэба да адзіных практычных заняткаў: паставіць чалавека перад сталом з ежай, толькі той руку працягне — бізуном па ёй! Хто паспеў схапіць і па руцэ не атрымаў, той і курсы закончыў, той і да гандлю ў нашых умовах гатовы!

Тэарэтычна-пазнавальная вандроўка наша заканчваецца. Вось і родны Мінск. Тут самае галоўнае яшчэ раз зверыцца з кішэннай бухгалтэрыяй: ці заплаціў ты свайму выканкаму і адміністрацыі рынку за арэнду гандлёвага месца (каля трох мільёнаў штомесяц), ці хопіць назаўтра грошай на паліва для машыны, каб падвезці тавар ад дома да ўласнай гандлёвай палаткі. Калі няма з гэтым праблем, калі ніхто з чыноўнікаў не намякае на непрадбачаныя абставіны, пазбавіцца ад якіх можна толькі шляхам непрадбачанага фінансавання, то, калі ласка, удачы вам на рэчавых рынках сталіцы.

— Не падумай, што мы шыкуем, — запэўнівае камерсант. — Усе грошы ў таварах. Дзве паездкі за месяц даюць магчымасць толькі нармальна харчавацца, купіць штосьці з адзення жонцы ці сыну.

— А колькі трэба грошай, каб ты, адкінуўшы камерцыю на другі план, заняўся любімай справай. Філасофіяй, скажам, літаратурай, вершамі?

— Дзвесце долараў мне, сто жонцы. Кожны месяц. Але гэта нерэальна ў нашых умовах. А махлярыць ды сумленне пэцкаць не хачу...

Прыватныя гандляры з рэчавых рынкаў тыдзень назад страйкавалі, не вытрымаўшы ўціску падатковых інспекцый. Камерсанты, без дзейнасці якіх сярэдняму беларусу і не апрануцца як след, вымушаны былі выплачваць нейкія дадатковыя грошы на ўжо выплачаныя інспекцыям цвёрдыя сумы падаходных падаткаў. Дзякуй Богу, здаровы сэнс усё ж перамог. Дзейнасць падатковых інспекцый у гэтым напрамку пакуль спынена. Пакуль. Што будзе заўтра — невядома. Таму і цяжка знайсці зараз нашага філасофа. Мабыць, аббівае ганкі высокіх кабінетаў, каб захаваць сваё, набытае мазалём, губляе большасць разумовых сіл не для таго, каб павялічваць агульнакарысную аддачу ад уласнай справы, а для супрацьстаяння дзяржаве.

Ці ўсе, загнаныя ў кут безвыходнасці, вытрымаюць, колькі разоў абпячэ бізун руку, пакуль не выпрацуецца ў большасці рэфлекс, устойлівы і безнадзейны: ніхто не вінаваты, акрамя нас; што рабіць, не ведае і Усявышні.

Канапная армія Абломавых памнажаецца...

**Яўген РАГІН**